У нумары 4/2015
НАША ВЕРА




*Міласэрнасць – гэта слова, якое аб’яўляе Найсвяцейшую Тройцу. Міласэрнасць – гэта найвышэйшы і канчатковы чын, праз які Бог выходзіць нам насустрач. Міласэрнасць – гэта асноўны закон, які жыве ў сэрцы кожнага чалавека, калі ён глядзіць шчырымі вачыма на свайго брата, якога сустракае на жыццёвым шляху. Міласэрнасць – гэта шлях, які лучыць Бога з чалавекам, бо адкрывае сэрца на надзею, што мы будзем умілаваныя назаўсёды, нягледзячы на недасканаласць, якой ёсць грэх.*

З булы папы Францішка «*MISERICORDIAE VULTUS*».

*Пераклад Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў пры ККББ.*

# ЧАС МІЛАСЭРНАСЦІ

У Касцёле распачаўся аб'яўлены папам Францішкам Надзвычайны Юбілейны Год Божай Міласэрнасці. Спецыяльна з гэтай нагоды Папа падрыхтаваў булу *Misericordiae vultus* — «Аблічча міласэрнасці», якая падрыхтаваная да выдання і ў беларускім перакладзе. Папа заклікае вернікаў перадусім убачыць міласэрнасць не як абстрактнае паняцце, а як святое аблічча Хрыста, бачны знак міласэрнасці Бога Айца да чалавецтва. Гэты Юбілейны Год будзе адзначаны вялікай колькасцю святочных падзеяў, якія пройдуць не толькі ў Рыме, але і па ўсім свеце. У спецыяльным выданні «Каталіцкіх навінаў» будзе апублікаваная праграма юбілейных мерапрыемстваў, якія пройдуць ва ўсіх дыяцэзіях Беларусі.

Прапануем чытачам тэкст гаміліі, прамоўленай папам Францішкам напярэдадні Нядзелі Божай Міласэрнасці, калі быў аб'яўлены Надзвычайны Юбілейны Год. У гэтай гаміліі Святы Айцец тлумачыць, чаму менавіта цяпер нам так неабходна ўзгадаць пра веліч Божай міласэрнасці і нанова адкрываць для яе свае сэрцы, следуючы словам Хрыста: «Будзьце міласэрнымі, як і Айцец ваш міласэрны» (Лк 6, 36).

* * *

Словы, якімі Уваскрослы Хрыстус вітае вучняў у вечар Пасхі: «Спакой вам!» (Ян 20, 19), працягваюць гучаць у нас. Спакою <...> працягваюць жадаць многія людзі, што церпяць ад беспрэцэдэнтнай дыскрымінацыі і гінуць проста таму, што носяць імя «хрысціяне». Нашая малітва становіцца ўсё больш гарачаю і ператвараецца ў крык аб дапамозе, які мы ўзносім да Айца, шчодрага ў міласэрнасці, каб Ён падтрымаў веру мноства нашых братоў і сясцёр, што пакутуюць ад болю. Адначасова мы молім аб ласцы навяртання нашых уласных сэрцаў, каб яны змянялі абыякавасць на спачуванне.

Святы Павел нагадвае нам, што мы былі збаўленыя таямніцаю смерці і ўваскрасення Пана Езуса. Ён — Міратворца, які жыве сярод нас і прапануе шлях прымірэння з Богам і іншымі людзьмі. Апостал нагадвае, што насуперак жыццёвым цяжкасцям і пакутам у нас узрастае надзея на збаўленне, якую Хрыстус пасеяў у нашых сэрцах. Міласэрнасць Божая праліваецца на нас і ўчыняе нас справядлівымі, надзяляе нас спакоем.

У сэрцах узнікае пытанне: чаму цяпер аб'яўлены Юбілейны Год Міласэрнасці? Проста таму, што ў гэтыя часы вялікіх гістарычных зменаў Касцёл пакліканы паказваць свету больш відавочных знакаў Божай прысутнасці і блізкасці. Цяпер не час для адчаю, наадварот, мы мусім чуваць і нанова абудзіць у сабе здольнасць бачыць сутнаснае. Гэта час, каб Касцёл нанова адкрыў значэнне місіі, даверанай яму Панам у дзень Пасхі: быць знакам і прыладаю міласэрнасці Айца (гл. Ян 20, 21–23). Таму Святы год павінен падтрымаць у нас жаданне пазнаваць, як усім сэрцам прыняць шматлікія знакі ласкі, якія Бог прапануе ўсяму свету і асабліва тым, хто пакутуе, хто церпіць ад адзіноты і пакінутасці, без надзеі быць прабачанымі і адчуць любоў Айца. Святы год патрэбны, каб моцна перажыць унутры радасць таго, што нас знайшоў Езус, Добры Пастыр, які прыйшоў і шукаў нас, бо мы былі згубіўшыся. Юбілей патрэбны, каб адчуць цеплыню Яго любові, калі Ён нясе нас на плячах і вяртае ў дом Айца. Патрэбны год, калі да нас дакранецца Пан Езус і пераменіць нас сваёю міласэрнасцю, каб мы сталі сведкамі міласэрнасці. Для гэтага нам патрэбны Юбілей: бо гэта час для міласэрнасці. Гэта спрыяльны час, каб залячыць раны, час, каб нястомна сустракацца з тымі, хто прагне ўбачыць і сваімі рукамі дакрануцца да знакаў блізкасці Бога, час, каб паказаць усім і кожнаму шлях прабачэння і прымірэння.

Няхай жа Маці Божая адкрые нам вочы, каб мы зразумелі заданне, выканаць якое пакліканыя, няхай Яна выпрасіць для нас ласку перажыць гэты Юбілей міласэрнасці як верныя сведкі Хрыста, і прынесці добры плён.

*Папа Францішак*
*Ватыкан, 11.04.2015*




# Даверыцца Божай міласэрнасці

З Пастырскага паслання арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча
на Юбілейны Год Міласэрнасці

*Міласэрнасць Бога на вякі*
(пар. Пс 136 (135), 1)

Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, дарагія вернікі!

1. У велічную ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, распачынаючы ўстаноўлены Святым Айцом Францішкам Надзвычайны Юбілейны Год Міласэрнасці, сардэчна вітаю вас гэтымі словамі псальміста, у якіх выказаны давер да бязмежнага ў сваёй міласэрнасці Бога.

Тэалагічнае абгрунтаванне Юбілейнага Году знаходзіцца ў Святым Пісанні. Яшчэ ў часы Старога Запавету габрэі кожныя 50 гадоў адзначалі юбілейныя гады (пар. Лев 25, 8–17), падчас якіх людзям прабачаліся даўгі, зняволеныя атрымлівалі свабоду і г.д.

Каталіцкі Касцёл надаў габрэйскаму юбілею духоўны характар, які заключаецца ў прабачэнні і адпушчэнні грахоў, а таксама ў аднаўленні сувязі з Богам і бліжнімі.

Традыцыя святкаваць Юбілейны Год з'явілася падчас Пантыфікату папы Баніфацыя VIII у 1300 г. Ён запланаваў яго святкаванне на кожныя 100 гадоў. У 1475 г. з мэтай даць магчымасць кожнаму пакаленню людзей адзначыць Юбілей гэты час быў скарочаны да 25-ці гадоў. Маючы асаблівыя нагоды, Папа можа аб'явіць Надзвычайны Юбілей. Святы Год ужо абвяшчаўся 26 разоў. Апошнім быў Вялікі Юбілей 2000-годдзя хрысціянства, які Касцёл адзначаў па ініцыятыве св. Яна Паўла II. Гэты Юбілей увёў нас у трэцяе тысячагоддзе.

2. <...> Вядома, якое вялікае значэнне ў жыцці Касцёла і яго аднаўленні, у тым ліку ў адказе на выклікі часу, меў Другі Ватыканскі Сабор. Яго вучэнне застаецца актуальным, яшчэ не да канца раскрытым і выкарыстаным. Сам Сабор стаў вялікім актам Божай міласэрнасці, бо дзякуючы яму, вяртаючыся да Святога Пісання як адной з крыніц нашай веры, Касцёл прадставіў сябе не як прыгожы карабель, што красуецца сам па сабе, або як непрыступную крэпасць, а як пілігрымуючы ў Нябесны Ерузалем Божы народ (пар. LG 9). У гэтай пілігрымцы ён сустракае шмат цяжкасцяў, падобна таму, як сустракаў іх выбраны народ падчас пераходу з егіпецкай няволі ў Зямлю Абяцаную. І як тады Бог аказваў яму сваю міласэрнасць, таксама і сёння Ён праз Касцёл працягвае яе праяўляць.

Менавіта таму Святы Айцец Францішак, адметнасцю служэння якога з'яўляецца міласэрнасць, булай «*Misericordiae vultus*» («Аблічча міласэрнасці») аб'явіў Святы Год Міласэрнасці пад дэвізам «Міласэрныя, як Айцец». <...>

Езус заклікае спазнаць міласэрнасць праз навяртанне да жыцця паводле Божага закону. Таму міласэрнасць і праўда павінны сустрэцца. Без такой сустрэчы наша жыццё будзе падобна да аўтамабіля, які ніколі не спыняецца, нават пры чырвоным святле светлафора, што вядзе да катастрофы. Менавіта таму папа Францішак заклікае людзей, якія адышлі ад Божай ласкі, каб у мітусні сучаснага свету яны спыніліся, задумаліся над сваім жыццём, каб Юбілей стаў для іх добрай нагодай для вяртання да Бога (пар. MV 10–12). <...>

5. Мэта нашага жыцця — дасягненне святасці. У святле Божага Аб'яўлення неабходна памятаць пра тое, што святасць не дасягаецца выключна ахвяраю ці знешнім культам, але яшчэ і паслухмянасцю Богу праз сведчанне любові да бліжняга. Нездарма Езус кажа, што хоча не ахвяры, а міласэрнасці (пар. Мц 9, 13).

Таму міласэрнасць трэба разумець як справу нашага збаўлення. Касцёл не з'яўляецца фарпостам абсалютнага «не» і ўсялякай забароны. На Божы закон ён глядзіць не толькі праз прызму справядлівасці, але і праз прызму любові. Нельга супрацьпастаўляць справядлівасць і праўду міласэрнасці. <...>

6. <...> У Юбілейным Годзе, які пачынаецца, жадаю ўсім вам спазнаць бязмежнасць Божай міласэрнасці, даверыцца ёй, ёю жыць, быць яе інструментамі ў сучасным свеце і ад усяго сэрца благаслаўляю ў імя Айца + і Сына, і Святога Духа. Амэн.

*Арцыбіскуп*
*Тадэвуш Кандрусевіч*
*Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі*

*Мінск, 22 лістапада 2015 г.*
*Урачыстасць Пана нашага*
*Езуса Хрыста, Валадара Сусвету.*

# «Da mihi animas, caetera tolle»

## Кароткі нарыс пра гісторыю Таварыства святога Францішка Сальскага



З лацінскай мовы гэтыя словы перакладаюцца так: «Дай мне ду́шы, усё астатняе забяры». Гэта дэвіз Таварыства святога Францішка Сальскага, больш вядомага як салезіяне ксяндза Боска (SDB), і ў ім заключаная сутнасць духоўнасці і харызмы супольнасці. Гэтыя словы паходзяць з кнігі Быцця (гл. Быц 14, 21). Кароль Садома звяртаецца да Абрама, які захапіў ягонае каралеўства, кажучы: «Аддай мне людзей, а маёмасць вазьмі сабе», маючы на ўвазе, што падданыя значаць для яго больш, чым назапашанае багацце. Святы Францішак Сальскі ўпершыню ўжыў гэты выраз, крыху змяніўшы: «Дай мне душы, усё астатняе забяры», каб паказаць сваё захапленне Хрыстом, які жадае збаўлення кожнай душы, а ксёндз Ян Боска, жадаючы ахвярна наследаваць святога, зрабіў гэтыя словы дэвізам заснаванага ім манаскага таварыства.

Гэтыя словы сталі ўлюбёнай малітвай ксяндза Боска, і цяпер кожны салезіянін па прыкладзе свайго святога заснавальніка звяртаецца да Нябеснага Айца гэтымі словамі, просячы, каб Ён з іх дапамогай дазволіў як мага большай колькасці маладых душаў увайсці ў брамы вечнага Валадарства.

Таварыства святога Францішка Сальскага было заснаванае ў Італіі ў 1859 годзе святым Янам Боска, які ўсё сваё жыццё прысвяціў працы для дабра маладых людзей, выхоўваючы з іх сумленных грамадзянаў і добрых хрысціянаў. Выхаванцы святога Яна Боска сталі першымі членамі заснаванага ім Таварыства святога Францішка Сальскага, каб працягваць справу гэтага Настаўніка моладзі. Святы Ян Павел II так пісаў пра яго: «Ян Боска, дзякуючы асаблівай глыбокай любові, нават у самых вялікіх цяжкасцях цалкам аддаваў сябе моладзі. Ён мог гэта чыніць дзякуючы той унутранай моцы, якая неразрыўна яднала ў ім любоў да Бога і любоў да бліжняга. Такім чынам ён змог стварыць сінтэз евангелізацыі і выхавання» (Ліст на сотую гадавіну смерці св. Яна Боска, 31студзеня 1988 года).

У другой палове XIX стагоддзя Італія пакутавала ад разбуральных наступстваў атэістычных вучэнняў, занесеных у краіну падчас Французскай рэвалюцыі. Адукацыя і рэлігія ў краіне засталіся ў нечуваным заняпадзе. Не стаў выключэннем і Турын, дзе распачаў сваю працу святы Ян Боска.

Турын — горад са старажытнай гісторыяй і культурай, заснаваны каля 28 г. да нараджэння Хрыста. Ён стаў адным з найважнейшых цэнтраў хрысціянства: у турынскім саборы Яна Хрысціцеля захоўваецца і ўшаноўваецца найкаштоўнейшая рэліквія: цудоўная Плашчаніца Хрыста, пахавальная тканіна, у якую, як кажа традыцыя Касцёла, было загорнутае цела Езуса Хрыста пасля Яго пакутніцкай смерці. Турын з'яўляецца значным цэнтрам еўрапейскай адукацыі, ён вядомы сваім універсітэтам, заснаваным у XV стагоддзі. У XIX стагоддзі горад стаў важным эканамічным, прамысловым, гандлёвым і палітычным цэнтрам Еўропы. У 1861 г. Турын стаў сталіцай аб'яднанай Італіі і сталіцай Савойскага дому — кіруючай дынастыі Каралеўства Італія.

Аднак ксёндз Ян Боска сутыкнуўся на вуліцах Турына з нястачай, галечай і занядбанасцю. Ён бачыў моладзь без адукацыі і працы, многія, не маючы магчымасці зарабляць на жыццё, вымушаныя былі красці. Ён вырашыў дапамагчы юнакам, чым можа, і

ў 1845 г. у адным з раёнаў горада заснаваў першы араторый, а пасля школу і працоўныя майстэрні. Ён вёў душпастырскую працу з беспрытульнымі, вучыў юнакоў маліцца, удзяляў сакрамэнты споведзі і Камуніі, выхоўваў іх у духу Евангелля, вучыў служыць Богу і бліжняму ў грамадстве і ў Касцёле.

Ініцыятыва ксяндза Боска атрымала вялікую папулярнасць, і апрача школы ў Вальдокка, у 1847 г. была адкрытая яшчэ адна ў Порта Нуова, а ў 1849 г. — у Ванкільё. Але аднаму немагчыма было весці такую вялікую працу, і таму Ян Боска сабраў самых таленавітых вучняў, навучаў іх італьянскай, лацінскай і французскай мовам, матэматыцы і пасля накіроўваў працаваць у новыя школы. Старэйшыя вучні Яна Боска станавіліся яго супрацоўнікамі ў справе выхавання, ім даручалася правядзенне заняткаў з малодшымі і клопат пра іх. Многія выхаванцы ксяндза Боска адкрывалі ў сабе пакліканне да святарства і, прыняўшы сан, працягвалі дапамагаць яму ў школьных справах. Пачаў ствараецца прафесійны педагагічны калектыў.

Не ўсе ўхвалялі ініцыятыву святога Яна Боска, але тагачасны арцыбіскуп Турына Луіджы Франзоні спрыяў ксяндзу Боска, як і кароль Карл-Альберт. У 1852 г. было скончана будаўніцтва касцёла, які асвяцілі ў гонар святога Францішка Сальскага. Побач пачалося будаўніцтва прасторных будынкаў школы і рамесных майстэрняў. Прыкладна тады ж ксёндз Боска ўсвядоміў неабходнасць кансалідаваць і ўмацаваць сваю місію і стаў думаць пра стварэнне манаскай кангрэгацыі. У 1857 г. ён склаў першы статут таварыства, а на наступны год наведаў Рым, каб атрымаць раду і падтрымку ад папы Пія IX. У 1859 г. быў скліканы першы з'езд кангрэгацыі, падчас якога афіцыйна было заснавана Таварыства святога Францішка Сальскага.

Ян Боска недарэмна выбраў апекуном новай манаскай супольнасці святога Францішка Сальскага (1567–1622). Жыццё гэтага святога было надзвычай багатае на розныя падзеі і праходзіла ў часы, падобныя да тых, у якія давялося працаваць самому ксяндзу Боска. Святы Францішак Сальскі ў часы Рэфармацыі быў біскупам Жэневы. Ён супрацьстаяў уплыву кальвінізму і спрыяў адраджэнню каталіцтва ў сваёй айчыне, займаўся духоўнай і інтэлектуальнай фармацыяй духавенства, рэфармаваў кляштары, прапаведаваў у савойскіх і французскіх гарадах, вёў вуснае і пісьмовае духоўнае кіраванне, выступаў на багаслоўскіх дыспутах, палемізаваў з кальвіністамі ў пытаннях веры. Захавалася каля 2100 яго лістоў, каштоўных сваім тэалагічна-аскетычным зместам. Дзякуючы яго працы вернікі пачалі масава вяртацца ва ўлонне Каталіцкага Касцёла. Разам са сваім сябрам сенатарам Антоніем Фаўрам святы Францішак Сальскі заснаваў «Фларымантанскую Акадэмію», якая аб'яднала інтэлектуальную і мастацкую эліту рэгіёна і разглядала навуковыя пытанні ва ўзаемасувязі з пытаннямі хрысціянскай веры. Разам са святой Жаннай Франсуазай дэ Шанталь ён заснаваў жаночую кангрэгацыю Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі, кангрэгацыю сясцёр візітантак, якія спалучаюць кантэмпляцыйнае жыццё з працаю з беднымі і хворымі.

Святы Францішак стаў папярэднікам сучаснага душпастырства, стварыўшы новую школу духоўнасці. За час сваёй дзейнасці ён напісаў вялікую колькасць тэалагічных твораў і лістоў, якія разам складаюць 14 тамоў. Найбольш значнымі з яго прац з'яўляюцца «Філатэя, або шлях да рэлігійнага жыцця» (1609 г.) і «Трактат аб любові да Бога» (1616 г.).

У 1662 г. папа Аляксандр VII беатыфікаваў Францішка, а ў 1665 г. кананізаваў яго. У 1877 годзе папа Пій IX абвясціў яго доктарам Касцёла, а ў 1923 г. папа Пій XI назваў святога Францішка Сальскага апекуном пісьменнікаў, рэдактараў, каталіцкай прэсы і журналістаў.

Ян Боска жадаў, каб члены заснаванага ім таварыства наследавалі святога Францішка Сальскага ў яго ахвярнай працы, прапаведаванні, адданасці і любові да людзей, каб яны прытрымліваліся духоўнасці святога Францішка. Той любіў казаць: «На кроплю мёду злятаецца мухаў больш, чым на бочку воцату», і прытрымліваўся гэтага прынцыпу ў адносінах з людзьмі. Яго духоўнасць вызначалася цвярозасцю і далікатнасцю, ён лічыў, што «любоў вымяраецца бязмернасцю», і казаў: «Ці ёсць на свеце што-небудзь лепшае за дабрыню? Калі б было, Езус Хрыстус навучыў бы нас гэтаму. Але Езус дае нам толькі два ўрокі: "Вучыцеся ад Мяне, — кажа Ён, — бо Я ціхі і пакорны сэрцам"».

Новастворaная кангрэгацыя пачынае хутка развівацца. У 1863 і 1864 гг. адкрываюцца салезіянскія каледжы ў Мірабэлла, Манферата і Ланца. Гэта быў крок наперад для справы ксяндза Боска, таму што да гэтага часу кангрэгацыя працавала выключна ў межах Турына і толькі з беднымі падлеткамі.

У 1874 г. папа Пій IX зацвердзіў канчатковы варыянт Статута і Канстытуцый Таварыства святога Францішка Сальскага, пасля чаго салезіяне занялі сваё месца сярод іншых манаскіх супольнасцяў Касцёла. У 1875 годзе ў Ніцы адкрыўся першы салезіянскі дом за межамі Італіі.У тым жа годзе першая група салезіянскіх місіянераў накіравалася ў Паўднёвую Амерыку; былі створаны салезіянскія дамы ў Буэнас-Айрэсе, у Аргенціне.

У 1872 г. святы Ян Боска і святая Марыя Дамініка Мадзарэла засноўваюць жаночую галіну салезіянскага таварыства на аснове духоўнасці ксяндза Боска — яна атрымлівае назву Кангрэгацыя Дачок Найсвяцейшай Панны Успамогі Хрысціянаў. Кангрэгацыя ў сваёй працы была пакліканая падтрымліваць пабудаваную на евангельскіх каштоўнсцях выхаваўчую сістэму ксяндза Боска, ахінаючы сваёй апекай маладых дзяўчат.

Святым Янам Боска была створаная яшчэ адна арганізацыя, якая аб'яднала свецкіх людзей, што






жадалі дапамагаць дабрачыннай дзейнасці салезіянаў. Яна атрымала назву Таварыства салезіянскіх супрацоўнікаў. Ксёндз Боска задумаў стварыць такую грамадскую арганізацыю яшчэ ў самым пачатку сваёй дзейнасці, калі арганізоўваў першы араторый і яму была неабходная дапамога іншых людзей. Першай салезіянскай супрацоўніцай можна назваць яго маці Маргарыту, якая ва ўсім дапамагала сыну да самай сваёй смерці ў 1856 годзе. Папа Пій IX афіцыйна зацвердзіў Таварыства салезіянскіх супрацоўнікаў у 1876 годзе. Яго ўдзельнікі пакліканыя ў салезіянскім духу выконваць місію Касцёла, ажыццяўляючы апостальскую дзейнасць такім чынам, каб цалкам раскрыць сваё сямейнае і прафесійнае пакліканне, атрыманыя ад Бога таленты і здольнасці.

У 1877 г. былі адкрытыя салезіянскія каледжы ў італьянскай Спецыі, іспанскім Алмагра і ў сталіцы Уругвая Монтэвідэа. У гэтым жа годзе выйшаў першы нумар афіцыйнага часопіса кангрэгацыі — «Салезіянскі бюлетэнь», мэтаю якога было інфармаваць каталіцкі свет аб дабрачыннай працы таварыства і звяртацца па дапамогу ў добрых пачынаннях. Цяпер бюлетэнь выходзіць на васьмі мовах свету тыражом у 10 мільёнаў экзэмпляраў. У 1879 г. салезіянскія місіянеры былі пасланыя ў Патагонію, новыя каледжы ўзніклі ў іспанскай Наварры, французскіх Марсэлі і Сэн-Кіры. У 1880 г. была арганізаваная салезіянская місія ў В'едме, у Аргенціне, а ў 1883 г. быў адкрыты першы каледж салезіянаў у Нітэроі, у Бразіліі, з'явіліся місіі на Вогненнай Зямлі і Фалклендскіх астравах. У 1887 г. быў адкрыты першы каледж у Трыесце, які тады належаў да Аўстра-Венгрыі, у тым жа годзе салезіяне пачалі дзейнасць у Лондане і вялікая група місіянераў была пасланая ў Эквадор.

У 1888 г., калі ксёндз Ян Боска памёр, ва ўсіх кутках свету існавала ўжо 250 салезіянскіх супольнасцяў, дзе выхоўвалася 130 тысяч дзяцей. Штогод салезіянскія школы і каледжы выпускалі 18 тысяч вучняў. У 1888 г. салезіянскае таварыства падрыхтавала ўжо больш за 600 святароў.

Пераемнікам ксяндза Боска, па жаданні яго самога, стаў благаслаўлёны Міхал Руа, які паспяхова працягваў і развіваў дзейнасць кангрэгацыі. Падчас беатыфікацыі ксяндза Руа папа Павел VI сказаў: «Ксёндз Боска быў пачынальнікам салезіянскай сям'і, а ксёндз Руа — яго пераемнікам. Па прыкладзе святога ён учыніў школу жыцця, з яго статута — духоўнасць, з яго святасці — узор. Ручай ён учыніў ракой». Пры ім былі адкрытыя новыя салезіянскія цэнтры ў Францыі, Іспаніі, Італіі, Бельгіі, Партугаліі і Лацінскай Амерыцы. У 1889 г. з'явіліся салезіянскія каледжы на Святой Зямлі і на Афрыканскім кантыненце. У 1894–1911 гг. салезіяне пачалі працу ў Мексіцы, Тунісе, Венесуэле, Партугаліі, Балівіі, Калумбіі, Парагваі, ЮАР, Чылі, Сальвадоры, Перу, Індыі і Кітаі. Цяпер у свеце працуюць больш за 15 000 членаў таварыства, на 5-ці кантынентах, у 132-х краінах.

Нягледзячы на тое, што галоўнай мэтай салезіянскага таварыства з'яўляецца хрысціянская адукацыя і выхаванне моладзі, асабліва з ніжэйшых і сярэдніх слаёў грамадства, яно не адмаўляецца ні ад якой дабрачыннай дзейнасці. Сёння салезіяне працуюць у школах, дзе дзеці пачынаюць навучанне з пачатковых класаў і могуць, па жаданні, завяршыць яго ў семінарыі, рыхтуючыся да святарства. Салезіянскае таварыства займаецца таксама нядзельнымі школамі і школамі для тых людзей, якія ў сталым узросце жадаюць стаць святарамі, вядзе адукацыйныя курсы для працаўнікоў. Салезіяне працуюць у друкарнях і выдавецтвах рэлігійнай літаратуры, арганізуюць шпіталі і прытулкі, апякуюцца хворымі і зняволенымі. У Паўднёвай Амерыцы і Азіі яны займаюцца місіянерскай дзейнасцю.

Салезіяне працягваюць справу святога Яна Боска і імкнуцца заставацца вернымі харызме, якую ён ім пакінуў: «Быць для моладзі знакам Божай любові». Прынцыпамі працы салезіянаў з'яўляюцца найперш патрэбы моладзі і грамадскага асяроддзя, жаданне дзейнічаць у адзінстве з Касцёлам і ад яго імя, прагненне збудаваць больш справядлівы і братэрскі свет у Хрысце.

*Падрыхтавала Юлія Шэдзько.*
*Паводле матэрыялаў салезіянскіх інфармацыйных крыніцаў.*

# Настаўнік моладзі — святы Ян Боска



У гэтым годзе салезіяне ўсяго свету адзначаюць 200 гадоў з дня нараджэння святога Яна Боска, заснавальніка Таварыства святога Францішка Сальскага, Таварыства салезіянскіх супрацоўнікаў, сузаснавальніка Кангрэгацыі Дачок Найсвяцейшай Панны Успамогі Хрысціянаў і перадусім добрага айца і настаўніка моладзі, які выратаваў ад беднасці і даў добрую адукацыю і выхаванне тысячам занядбаных падлеткаў, распрацаваўшы для іх уласную педагагічную сістэму.

Ян Боска (Giovanni Bosco) нарадзіўся 16 жніўня 1815 года ў беднай сялянскай сям'і ў Бэккі, недалёка ад Турына, у італьянскай правінцыі П'емонт. Яго бацькі Францішак Боска і Маргарыта Ак'ена пры хрышчэнні далі свайму малодшаму сыну два імя: Ян Мельхіёр. У сям'і Боска было ўжо двое старэйшых сыноў: Антоній, сын Францішка Боска ад першага шлюбу, і Юзаф, сын Францішка і Маргарыты.

Калі Яну было 2 гады, бацька памёр і выхаваннем дзяцей пачала займацца адна маці, якая прывівала дзецям пабожнасць і працавітасць. Ян з дзяцінства вельмі жадаў стаць святаром, але толькі ў 16 гадоў ён змог пачаць навучанне ў лацінскай школе, пры гэтым самастойна зарабляючы на жыццё.

У 1835 годзе Ян паступіў у семінарыю ў К'еры і праз шэсць гадоў атрымаў святарскае пасвячэнне, менавіта тады абраўшы для сябе ў якасці дэвізу словы святога Францішка Сальскага, якія пазней сталі дэвізам усіх салезіянаў: «*Da mihi animas, cetera tolle*» — «Дай мне ду́шы, усё астатняе забяры». Акрамя святога Францішка Сальскага, Ян лічыў узорам для наследавання святога Філіпа Нэры і святога Альфонса Марыя дэ Лігуоры. У семінарыі Ян Боска пазнаёміўся з ксяндзом Юзафам Кафасса, які стаў яго духоўным настаўнікам і вельмі паўплываў на духоўную фармацыю маладога семінарыста.

Захаваліся сведчанні, што яшчэ ў дзевяцігадовым узросце Ян убачыў сон, які паўплываў на ўсё яго наступнае жыццё. Яму прыснілася шмат бедных, занядбаных хлопчыкаў, якія разам гулялі і блюзнерылі. Тады нейкі велічны чалавек сказаў Яну: «Пакорай і любоўю табе належыць прыцягнуць гэтых тваіх сяброў», а нейкая такая ж велічная дама дадала: «Стань пакорным, дужым і моцным. У свой час ты ўсё зразумееш». Таму, калі пасля святарскага пасвячэння ў 1841 г. малады ксёндз Ян Боска прыехаў у Турын, ён ужо думаў пра тое, як пачаць працу з гарадскою беднатою і асабліва з моладдзю. Ян быў адораны прыроднымі здольнасцямі захапляць маладых людзей і весці іх за сабою: ён быў надзвычай абаяльны, дасціпны, артыстычны, любіў музыку, спевы і спорт і быў вельмі моцны фізічна, што спалучалася з глыбокаю пабожнасцю, лагоднасцю і здольнасцю да спачування.

Ян уявіць не мог, якую галечу і адчай ён убачыць на гарадскіх ускраінах! Ксёндз Кафасса параіў маладому ксяндзу прайсціся па горадзе і агледзецца. Ян Боска сустрэў на вуліцах нікому не патрэбных дзяцей, якія гулялі на грошы па закутах, — на іх тварах была жорсткасць, а ў вачах — расчараванне, зломленасць любым коштам займець поспех у жыцці. Яны збіраліся ў сапраўдныя банды. Побач з галоўным гарадскім рынкам Ян Боска ўбачыў жахлівы рынак дзіцячай працоўнай сілы. Пазней ён пісаў: «Бліжэйшая да

Порта Палацца частка горада кішэла вандроўнымі гандлярамі, гандлярамі запалкамі, чысцільшчыкамі ботаў, камінарамі, памочнікамі конюха, разносчыкамі ўлётак, памочнікамі рыначных гандляроў. Усе гэтыя бедныя дзеці існавалі на сродкі ад падзённай працы». Ніякай адукацыі яны не атрымлівалі і часта, каб выжыць, ішлі на злачынствы. Занядбаныя падлеткі на турынскіх вуліцах сталі своеасаблівымі «адкідамі вытворчасці» прамысловай рэвалюцыі, якая крочыла па Еўропе. Прамысловая рэвалюцыя прынесла людзям нябачаны раней дабрабыт, і ў той жа час за яе прыйшлося заплаціць жахлівую цану чалавечымі жыццямі: у гарадах рэзка павялічылася колькасць насельніцтва, многія заставаліся без працы, цэлыя сем'і жабравалі і ў невыносных умовах жылі на гарадскіх ускраінах.

Разам з ксяндзом Юзафам Кафасса Ян Боска стаў наведваць гарадскую турму. Цёмныя калідоры, чорныя сырыя сцены, сумны і варты жалю выгляд зняволеных глыбока ўсхвалявалі маладога святара. Убачыўшы за кратамі падлеткаў, ён быў незвычайна ўзрушаны: «Я ўбачыў шмат падлеткаў ад 12-ці да 18-ці гадоў, здаровых, моцных, разумных; і ўбачыў, як яны нічога не робяць, як іх пажыраюць паразіты, як яны церпяць голад па духоўным і матэрыяльным пасілку. Мяне ахапіў жах».

Ксёндз Боска стаў наведваць турму. Ён спрабаваў размаўляць з хлопцамі, не толькі катэхізуючы іх, але і проста па-сяброўску. Спачатку падлеткі рэагавалі рэзка, але паступова некаторыя станавіліся болей даверлівымі і распавядалі пра сваё жыццё, пра жорсткасць і прыніжэнні, з якімі сутыкнуліся. Звычайным злачынствам для іх быў крадзеж, і найчасцей яны кралі таму, што былі галодныя, таму, што ім хацелася атрымаць больш, чым жабрацкі заробак за непамерную працу, якую яны мусілі выконваць. Грамадства нічым не змагло ім дапамагчы, а цяпер трымала іх за кратамі. Хлопцы сядзелі на чорным хлебе і вадзе, у агульных камерах, дзе мацнейшыя станавіліся настаўнікамі жыцця для малодшых і слабейшых. Выйшаўшы на волю, яны заставаліся нікому не патрэбнымі і неўзабаве зноў апыналіся ў вязніцы. Сям'і ў іх або не было, або бацькі ад іх адмовіліся, лічачы, што турма запляміла іх назаўсёды. Ян Боска піша: «Я казаў сабе: у гэтых хлопцаў павінен быць на волі сябар, які б паклапаціўся аб іх, дапамагаў ім, навучаў іх, а па нядзелях вадзіў да касцёла. Тады б яны не вярнуліся ў турму». Яго «катэхізацыю за кратамі» слухалі з усё большай ахвотай: «Я вучыў іх разумець, што такое чалавечая годнасць. Яны атрымлівалі ад гэтага задавальненне і вырашалі стаць лепшымі».

Пазнаёміўшыся з турмамі і гарадскімі ўскраінамі, ксёндз Боска падвёў першыя вынікі: моладзі была патрэбная школа і праца, з дапамогаю якіх яна магла б спадзявацца на больш надзейную будучыню. І больш за ўсё моладзі патрэбна было сустрэцца з Богам, каб распазнаць сваю чалавечую годнасць.

Такім чынам ксёндз Боска распачаў сваю апостальскую дзейнасць. З першым падлеткам, які прыйшоў да яго, Барталамеа Гарэллі, ён пазнаёміўся 8 снежня 1841 года; праз тры дні прыцягнутых дабрынёю маладога святара хлапчукоў стала ўжо дзевяць, праз тры месяцы — дваццаць пяць, а ўлетку 1842 года — восемдзесят. Так узнік араторый — дом малітвы — месца, дзе падлеткі праводзілі час у навучанні, гульнях і малітве, дзе яны маглі паесці і атрымаць дапамогу ў пошуках працы. Спачатку ксёндз Боска проста шпацыраваў са сваімі выхаванцамі па іх улюбёных мясцінах, служыў для іх Імшу, спавядаў і тлумачыў Евангелле, разам з імі абедаў, прыдумваў для іх забавы і рабіў падарункі. Аматар музыкі, ён нават арганізаваў з іх удзелам струнны аркестр. Падлеткі доўгі час збіраліся пры капліцы св. Францішка Сальскага, дзе працаваў ксёндз Боска, там жа ён адкрыў для іх вечаровую школу. Многіх людзей не задавальняла, што ён збірае пры касцёле беспрытульную моладзь, і араторый доўга пераязджаў з месца на месца. Нарэшце на паўночнай ускраіне горада, у раёне Вальдокка, было знойдзенае сталае памяшканне для араторыя. Па суседстве быў публічны дом і закінутыя могілкі, а з іншага боку пачыналіся палі. У сваіх «Успамінах» ксёндз Боска апісвае працу араторыя ў Вальдокка: «Рана на світанні адчыняўся касцёл і пачыналася споведзь. Яна працягвалася да самай Імшы. Імша распачыналася а восьмай гадзіне, але, каб задаволіць усіх, хто хацеў паспавядацца, яна часта пераносілася на дзявятую гадзіну. <...> Пасля да поўдня была школа». Праз гадзіну пачынаўся адпачынак, які нярэдка працягваўся ўжо да самага вечара. Ян Боска «падыходзіў да кожнага хлопчыка, і аднаму раіў быць больш паслухмяным, іншаму прапаноўваў прыйсці паспавядацца, і гэтак далей...» Ксёндз гуляў з хлапчукамі, рабіў з імі акрабатычныя трукі, але перш за ўсё ён быў святаром і духоўным настаўнікам для іх. Праца араторыя не завяршалася ў нядзелю. Ян Боска шукаў працу для тых, у каго яе не было, дамагаўся для хлопцаў лепшых працоўных умоваў, дадаткова займаўся з самымі разумнымі.

Многім хлопцам вечарам не было куды ісці, яны начавалі або пад мастом, або ў брудных начлежках. Ксёндз Боска ім-



кнуўся дапамагчы бяздомным. У маі 1847 года ён даў прытулак у кухні каля агню хлапчуку, які прыйшоў да яго з Вальсэзіі, пасля з'явіліся яшчэ шасцёра бяздомных. У 1852 годзе ён прыняў ужо 35 чалавек, у 1854 — 115; у 1860 — 470, і гэтак далей, пакуль не дайшло да памежнай магчымай колькасці — 800 падлеткаў. Каб утрымліваць іх, ксяндзу Боска патрэбныя былі грошы і дапамога. Першаю памочніцаю стала яго маці, бедная, непісьменная 58-гадовая сялянка, якая пакінула свой дом у вёсцы і прыйшла да сына, каб стаць кухаркай і прачкай для гарэзаў, якіх падбіраў ксёндз Боска. У першыя, самыя цяжкія дні, каб накарміць хлопцаў, яна прадала што мела, нават свой заручальны пярсцёнак. Гарадскія ўлады сталі разумець значэнне працы Яна Боска, і ён атрымаў падтрымку. Сталі з'яўляцца дабрачынцы.

Увосені 1853 г. у араторыі пачалі працаваць абутковая і кравецкая майстэрні, дзе першым настаўнікам быў сам ксёндз Боска. Потым адчыніліся майстэрні пераплётчыкаў, цесляроў, друкароў і кавалёў, а таксама школы вакальнай і інструментальнай музыкі. У 1862 г. араторый наведвалі ўжо 1200 дзяцей, большасць з якіх там жа жылі. Да Яна Боска пачалі далучацца першыя паслядоўнікі, многія з яго былых выхаванцаў выбіралі шлях святарства і ішлі дапамагаць свайму настаўніку. Тады ж Ян Боска заснаваў ў Вальдокка семінарыю для святароў з бедных слаёў насельніцтва.

Нарэшце з паслядоўнікаў ксяндза Яна Боска ў 1857 г. утварылася Таварыства святога Францішска Сальскага. Да смерці заснавальніка, у 1888 г., арганізацыі салезіянскай сям'і выпусцілі больш за 100 тысяч выхаванцаў, сярод якіх былі святы Дамінік Савіа (1842–1857) і святы Луіджы Арыёнэ (1872–1940).

Ян Боска быў вельмі адкрытым для прагрэсу сваёй эпохі. Ён стаў першым святаром, які падрыхтаваў экспазіцыю для нацыянальнай прамысловай выставы, стаў першым святым, які даў інтэрв'ю газеце. Ён выдаў 204 выпускі «Бібліятэкі італьянскага юнацтва», пісаў школьныя падручнікі і распрацаваў наватарскую педагагічную сістэму выхавання моладзі, якую назваў прэвентыўнаю.

Яна стала самай вялікай справай, якую ксёндз Боска пакінуў для Касцёла. Сістэма была заснаваная на прынцыпах добрасумленнасці і любові, свабоды ад прымусу і здольнасці заахвоціць вучняў да радаснага добравольнага супрацоўніцтва. Калі дарослыя не пагражаюць, а разважаюць, калі «гаспадар дома» — Бог, калі падлеткі не баяцца, а любяць выхаваўцаў, а тыя любяць іх, тады і ўзнікае сям'я.

Ксёндз Боска апісаў сутнасць сваёй сістэмы ў брашуры «Прэвентыўная сістэма выхавання юнацтва», якая выйшла ў 1876 годзе. Вось некаторыя вытрымкі з яе:

«Гэтая сістэма цалкам заснаваная на розуме, веры і добразычлівасці. У ёй выключаюцца гвалт і пакаранне; у ёй імкнуцца не выкарыстоўваць нават лёгкія пакаранні.

Дырэктар і асістэнты — як любячыя айцы: яны гутараць, служаць кіраўнікамі, даюць парады і выпраўляюць з любоўю.

Выхаванца не прыніжаюць,

ён становіцца сябрам выхавацеля. У асістэнце ён бачыць дабрадзея, які імкнецца зрабіць яго лепшым, выбавіць яго ад непрыемнасцяў, ад пакарання, ад ганьбы.

Практыка гэтай сістэмы цалкам заснаваная на словах апостала Паўла, які казаў: "Любоў доўгацярплівая, любоў ласкавая; усё пераносіць, на ўсё спадзяецца". Таму толькі хрысціянін можа з поспехам выкарыстоўваць гэтую сістэму. Розум і вера — вось тыя метады, якія павінен пастаянна ўжываць выхавацель.

Дырэктар павінен цалкам прысвяціць сябе сваім выхаванцам, павінен заўсёды знаходзіцца са сваімі выхаванцамі, нават калі яны адпачываюць.

Выхавацель павінен імкнуцца, каб яго любілі, а не баяліся».

Як бачна, прэвентыўная педагогіка ксяндза Боска выключала пакаранне, а выкананне правілаў дасягалася развіццём у дзецях шчырага пачуцця абавязку і ўніканнем найменшых прычынаў, якія маглі б прывесці да непаслухмянасці. Ніводзін высілак, скіраваны на дабро, не заставаўся без пахвалы. У слабасці характару дзіцяці ён вінаваціў перш за ўсё яго выхавацеляў, якія прымушаюць дзіця спаборнічаць з аднагодкамі і выкарыстоўваць уласную абаяльнасць, каб заслужыць пахвалу. Ян Боска лічыў, што перш за ўсё трэба фармаваць у дзіцяці сілу волі і характар. Ён пісаў: «Настаўленне — гэта толькі падвеска, гульня, самі сабою веды ніколі не чыняць чалавека чалавекам, бо не закранаюць сэрца напрамую. Веды дапамагаюць служыць дабру або злу, але самі па сабе яны, як рычаг, які трэба павярнуць». Ксёндз Боска імкнуўся ў кожным вучні выхоўваць добры музычны густ, лічачы, што музыка моцна ўплывае на фармаванне асобы, чыніць яе больш выскароднаю. Апроч таго, ён заўжды вывучаў здольнасці і памкненні вучняў, і таму хутка пранікаў у сэрцы дзяцей. У сваіх настаўленнях ён пісаў: «Частая споведзь, частая Камунія, штодзённая святая Імша — вось на што абапіраецца выхаванне», і сам цэлыя дні праводзіў з вучнямі: выслухоўваў іх, гуляў з імі, спавядаў. Гульню ён лічыў адным з асноўных педагагічных прынцыпаў, здольных выклікаць у дзіцяці зацікаўленасць у навучанні, а таксама давяраў у выхаванні словам святога Філіпа Нэры: «Я не буду табе перашкаджаць, што б ты ні рабіў, пакуль ты не грашыш».

Сакрэт святога Яна Боска быў у глыбокай самаадданай любові да даручаных яму Божым Провідам дзяцей, і гэтая любоў «выяўлялася ў словах, учынках і нават адбівалася ў вачах і на твары». У сваім лісце ён пісаў: «Ці ж недастаткова я люблю сваіх хлопцаў? Ты ведаеш, як я іх люблю. Ты ведаеш, колькі я адпакутаваў і выцерпеў дзеля іх за гэтыя сорак гадоў, і ведаеш, як я пакутую і цярплю цяпер. Колькі высілкаў я мусіў прыкласці, колькі прыніжэнняў і пераследаў мусіў ператрываць, колькі перашкодаў мусіў пераадолець, каб даць ім хлеб, дом, настаўнікаў, і асабліва, каб лячыць іх! Я зрабіў усё, што змог, для тых, каго любіў усё сваё жыццё... што ж яшчэ патрэбна? Трэба не толькі любіць дзяцей, трэба, каб яны ведалі, што іх любяць». Апошняе пасланне, якое ён незадоўга да смерці адрасаваў салезіянам, сведчыла пра тое, што назаўжды стала сэнсам яго жыцця: «Вашай апецы даручаю ўсе справы, якія Бог пажадаў даверыць мне <...>; найперш даручаю вам клопат аб беднай і пакінутай моладзі, якая заўсёды займала асаблівае месца ў маім сэрцы».

Ксёндз Ян Боска адышоў у вечнасць 31 студзеня 1888 г. ва ўзросце 73-х гадоў. Папа Пій XI беатыфікаваў яго 2 чэрвеня 1929 года, а праз 5 гадоў, 1 красавіка 1934 года, кананізаваў.

У сваім інтэрв'ю рэпарцёру газеты «Журналь дэ Ром» у 1884 годзе ён, сярод іншых, адказаў на наступныя пытанні:

— Якім цудам Вы здолелі заснаваць столькі дамоў у розных краінах?

— У мяне атрымалася зрабіць больш, чым я спадзяваўся, але як гэта сталася, я і сам не ведаю. Найсвяцейшая Дзева, якая ведае, што патрэбна сучаснаму свету, дапамагае нам.

— Дазвольце нясціплае пытанне: Вы калі-небудзь чынілі цуды?

— Я заўсёды думаў толькі пра тое, каб выканаць свае абавязкі. Я маліўся і спадзяваўся на Дзеву Марыю.

— Што Вы думаеце пра сучаснае становішча Касцёла ў Еўропе і ў Італіі і пра яго будучыню?

— Я не прарок. Прарокі — гэта вы, журналісты, таму трэба было б у вас спытацца, што адбудзецца. Ніхто, апроч Бога, не ведае будучыні. Тым не менш, паводле чалавечай логікі, будучыня абяцае быць змрочнаю. У мяне сумныя прадчуванні, але я нічога не баюся. Бог заўжды выратуе свой Касцёл...

*Падрыхтавала Юлія Шэдзько.*

*Паводле матэрыялаў салезіянскіх інфармацыйных крыніцаў, кніг Тэрэзіё Боска «Сон спраўдзіўся» (выдавецтва салезіянскага таварыства, 1991) і Антоніё Сікары «Партрэты святых» (Хрысціянская Расія, 1991).*

# Дзейнасць Таварыства святога Францішка Сальскага на Беларусі

На тэрыторыю сучаснай Беларусі салезіяне прыехалі каля 1920 года і ў 1922 годзе пачалі працу ў мястэчку Дварэц на Наваградчыне, дзе адкрылі інтэрнат і школу. Каб умацаваць каталіцтва на гэтых тэрыторыях, князёўна Марыя Радзівіл (з Завішаў) пажадала ахвяраваць якой-небудзь манаскай супольнасці свой палац у Дварцы, 250 гектараў зямлі і 1000 гектараў лесу, каб законнікі заняліся адукацыяй і прафесійным выхаваннем мясцовай моладзі, што расла ў беднасці і занядбанасці. Яна выбрала для гэтага нядаўна заснаваную супольнасць салезіянаў, пра дзейнасць якіх пачула за мяжой. Арганізатарам беларускай салезіянскай супольнасці стаў ксёндз Людвіг Гастыла SDB. Палац быў перабудаваны, да яго была далучаная капліца, а побач узніклі будынкі сірочага дома, школы і інтэрната для студэнтаў-рамеснікаў. Пляцоўка атрымала назву ў гонар святога Юзафа, прачыстага абранніка Найсвяцейшай Дзевы — гэтак заснавальнікі імкнуліся паказаць вучням постаць гэтага святога як узор працавітасці, цнатлівасці і мужнасці. У Дварцы салезіяне вучылі і выхоўвалі хлопцаў, а таксама давалі ім прафесійную адукацыю па цяслярстве і вырабе абутку. Адразу навучанне пачалі 24 вучні, хлопцы-сіроты, пасля іх колькасць вырасла амаль у дзесяць разоў. Вучыцца ў салезіянскай школе лічылася вельмі прэстыжным, вучні атрымлівалі добрую адукацыю і майстэрства ў прафесіі.

Школа ў Дварцы працавала да верасня 1939 г., калі савецкая армія ўвайшла ў мястэчка і заняла тэрыторыю школы, канфіскаваўшы ўсю маёмасць салезіянаў, спаліўшы багатую бібліятэку і архівы, выкінуўшы з інтэрната выхаванцаў.

Гісторыя салезіянаў на нашых землях аднавілася толькі напрыканцы XX стагоддзя, і цяпер у Беларусі служаць прадстаўнікі 4-х галінаў салезіянскай сям'і: салезіяне ксяндза Боска (SDB), Дочкі Марыі Успамогі Хрысціянаў (FMA), Асацыяцыя салезіянаў супрацоўнікаў (ACS) і Супольнасць св. Міхала Арханёла (CSMA). На сённяшні дзень у Беларусі працуе 15 сабратоў салезіянаў, якія абслугоўваюць 10 парафій. На этапе фармацыі знаходзяцца яшчэ 5 маладых сабратоў. Асноўныя салезіянскія цэнтры знаходзяцца ў Мінску, Смаргоні, Бараўлянах і Дзятлаве. Таксама салезіяне працуюць у Барунах, Жупранах, Раўбічах.

**Мінск**

Рымска-каталіцкая парафія святога Яна Хрысціцеля ў Мінску заснаваная салезіянамі ў 1991 годзе. Яе прыналежнасць да Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла, згодна з запісам у статуце, была зацверджана 21 лістапада 1991 г. кардыналам Казімірам Свёнткам, арцыбіскупам Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім. Дзяржаўную рэгістрацыю парафія атрымала 18 красавіка 1996 года. 24 чэрвеня 2000 года адбылося асвячэнне зямлі пад будаўніцтва святыні і ўсталяванне крыжа. Асвяціў зямлю дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Кірыл Клімовіч. Гэта быў першы пасля 1910 года зямельны надзел, асвечаны ў Мінску для будаўніцтва каталіцкай святыні. Будаўніцтва капліцы распачалося ў жніўні 2001 года, і ўжо 24 чэрвеня 2002 года капліцу асвяціў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Кірыл Клімовіч. Першую святую Імшу ў ёй 23 чэрвеня 2002 года ўзначаліў





Дварэц. Салезіянская школа ў палацы Радзівілаў. Фота 1934-1937 гг.
*Фотаздымкі з сайта www.radzima.org*



Новы салезіянскі касцёл святога Яна Хрысціцеля ў мінскім мікраараёне «Серабранка».

Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Іван Юркавіч. Цяпер парафія таксама будуе новую святыню ў гонар заснавальніка салезіянаў — святога Яна Боска.

Пры парафіі працуе моладзевы цэнтр імя святога Яна Боска. За гады яго існавання выкарыстоўваліся розныя метады працы з дзецьмі і моладдзю: арганізаваныя разнастайныя суполкі па інтарэсах, праводзяцца вакацыі для дзяцей і моладзі і разнастайныя мерапрыемствы на працягу года, у цэнтры працуе спартыўная зала. Цэнтрам апякуюцца святары і семінарысты Таварыства святога Францішка Сальскага, законныя сёстры Кангрэгацыі Дачок Найсвяцейшай Панны Успамогі Хрысціянаў, а таксама група аніматараў з салезіянскай моладзі. Цэнтр адкрыты не толькі для вернікаў, яго наведвае і няверуючая моладзь.

### Смаргонь

Вялікім цэнтрам дзейнасці салезіянаў на Беларусі з'яўляецца таксама Смаргонь. Салезіяне пачалі працаваць у парафіі св. Міхала Арханёла ў 1993 г., неўзабаве пасля таго, як святыня была аддадзеная вернікам.

Святыня ў Смаргоні, выбітны помнік архітэктуры рэнесансу, была ўзведзена ў 1606-1612 гг. Мікалаем Багуславам Зяновічам як кальвінскі збор, а ў 1621 г., дзякуючы Сафіі Зяновіч, будынак збору быў перададзены пад каталіцкі касцёл і асвечаны ў гонар Святой Тройцы. У 1655 г. касцёл быў моцна пашкоджаны, аднак вернікі за ўласныя сродкі аднавілі яго. У 1866-1921 гадах будынак касцёла належаў праваслаўным і быў перайменаваны ў Міхайлаўскую царкву. Католікі вярнуліся ў сваю святыню толькі ў 1926 г., а ў 1947 г. яе зачынілі камуністычныя ўлады і прыстасавалі пад выставачную залу. Касцёл быў ізноў вернуты католікам у 1990 годзе.

У 1989 г. адзіным месцам у Смаргоні, дзе магла збірацца каталіцкая моладзь, быў падвал у касцёле. Менавіта там пачаў квітнець салезіянскі араторый святога Яна Боска. Спачатку там, а пасля ў новым будынку для моладзі арганізуюцца катэхетычныя заняткі, сустрэчы, забавы. 5 верасня 2004 года адбылося адкрыццё новага цэнтра для моладзі, якая прагне жыць з Богам і праслаўляць Яго сваім штодзённым жыццём.

### Баруны

Салезіяне апякуюцца старажытнай парафіяй святых Апосталаў Пятра і Паўла ў вёсцы Баруны. Цудоўны абраз Найсвяцейшай Багародзіцы, які сёння ўшаноўваюць у барунскім касцёле, шмат гадоў быў ва ўладанні базыліяніна Язафата Бражынца, які праз яго цудоўную моц чыніў шматлікія цуды. Пасля яго смерці абраз перайшоў у спадчыну Мікалаю Песляку, сваяку ўніяцкага манаха, якому ён даручыў апеку над каштоўным скарбам і перад смерцю заклікаў яго, каб абраз быў выстаўлены для агульнай пашаны. Мікалай Песляк, аднак жа, не паслухаў айца Язафата і схаваў святыню ў скрыню ў сваім фальварку ў Казякоўшчыне. Неўзабаве Мікалай цяжка захварэў, а ў агоніі раптам аб'явілася яму Марыя са словамі: «Чаму не дбаеш аб належным месцы для Майго абраза, які атрымаў ад Майго вернага слугі Бражынца? Прагну, каб людзі, якія просяць дапамогі ў Майго Сына, атрымоўвалі яе пры Маім абразе». Марыя сама паказала месца, дзе павінна разлівацца Яе святая ласка — барунскі лес. Напалоханы Мікалай Песляк змясціў абраз у невялікай драўлянай капліцы на дрэве каля месца аб'яўлення. У 1692 г. на гэтым месцы на яго ныя сродкі была пабудаваная ўніяцкая драўляная царква. У 1700-1707 гг. на месцы драўлянай была ўзведзеная мураваная царква, пазней знішчаная пажарам, а ў 1715 г. аднаўленая ўніяцкім мітрапалітам Лявонам Кішкам. У 1747-1757 гадах па праекце архітэктара А. Асікевіча была пабудаваная новая мураваная царква (дабудаваная ў 1760-1770 гг.). У 1778-1793 гг. каля святыні быў пабудаваны каменны кляштарны корпус айцоў базыліянаў, рэканструяваны ў канцы XIX стагоддзя. У 1793 г. пры кляштары адкрылася школа, а ў 1920 г. тут пачала працаваць беларуская настаўніцкая семінарыя.



Касцёл святога Міхала Арханёла ў Смаргоні.

У 1833 г. ва ўніятаў адабралі кляштар і аддалі праваслаўным. Святыню пасля рэканструкцыі назвалі ў гонар Пакрова Прасвятой Багародзіцы, але ўжо ў 1922 г. царква была перададзеная

каталікам лацінскага абраду і цяпер з'яўляецца рыма-каталіцкай.

**Жупраны**

Першы драўляны касцёл у Жупранах быў пабудаваны каля 1550 года. Пад канец XVI стагоддзя каталіцкую святыню прыстасавалі пад кальвінскі збор. У 1854 г. па фундацыі графа А. Чапскага распачалося будаўніцтва новага мураванага касцёла. У працах прымаў удзел беларускі пісьменнік Францішак Багушэвіч. З-за недахопу грошай і паўстання 1863 г. будаўніцтва было прыпынена. У 1875 г. святыню дабудавалі і асвяцілі ў гонар святых Апосталаў Пятра і Паўла. У 1900 г. у касцёле была цэлебраваная жалобная Імша па святой пямяці Францішку Багушэвічу. Яго магіла і сёння знаходзіцца на могілках за касцёлам. У 1901 годзе ў сцяну святыні была ўмуравана памятная пліта з партрэтам беларускага песняра, выкананая скульптарам Янам Арасімовічам.

**Дзятлава**

Дзятлаўскі касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі пабудаваны ў 1646 г. Казімірам Львом Сапегам. У 1743 г. будынак касцёла быў моцна пашкоджаны пажарам. У гэтым жа годзе па фундацыі Мікалая Фаўстына Радзівіла пачынаецца аднаўленне святыні архітэктарам Аляксандрам Асікевічам. У 1882 г. яшчэ адзін пажар знішчыў дах святыні. У 1900 г. касцёл звонку быў абнесены мураванай сцяной з брамаю і вуглавымі капліцамі. На жаль, ні брама, ні сцяна з капліцамі да нашых часоў не захаваліся.

**Раўбічы**

У 1650 г. на ўзгорку над ракой Ушачай аб'яўляецца абраз Маці Божай Карміліцы (Lactasti Sacro Ubere), які падчас навальніцы ўратаваў шляхціца Лукаша Халеву, уладальніка вёскі Халяўшчына. Хвою, на якой быў знойдзены абраз, «акружылі 8-кутнай капліцай, а яе крона стала купалам». Са з'яўленнем абраза звязвалі заканчэнне вайны са шведамі: Маці Божая абараняла людзей ад розных бедстваў, эпідэмій і інш. У сярэдзіне XVIII ст. абраз быў выкрадзены, і неўзабаве падчас ляснога пажару святыня згарэла. У 70-я гг. XVIII ст. выкрадальнік вярнуў абраз, і гэта натхніла жыхароў на будаўніцтва новай, таксама драўлянай, святыні. У 1858-1862 гг. на месцы драўлянага быў узведзены мураваны касцёл. У ліпені 1866 г. было прынятае рашэнне аб передачы святыні праваслаўным. Будынак значна пацярпеў у гады Другой сусветнай вайны і стаяў без рамонту да 1970-х гадоў, усё ўнутранае ўбранне было страчана. У цяжкі для святыні час абраз «Раўбіцкай Карміліцы» схаваў адзін з мясцовых жыхароў і след яе згубіўся. У 1976 г. у касцёле быў адкрыты музей народнага мастацтва. Католікі намагаюцца вярнуць святыню. У Раўбічах зарэгістраваная парафія святога Мацвея, побач з касцёлам будуецца капліца.

**Бараўляны**

10 верасня 2000 г. кардынал Казімір Свёнтэк сваім дэкрэтам абвясціў аб заснаванні парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Успамогі Хрысціянаў у Бараўлянах. 13 сакавіка 2001 г. парафію зарэгістраваў Мінскі абласны выканаўчы камітэт. Пад будаўніцтва будучай капліцы і касцёла была выдзелена пляцоўка памерам 0,8 га на прыгожым узгорку на паўночнай ускраіне пасёлка Лясны, які знаходзіцца ў цэнтры Бараўлянскага сельскага савета Мінскага раёна. На месцы будучай каталіцкай святыні быў усталяваны крыж, які асвяціў Апостальскі нунцый Іван Юркавіч. Парафія паступова павялічвалася. Пачаўся збор сродкаў на будаўніцтва капліцы, і ўжо ў красавіку 2002 года пачалося яе ўзвядзенне. Праца ішла хутка. Як толькі на будынку ўзвялі дах, набажэнствы пачалі цэлебраваць у новай капліцы. 9 мая 2004 г. Апостальскі нунцый Іван Юркавіч урачыста асвяціў капліцу ў гонар Маці Божай Успамогі Хрысціянаў. У 2006 г. пры парафіі распачалося будаўніцтва араторыя імя святога Дамініка Савіа. 20 верасня 2014 г. адбылося яго святочнае адкрыццё. У бараўлянскі парафіяльны цэнтр уваходзяць дом для салезіянаў, катэхетычныя класы, араторый для моладзі, спартыўная зала.

У 2015 годзе адбылася яшчэ адна значная падзея для беларускіх салезіянаў: ксёндз Аляксандр Яшэўскі SDB рашэннем папы Францішка быў прызначаны на пасаду дапаможнага біскупа Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, адказнага за пастырскую дзейнасць у Магілёве і Магілёўскай вобласці. 5 ліпепя ў магілёўскай катэдры Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Станіслава адбылася ўрачыстая святая Імша і прадстаўленне новапрызначанага біскупа. Гэта новая старонка гісторыі Каталіцкага Касцёла на Магілёўшчыне і новая старонка гісторыі салезіянскага таварыства на Беларусі.

*Падрыхтавала Юлія Шэдзько.*

*Паводле матэрыялаў салезіянскіх інфармацыйных крыніцаў.*

Анастасія Вудэн

# Агент Езуса Хрыста

***Пра ўдзел у Другім Ватыканскім Саборы ў якасці назіральніка айца Віталія Баравога***

У студзені 2016 г. спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння нашага суайчынніка, праваслаўнага святара а. Віталія Баравога (1916–2008). Мала хто з нас, беларускіх католікаў, ведае, што гэты выдатны багаслоў і дзеяч Рускай Праваслаўнай Царквы адыграў адметную ролю і ў гісторыі Каталіцкага Касцёла. Таму я хачу не толькі распавесці пра жыццё выдатнага чалавека з Беларусі, але і асвятліць адну з вельмі важных старонак у адносінах паміж Каталіцкім Касцёлам і Рускай Праваслаўнай Царквой, у прыватнасці, удзел прадстаўнікоў РПЦ у якасці назіральнікаў у працы Другога Ватыканскага Сабору. Згадаю, што ў гэтым годзе наш Касцёл адзначае 50-ю гадавіну завяршэння працы Сабору (1962–1965), які стаў найбольш важнай для яго падзеяй у гісторыі мінулага стагоддзя.

Айцец Віталій Баравы нарадзіўся 18 студзеня 1916 года ў вёсцы Несцераўка (тады гэта была тэрыторыя Польшчы, а цяпер Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці) у вельмі беднай сялянскай сям'і. Пасля заканчэння ім сямігадовай народнай школы яго маці прадала адзіную карову, каб ён мог працягваць адукацыю спачатку ў Віленскай духоўнай семінарыі, якую скончыў лепшым вучнем, а потым на праваслаўным багаслоўскім факультэце Варшаўскага ўніверсітэта, які ён не скончыў з-за Другой сусветнай вайны. Як чалавек з багаслоўскай адукацыяй Віталій Баравы быў запрошаны ў Мінск, дзе выконваў розныя царкоўныя абавязкі, але быць святаром ён не збіраўся. З наступленнем Чырвонай Арміі ў 1944 годзе ён толькі дзякуючы выпадку пазбег дэпартацыі ў Германію, але з вяртаннем савецкай улады быў арыштаваны СМЕРШам за тое, што ў час акупацыі працаваў сакратаром Мінскай епархіі, і, каб пазбегнуць пакарання, Віталій Баравы ў канцы кастрычніка 1944 г. быў рукапаложаны ў святары.

За доўгія гады сваёй царкоўнай дзейнасці а. Баравы служыў пастырам, настаўнікам, багасловам і дыпламатам. Як настаяцель працаваў спачатку ў Гомелі, а потым у Жэневе і Маскве. Ён быў асабліва вядомы сваім прапаведніцкім дарам. Нягледзячы на яго моцны беларускі акцэнт і нават раптоўнае заіканне, людзі прыходзілі, каб пачуць яго шчырыя, палымяныя і змястоўныя казанні, якія ў 1980-я гады маскоўскія вернікі запісвалі на схаваныя пад вопраткай магнітафоны (пасля яны былі надрукаваныя). Адзін з арганізатараў і першых выкладчыкаў Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах, а пазней Ленінградскай духоўнай акадэміі, а. Віталій быў цудоўным педагогам і вылучаўся бліскучымі ведамі царкоўнай гісторыі, натхнёным стылем выкладання і шчодрасцю, з якой ён дзяліўся са студэнтамі сваім часам, ведамі і кнігамі. Але больш за ўсё а. Баравы хацеў быць вучоным, як яго кумір — вядомы рускі гісторык Царквы В. В. Болатаў. (Ён нават жартаваў, што калі не здолее быць такім вялікім, як Болатаў, то стане проста «балатоўчыкам».) Хаця абставіны жыцця не дазволілі яму застацца прафесарам, ён усё роўна быў багасловам сусветнай вядомасці — а. Віталій Баравы атрымаў ступень доктара ў Маскоўскай духоўнай акадэміі, Бернскім універсітэце (Швейцарыя), Карлавым універсітэце (Чэхія) і Свята-Уладзімірскай семінарыі (ЗША). Глыбокія веды царкоўнай гісторыі і менавіта заходняга хрысціянства спрыялі а. Баравому ў працы супрацоўніка Аддзела знешніх царкоўных зносінаў (АЗЦЗ) РПЦ. Менавіта ў гэтай ролі ён актыўна ўдзельнічаў не толькі ў працы Другога Ватыканскага Сабору, але і ў працэсе, які стварыў умовы для прысутнасці на ім назіральнікаў ад РПЦ.

Калі папа Ян XXIII у 1959 г. нечакана для ўсіх абвясціў аб скліканні Сабору, ён вызначыў яго мэтаю *aggiornamento — аднаўленне* касцёльнага жыцця, каб Касцёл мог лепш абвяшчаць Добрую Навіну ў свеце. Папа запрасіў усіх хрысціянаў свету «пайсці за намі па шляху пошуку еднасці і Божай ласкі». Дзеля гэтага ён хацеў запрасіць на Сабор назіральнікаў і гасцей ад розных хрысціянскіх Цэркваў, аб'яднанняў і ўстановаў.

**Анастасія Вудэн** — магістр тэалогіі, дактарант Каталіцкага ўніверсітэта ў Вашынгтоне. Нарадзілася ў Мінску. Закончыла філасофска-эканамічны факультэт БДУ. Напісала працу пра жыццё і дзейнасць айца Мікалая Афанасьева. Выкладае хрысціянскія веды для дарослых у касцёле св. Францішка (Роквіл, Мэрылэнд). Жыве і працуе ў ЗША.



Ян XXIII на сустрэчы з назіральнікамі падчас працы Сабору.
Ззаду стаяць архімандрыт Уладзімір Катляроў, протапрэсвітар Віталій Баравы і біскуп Вілебрандс.

На першай сесіі Сабору прысутнічала 38 назіральнікаў і гасцей. Самым нечаканым і нават дзіўным было прыбыццё назіральнікаў толькі ад адной з усіх праваслаўных Цэркваў, ад РПЦ — протапрэсвітара Віталія Баравога і архімандрыта Уладзіміра Катлярова. Менавіта а. Баравы, які прысутнічаў на ўсіх чатырох сесіях Сабору, быў галоўнай дзеючай асобай у сваёй дэлегацыі. Прысутныя на Саборы біскупы спрабавалі адказаць сабе на пытанне: што на каталіцкім Саборы робяць святары з камуністычнай і атэістычнай краіны? Адны бачылі ў іх агентаў савецкіх спецслужбаў; іншыя дзівіліся, як ім было дазволена ўладамі мець падобныя адносіны з Ватыканам. Гэта была звыклая рэакцыя, выкліканая складаным становішчам Царквы ў СССР і ўмовамі халоднай вайны ў міжнародных адносінах. Пазней а. Баравы так каментаваў гэтую сітуацыю: «Тут нас клічуць агентамі КДБ. У Маскве атэісты клічуць нас агентамі буржуазнага імперыялізму. А на самай справе мы — агенты Езуса Хрыста». Сапраўды — у гэты час РПЦ не толькі пераследавалася савецкай уладай — яе знешнія адносіны цалкам кантраляваліся і выкарыстоўваліся для розных мэтаў знешняй палітыкі СССР. Таму зносіны РПЦ з Ватыканам шмат у чым былі абумоўленыя адносінамі СССР да Ватыкана. А на пачатку 1960-х гадоў гэта былі адносіны варожасці, выкліканыя адкрытым ватыканскім асуджэннем камунізму і атэізму. У «Вялікай савецкай энцыклапедыі» Ватыкан быў ахарактарызаваны як «*душитель свободной человеческой мысли, глашатай мракобесия, оружие англо-американского империализма и участник в подготовке и развязывании новой империалистической войны*», а экуменізм савецкая прапаганда называла «эпідэміяй,» якую разносілі амерыканскія пратэстанты з мэтаю заняволення чалавецтва пад «пятою» капіталізму. У гэтых неспрыяльных умовах супрацоўнікі АЗЦЗ РПЦ шукалі шляхоў забеспячэння фізічнага выжывання і дабрабыту Царквы праз пашырэнне яе знешніх сувязяў, і таму а. Баравы быў адной з галоўных асобаў у гэтым працэсе.

Запрашэннем назіральнікаў займаўся спецыяльна створаны Сакратарыят па садзейнічанню хрысціянскай еднасці, прэзідэнтам якога быў духоўнік Папы нямецкі кардынал Аўгусцін Бея, а сакратаром — дацкі біскуп Яханэс Вілебрандс. Перад тым як даслаць афіцыйныя запрашэнні, Ватыкан хацеў пераканацца, што яны будуць прынятыя. З гэтай мэтай біскуп Вілебрандс асабіста наведаў усе буйнейшыя хрысціянскія



Папа Павел VI і протапрэсвітар Віталій Баравы.

Цэрквы і супольнасці. У лютым 1961 года ён прыехаў і на Фанар (Стамбул) да Канстанцінопальскага Экуменічнага Патрыярха (які займае ганаровае месца *primus inter pares* — першы паміж роўных — сярод праваслаўных патрыярхаў). Патрыярх Афінагор зацікавіўся магчымасцю даслаць на Сабор назіральнікаў, але вырашэнне гэтага пытання патрабавала згоды ўсіх праваслаўных мясцовых Цэркваў у адпаведнасці з пагадненнем на Першым усеправаслаўным кангрэсе на Родасе (1961). Трэба адзначыць, што пры запрашэнні праваслаўных назіральнікаў Сакратарыят цалкам спадзяваўся на Экуменічнага Патрыярха і непасрэдна не кантактаваў з мясцовымі праваслаўнымі Цэрквамі, і тым больш з РПЦ, замежныя кантакты якой былі рэгламентаваныя савецкімі ўладамі. Таму, калі ў траўні 1961 г. «*Журнал Московской патриархии*» надрукаваў ананімны артыкул з назваю «*Non possumus*», каталіцкім бокам ён быў успрыняты як неафіцыйны адказ на неафіцыйнае запрашэнне.

Спасылаючыся на словы апостала Пятра ў Дзеях Апосталаў (4, 20), аўтар артыкула растлумачыў, чаму «мы як праваслаўныя не можам удзельнічаць у Саборы Каталіцкага Касцёла». Былі разгледжаны дзве галоўныя прычыны: па-першае, той факт, што Сабор быў названы «сусветным» (экуменічным) без поўнага ўдзелу праваслаўных Цэркваў, і такім чынам зазначалася прэтэнзія на сусветнае панаванне Рымскага Пасаду. Па-другое, пад сумненне былі пастаўлены сапраўдныя мэты Сабору: напрыклад, ці не спрабуюць каталікі стварыць нейкую бачнасць «сусветнасці» шляхам заваблівання назіральнікаў? У выніку, калі ў ліпені 1962 г. кардынал Бея даслаў афіцыйнае запрашэнне ў Экуменічны Патрыярхат і адпаведныя інфармацыйныя лісты ў некаторыя праваслаўныя Цэрквы, РПЦ ні запрашэння, ні ліста не атрымала.

Цікава, што ўжо пасля Сабору а. Баравы зусім інакш патлумачыў назву *Non possumus*: не «мы не можам», а «нам не дазваляюць». Аднак стаўленне СССР да Ватыкана кардынальна змянілася з абраннем папы Яна XXIII. Магчыма, што гэта было абумоўлена яго сціплым паходжаннем і простым пастырскім стылем. Ён нарадзіўся ў беднай сялянскай сям'і і большую частку сваёй касцёльнай дзейнасці правёў на ўскраінах — у Турцыі, Балгарыі, Грэцыі, дзе блізка пазнаёміўся з усходнім хрысціянствам. Яго выступленні ў абарону сацыяльна прыніжаных людзей прынеслі яму рэпутацыю «добрага Папы» і нават «чырвонага Папы». Усё гэта падабалася Хрушчову, які ў гэты час сам шукаў новых шляхоў нармалізацыі адносінаў з Захадам. Таму, як адзначыў першы пасол СССР у Ватыкане Юры Карлаў, падрыхтоўчы перыяд Другога Ватыканскага Сабору супаў з пачаткам непасрэдных кантактаў паміж савецкім кіраўніцтвам і Ватыканам. Менавіта ў гэтым палітычным кантэксце і з'явілася магчымасць удзелу РПЦ у Саборы.

Айцец Віталій Баравы, які ў гэты час быў супрацоўнікам Аддзела знешніх царкоўных зносінаў РПЦ, з самага пачатку прымаў актыўны ўдзел у рэалізацыі гэтай магчымасці. Ужо ў траўні 1962 г., падчас асабістай сустрэчы з біскупам Вілебрандсам у Жэневе, ён даведаўся, што Сакратарыят можа зрабіць выключэнне для РПЦ і прасіць яе даслаць назіральнікаў на Сабор. Такая магчымасць падавалася вельмі прывабнаю і мітрапаліту Нікадзіму, які ў той час узначальваў АЗЦЗ і лічыў, што кожная мясцовая Царква можа прымаць рашэнні незалежна ад Экуменічнага Патрыярха і савецкіх стратэгаў, якія хацелі падарваць рэпутацыю Канстанцінопаля і аб'яднаць сусветнае праваслаўе вакол падуладнай ім Масквы. Акрамя таго, на гэтай сустрэчы а. Баравы ў чарговы раз быў запэўнены каталіцкім бокам, што Сабор мае выключна пастырскі, а не палітычны характар. Крыху пазней, у жніўні 1962 г., а. Баравы працаваў у якасці перакладчыка на неафіцыйнай сустрэчы біскупа Вілебрандса і мітрапаліта Нікадзіма, на якой каталіцкі біскуп даведаўся, што існуе рэальная магчымасць запрасіць назіральнікаў ад РПЦ і што для далейшага прасоўвання гэтай справы яму трэба ехаць у Маскву на сустрэчу з прадстаўнікамі савецкага ўраду і кіраўніцтва РПЦ. Візіт біскупа Вілебрандса ў Маскву адбыўся напрыканцы верасня — пачатку кастрычніка 1962 г. (за два тыдні да адкрыцця Сабору) і стаў першым афіцыйным візітам прадстаўніка Ватыкана ў СССР. У выніку гэтай паспяховай сустрэчы ўжо 4 кастрычніка кардынал Бея тэлеграфам і хуткай поштай адправіў афіцыйнае запрашэнне РПЦ даслаць сваіх назіральнікаў на Сабор.

Па выніках візіту ватыканскага іерарха а. Баравы падрыхтаваў справаздачу, у якой падкрэсліў карыснасць прысутнасці назіральнікаў ад РПЦ на Саборы для савецкай знешняй палітыкі. У адпаведнасці з пазіцыяй мітрапаліта Нікадзіма, ён акрэсліў унутранае становішча ў Ватыкане як барацьбу двух «франтоў»: рэакцыйна-кансерватыўнага і рэфарматарскага. Айцец Віталій Баравы падкрэсліў, што менавіта прадстаўнікі рэфарматарскага кірунку, якія кантралявалі падрыхтоўку Сабору і не ставілі палітычных мэтаў барацьбы ні з камунізмам, ні з праваслаўем,

выступілі з ініцыятываю запрасіць назіральнікаў. Адмаўленне ад гэтага запрашэння было б перамогаю рэакцыі за кошт аўтарытэту Папы і біскупа Вілебрандса. Айцец Баравы таксама дадаў, што пасля таго як Канстанцінопаль адхіліў запрашэнне на Сабор з-за адсутнасці кансэнсуса паміж Праваслаўнымі Цэрквамі, «ключы да пасылкі назіральнікаў у руках Масквы... Пагадненне на Родасе дзейнічаць разам можа быць выкарыстана для павелічэння арыентацыі сусветнага праваслаўя вакол Масквы, а не Канстанцінопаля». Такую ж пазіцыю заняў і Савет па справах РПЦ.



Архімандрыт Уладзімір Катляроў і протапрэсвітар Віталій Баравы сярод удзельнікаў Сабору.

Далейшыя падзеі разгортваліся вельмі хутка. 8 кастрычніка 1962 г. Сінод РПЦ у Загорску вырашыў даслаць назіральнікаў, а 10 кастрычніка Палітбюро ЦК КПСС прыняла рэзалюцыю аб адабрэнні кандыдатур назіральнікаў —протапрэсвітара Віталія Баравога і архімандрыта Уладзіміра Катлярова. 11 кастрычніка — у дзень адкрыцця Сабору — РПЦ тэлеграфам паведаміла Сакратарыяту аб прыбыцці назіральнікаў.

У складзе 38-мі назіральнікаў а. Баравы і арх. Катляроў удзельнічалі ў сустрэчы з папам Янам XXIII, якую кардынал Бея назваў цудам. Папа звярнуўся да прысутных з заклікам не толькі чытаць яго словы, але і яго сэрца. Ён выказаў надзею, што прысутнасць назіральнікаў будзе не пошукам кампрамісу і дыскусіяй, а магчымасцю для братэрскіх зносінаў і «дыялогу любові».

На Саборы сапраўды стварыліся ўсе ўмовы для такіх зносінаў: па словах аднаго з назіральнікаў, прымалі іх «па-царску». На агульных пасяджэннях назіральнікі сядзелі на зручнай, спецыяльна для іх прызначанай трыбуне, у іх не было іншых абмежаванняў дзейнасці, апрача права галасаваць і выступаць на пасяджэннях. Яны маглі наведваць усе — нават закрытыя — пасяджэнні і мелі доступ да ўсіх — нават *sub secreto* — дакументаў. Паколькі ўсе прамовы і дакументы былі на лаціне, Сакратарыят забяспечыў іх кваліфікаванымі перакладчыкамі, і кардынал Кушынг з Бостана (ЗША) нават не зусім жартоўна заўважыў, што назіральнікі, напэўна, лепш разумелі, што адбывалася на пасяджэннях, чым большасць біскупаў. Пачынаючы з другой сесіі Сабору ў 1963 г. Сакратарыят рабіў штодзённы сціснуты пераклад усіх прамоваў папярэдняга дня на родных мовах назіральнікаў, таму ім не трэба было наведваць усе пасяджэнні і яны мелі больш часу для асабістых зносінаў з іншымі ўдзельнікамі. Яны амаль усё рабілі разам: разам жылі ў *Pensione Castello,* разам працавалі і разам адпачывалі. Кожны чацвер розныя каталіцкія суполкі ў Рыме запрашалі назіральнікаў і іх жонак на прыёмы, а па нядзелях амерыканская супольнасць айцоў паўлінаў рабіла для іх «шведскі стол». Зрэшты, а. Баравы не мог наведваць паўлінаў, бо ўсё «амерыканскае» яму было забаронена. Назіральнікі таксама маглі маліцца разам з усімі ўдзельнікамі Сабору — штодзённая св. Імша праходзіла на алтары побач з іх трыбунай. Спачатку большасць назіральнікаў ніяк у ёй не ўдзельнічала, але паступова яны пачалі спяваць, падымацца на чытанне Евангелля і нават схіляць галовы ў час падняцця эўхарыстычных дароў.

Паколькі на Саборы назіральнікі не былі простымі ганаровымі гасцямі, а маглі ўдзельнічаць у яго творчай працы, іх голас паўплываў на дакументы Сабору, асабліва на змест Дагматычнай канстытуцыі пра Касцёл і Дэкрэт пра экуменізм. Назіральнікі маглі вольна дзяліцца сваімі думкамі з біскупамі і іх дарадчыкамі на сустрэчах, якія Сакратарыят праводзіў кожны аўторак. Айцец Баравы таксама актыўна ўдзельнічаў у гэтых сустрэчах. Яго калега па Сусветнай радзе Цэркваў згадваў: «Бясспрэчна, ён быў багасловам у рускай дэлегацыі, найбольш выразным у выкладанні сваіх думак і ў тлумачэнні, і больш за іншых зацікаўлены ў новых экуменічных ідэях і кантактах».



Папа Ян Павел II і протапрэсвітар Віталій Баравы.

Праца а. Баравога на Саборы мела свае асаблівасці. Па-першае, падчас Сабору ён заставаўся настаяцелем парафіі РПЦ у Жэневе, а таксама прадстаўніком РПЦ у Сусветнай радзе Цэркваў. Таму амаль кожны тыдзень ён павінен быў лятаць у Жэневу, каб служыць нядзельную літургію і выконваць іншыя абавязкі. Па-другое, кожны тыдзень ён павінен быў пісаць справаздачы ў АЗЦЗ і дасылаць іх праз савецкую абмасаду ў Рыме. Сам ён хадзіць туды не хацеў, бо казаў, што «ўсе і так кажуць, што мы шпіёны». Адносіў справаздачы архімандрыт Катляроў, рэпутацыя якога, па словах а. Віталія, ужо была сапсаваная тым, што мясцовая прэса заўважыла яго знешняе падабенства з Леніным.

Неабходна згадаць і заўсёдную прысутнасць у дэлегацыі РПЦ так званых перакладчыкаў і іншых штатных супрацоўнікаў, якія насамрэч былі агентамі КДБ, напрыклад, Мікалая Афінагенава на першай, другой і чацвёртай сесіях і Барыса Нялюбіна на другой, трэцяй і чацвёртай сесіях. Прадстаўнікам РПЦ за мяжой было забаронена кантактаваць з замежнымі калегамі без такіх перакладчыкаў, і гэта добра ведалі на Захадзе. А. Баравы ўзгадваў, як на яго першай сустрэчы з Генеральным сакратаром СРЦ ён вырашыў паказаць, што ён не шпіён, і звярнуўся да сакратара на сумесі моваў, на якіх ён яшчэ размаўляў недасканала: нямецкай, англійскай, лаціне. Гэтым ён вельмі здзівіў сакратара і раззлаваў «перакладчыка». Але такая рызыкоўнасць дазволіла а. Баравому займець давер і ўвайсці ў колы, недасягальныя для савецкіх прадстаўнікоў.

Як ужо было адзначана, не ўсе прыязна ўспрынялі прысутнасць назіральнікаў ад РПЦ на Саборы. Украінскія каталіцкія біскупы былі абураныя іх з'яўленнем, а кіраўнік дэлегацыі ад Украінскага Каталіцкага Касцёла ў Амерыцы мітрапаліт Германюк у сваім дзённіку назваў гэта «сапраўдным няшчасцем». Такое стаўленне было звязана не з асобамі саміх назіральнікаў, а з адносінамі да СССР і РПЦ пасля канчатковага знішчэння Украінскага Каталіцкага Касцёла ў СССР у 1945 г. шляхам жорсткіх праследаванняў і пераводу ў праваслаўе. Пры гэтым мітрапаліт Германюк успрымаў і савецкую ўладу, і кіраўніцтва РПЦ як адну ўладу і не заўважаў розніцы ў іх матывацыі і мэтах.

Больш за ўсё каталіцкія біскупы былі абураныя тым, што ўжо 18 гадоў пакутаваў у зняволенні ўкраінскі мітрапаліт Іосіф Сліпый, які быў сасланы ў сібірскі лагер за нібыта антысавецкую дзейнасць і супрацоўніцтва з фашыстамі ў гады Другой сусветнай вайны. Біскупы не ведалі, што папа Ян XXIII, вельмі заклапочаны лёсам мітрапаліта (у Папы на стале нават стаяў яго фотаздымак), ужо пачаў шукаць падыходы да савецкага кіраўніцтва з мэтаю яго вызвалення. Гэтыя крокі ўрэшце закранулі і а. Баравога, і яго ўдзел у вызваленні мітрапаліта Сліпага стаў самай складанай часткай у яго дзейнасці на Саборы.

Каб лепш зразумець, як разгортваліся падзеі, трэба паставіць іх у кантэкст таго, што ў той час адбывалася ў свеце. Ужо праз некалькі дзён пасля адкрыцця Сабору, з 16 па 28 кастрычніка 1962 г., распачаўся так званы карыбскі ракетна-ядзерны крызіс, і на працягу дванаццаці дзён свет знаходзіўся на мяжы магчымага ядзернага супрацьстаяння СССР і ЗША. У выніку пошукаў мірнага вырашэння канфлікту былі ўпершыню наладжаны непасрэдныя сувязі паміж кіраўнікамі гэтых краінаў. Ватыкан таксама адыграў сваю ролю ў мірным працэссе: 25 кастрычніка папа Ян XXIII звярнуўся па радыё да ўсіх бакоў канфлікту з заклікам пазбегнуць ядзернай катастрофы. У гэтым звароце Ватыкан, напэўна ўпершыню, не стаў на бок капіталістычнага Захаду ў канфлікце з СССР, а проста выступіў у абарону чалавецтва. У СССР гэта было заўважана, і зварот Папы адначасова надрукавалі ў газетах «*Правда*» і «*New York Times*» (адной з буйнейшых прыватных газет ЗША).

Адразу пасля заканчэння карыбскага крызісу ў лістападзе 1962 г. Папа папрасіў свайго

асабістага сябра, кардынала Тэста, які ў гэты час узначальваў Кангрэгацыю па Усходніх Цэрквах, звярнуцца да назіральнікаў РПЦ з запытам аб вызваленні мітрапаліта Сліпага. Гэта быў спрыяльны час для такога запыту, бо, як ужо згадвалася, сама персона Папы і яго стаўленне да некаторых палітычных пытанняў былі станоўча ўспрынятыя ў Крамлі. У снежні 1962 г. Папа нават атрымаў рукапісную паштоўку ад Хрушчова з калляднымі віншаваннямі, таму ў студзені 1963 г. а. Баравы ў сваёй справаздачы аб першай сесіі Сабору зрабіў акцэнт на два пытанні: інфармацыі аб Саборы Экуменічнага Патрыярха, які не меў сваіх прадстаўнікоў на Саборы, і запыце кардынала Тэста аб вызваленні мітрапаліта Сліпага. Спачатку абодва пытанні былі ўспрынятыя негатыўна — савецкія ўлады хваляваліся, што вызваленне мітрапаліта Сліпага будзе выкарыстана ў мэтах антысавецкай прапаганды. А. Баравы спрабаваў змяніць гэта меркаванне, падкрэсліваючы, што запыт кардынала Тэста ідзе ад самога Папы, а таксама запэўніў, што вызваленне не будзе выкарыстанае ў палітычных мэтах.

У канцы студзеня 1963 г. мітрапаліт І. Сліпы быў вызвалены па амністыі без афіцыйнага апраўдання. Адною з самых цяжкіх умоваў яго вызвалення была забарона вяртання ў СССР і яго родную Украіну. У лютым ён прыбыў у Рым і, як і было абяцана, Ватыкан вельмі стрымана паведаміў аб яго вяртанні.

Можна толькі ўявіць, як рызыкаваў а. Баравы, калі так шчыра турбаваўся пра лёс уніяцкага мітрапаліта. Увогуле ўся яго дзейнасць на Саборы была рызыкоўнаю, і гэта часта адзначалі яго замежныя калегі. У асабістым архіве біскупа Вілебрандса ёсць запіс яго размовы з айцом Віталем на гэты конт. Вось яго словы: «Я ўпэўнены, што ў гэтай справе я служыў Царкве, не толькі вашай, але і Царкве Пана Бога... Вызваленне мітрапаліта Сліпага можа стаць пачаткам падзей, важных не толькі для вашай Царквы ў нашай краіне, але ўскосна і для стану Праваслаўнай Царквы. Застаюцца дзве праблемы: вялікая — становішча вашай Царквы ў Расіі, і маленькая праблема — гэта я і мая асабістая рызыка».

У ліпені 1963 г. папа Ян XXIII адышоў у вечнасць; новым Папам стаў Павел VI, які працягваў палітыку свайго папярэдніка ў адносінах да СССР, РПЦ і ўвогуле да праваслаўя. У студзені 1964 г. ён накіраваўся ў пілігрымку на Святую Зямлю, дзе сустракаўся з Канстанцінопальскім Патрыярхам Афінагорам. Тон і змест яго выказванняў, у прыватнасці, вызнанне *«nostra culpa» («наша віна»)* у адносінах з Праваслаўнымі Цэрквамі, нарэшце пераканалі Грэцкую Праваслаўную Царкву даць згоду на ўдзел праваслаўных назіральнікаў у Саборы. Таму на трэцяй сесіі Сабору прысутнічалі ўжо тры назіральнікі ад Экуменічнага Патрыярха. Кульмінацыяй гэтых падзей было рашэнне аб узаемным скасаванні анафемаў 1054 г., што адбылося 7 снежня 1965 года. Айцец Віталій Баравы таксама прысутнічаў на гэтай важнай падзеі.

Увогуле айцец Баравы станоўча ставіўся да працы і вынікаў Другога Ватыканскага Сабору. Адзначаючы, што некаторыя дакументы Сабору былі напісаныя пад уплывам рускай праваслаўнай багаслоўскай і філасофскай думкі, ён бачыў карыснасць яго вопыту і для падрыхтоўкі праваслаўнага Сабору, і *aggiornamento*.

Сярод удзельнікаў Сабору айцец Віталій Баравы быў вядомы сваёю моцнаю вераю, глыбокім веданнем гісторыі рэлігіі, здольнасцю вызначыць галоўнае і нязменным пачуццём гумару. Як сказаў адзін з яго заходніх знаёмых, калі б у РПЦ было дзесяць Баравых, то яны маглі б рэвалюцыянізаваць яе здольнасць вытрымліваць пастаянны ціск з боку ўладаў. Ва ўсёй сваёй працы на Саборы ён кіраваўся інтарэсамі Царквы, якой служыў усё сваё жыццё. Пад жорсткім савецкім кантролем РПЦ знайшла свой голас у асобе айца Баравога, і голас гэты быў пачуты. Прысутнасць назіральнікаў ад РПЦ на Саборы дапамагла пераадолець стэрэатып пра тое, што ў Савецкім Саюзе не было веры і не было Царквы, і адкрыць новую старонку ў братэрскіх зносінах Рускай Праваслаўнай Царквы і Каталіцкага Касцёла. І, што мне падаецца асабліва важным, былі яскрава прадэманстраваныя значнасць і неабходнасць асабістых кантактаў ва ўмовах, калі Цэрквы не мелі сяброўскіх інстытуцыянальных зносінаў.

За сваю службу ў якасці пастыра, настаўніка, багаслова і дыпламата а. Віталій Баравы быў узнагароджаны ордэнамі РПЦ святога князя Уладзіміра 2-й ступені (1980), прападобнага Сергія Раданежскага 1-й ступені (1986), святога князя Даніїла 1-й ступені (1991), вышэйшай узнагародай Беларускай Праваслаўнай Царквы — ордэнам Крыжа прападобнай Еўфрасінні Полацкай (2006), польскай прэміяй імя святога Альберта за працу па ўмацаванні міжцаркоўных сувязяў і нават дзяржаўным ордэнам «Знак Пашаны» (2000). А за тое, што ва ўсіх абставінах асабістага і грамадскага жыцця, у цяжкія часы і ў святкаванні, а. Віталій Баравы шукаў толькі Бога і служыў толькі Яму, да гэтага спісу можна заслужана дадаць самае дарагое яму званне — агента Езуса Хрыста.



Вацлаў Ашайца SJ

# У НАШЫМ ДОМЕ ХОЛАДНА

*Мне не падабаюцца выразы «наш сапраўдны дом у небе», «нашая Айчына ў небе», «адышоў у дом Айца». Для мяне непрымальна гаварыць пра зямлю, што гэта толькі «даліна слёз», «месца выгнання», амаль вязніца, з якой найлепш было б як найхутчэй вызваліцца. Бо калі даходзіць да справы, нам неяк зусім не хочацца пакідаць гэтую зямную даліну смутку. Занадта шмат сілаў і сродкаў мы выдаткоўваем на лекі, каб лёгка паверыць у падобныя словы. Таму дзяленне рэчаіснасці на вартую ўсіх памкненняў вечнасць і абрыдлае «цяпер» у святле догмату аб уцелаўленні Бога не вытрымлівае ніякай крытыкі. Ці сапраўды мы мусім жыць у такім шызафрэнічным раздзяленні? Цела тут, а душа там?*

**Бяздольныя па ўласным жаданні**

Падобнае дваенне прыводзіць да таго, што мы становімся бяздомнымі людзьмі, разгубленымі ўцекачамі, сіротамі, якія злосна атакуюць усіх і ўсё. Бо для таго, хто выкінуты на задворкі рэчаіснасці або жыве ў выдуманым свеце, які яе замяняе, нават калі гэты свет і вельмі блізкі да Бога, усё, што атачае яго, з'яўляецца, па словах папы Францішка, «перашкодаю, якую трэба перадолець». Чалавек, напалоханы ладам жыцця, зразуметым як «уцёкі і адарванасць ад складанасцяў знешняга свету», пачынае замест дома будаваць для сябе хованку, бункер, а часам проста нару. Хоць Папа звярнуўся са словамі, якія цытуюцца тут, да манахаў, яны адносяцца да ўсіх хрысціянаў, у тым ліку і да духоўных асобаў. Бо калі не памятаць, хто каму павінен служыць у Касцёле, ці варта і надалей падтрымліваць раздзяленне на духоўных і свецкіх асобаў? Пётр Сікора, тэолаг і публіцыст, сцвярджае, што бачанне «Касцёла, у якім існуе выразны падзел на пастыраў і вернікаў, — гэта вельмі сумніўны падзел з пункту гледжання сучасных даследаванняў першаснага Касцёла і Новага Запавету». Таму домам для хрысціяніна з'яўляецца свет. Тут жыў і працягвае жыць яго Стварыцель і Адкупіцель Езус Хрыстус. Езус, які, «прыйшоўшы, *абвясціў спакой* вам. <...> Бо праз Яго мы <...> маем доступ у адным Духу да Айца. Таму вы ўжо не чужыя і не прыходні, але суграмадзяне святых і дамачадцы Бога, умацаваныя на падмурку апосталаў і прарокаў, дзе сам Езус Хрыстус з'яўляецца вуглавым каменем, на якім кожны складзены будынак вырастае як святая святыня ў Пану. У ім і вы разам будуецеся, каб быць жыллём Бога ў Духу» (Эф 2, 17–22).

Паколькі мы — святары Бога, які любіць свет, і асабліва яго слабы, злы, грэшны бок, першасная задача прэзбітэра — палюбіць свет. Езус Хрыстус гаворыць: «Бо так палюбіў Бог свет,

---

**Вацлаў Ашайца SJ** — езуіт, пісьменнік і публіцыст, вядомы прапаведнік і рэкалекцыяніст. Нарадзіўся ў 1947 годзе, жыве ў Варшаве.

што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае. Бо не паслаў Бог Сына свайго ў свет, каб судзіць свет, але каб свет быў збаўлены праз Яго» (Ян 3, 16–17). У Евангеллі паводле Яна слова «свет» мае не столькі геаграфічнае, колькі маральнае значэнне, і азначае самыя дрэнныя яго бакі.

Наш дом знаходзіцца тут, на зямлі, якая ў болю нараджаецца як новая зямля пад новым небам. Бо як інакш зразумець эвалюцыю, калі не будаванне вечнага дома для людзей і Бога. «Я ўбачыў новае неба і новую зямлю. Бо першае неба і першая зямля мінулі, і мора ўжо няма. І ўбачыў я святы горад, новы Ерузалем, які сыходзіў ад Бога з неба, падрыхтаваны, быццам нявеста, прыбраная для свайго жаніха» (Ап 21, 1–2).

**Адзін Айцец**

Усё часцей можна пачуць, як папа Францішак звяртаецца да свецкіх людзей, а таксама да біскупаў і кардыналаў, ужываючы слова «браты». Такім чынам з Касцёла паволі знікае ўжыванне тытулаў, што праўда, сакралізаваных, але па сутнасці сваёй свецкіх, кіраўнічых, прыдворных, палітычных, а замест іх вяртаецца біблійная тэрміналогія. Хочацца спадзявацца, што ўслед за словамі зменіцца ментальнасць. Немагчыма не заўважыць, да чаго вядзе назоў «брат» у адносінах да пастыраў Касцёла і да чаго вядуць іншыя назовы: «Тады Езус прамовіў да натоўпу і вучняў сваіх: Пасад Майсея занялі кніжнікі і фарысеі. Таму ўсё, што скажуць вам, рабіце і захоўвайце, але не паступайце паводле ўчынкаў іхніх. Бо яны гавораць і не робяць. Яны звязваюць цяжкія і непасільныя ношы і ўскладаюць на плечы людзей, а самі не хочуць і пальцам крануць іх. Усе ж учынкі свае робяць яны дзеля таго, каб паказацца людзям. Яны пашыраюць філактэрыі свае і павялічваюць махры. Любяць першыя месцы на гасцінах і першыя лавы ў сінагогах, і прывітанні на рынках, і каб людзі называлі іх «раббі». Вы ж не дазваляйце называць сябе настаўнікамі, бо адзін у вас Настаўнік, а ўсе вы — браты. І айцом вашым не называйце нікога на зямлі, бо адзін у вас Айцец Нябесны. Не дазваляйце таксама называць сябе настаўнікамі, бо адзін у вас Настаўнік — Хрыстус. Большы з вас няхай будзе для вас слугою. Бо той, хто ўзвышае сябе, будзе прыніжаны, а той, хто прыніжае сябе, будзе ўзвышаны» (Мц 23, 1–12).

Словы Езуса паказваюць, як павінны выглядаць адносіны ўнутры Касцёла, паміж дамачадцамі Бога. Яны падказваюць, на чым павінна быць заснаванае жыццё на плябаніі, у доме біскупа, у кляштары, а ўслед за гэтым — у парафіі і дыяцэзіі, то бок, у Касцёле. А як часам гэта выглядае сёння? Размаўляюць два святары. Адзін кажа: «Ведаеш, наш новы біскуп са мною на “ты”». «Цудоўна, — гаворыць другі. — А ты з ім?». «Ну я яго называю “Эксцэленцыя”». Гэтак жа бывае і паміж пробашчам і вікарыем, абатам і простым манахам.

Пра гэтыя пачціва-тэрміналагічныя галаваломкі можна было б спакойна забыцца, калі б не існавала рэальнасць. У дзень пасвячэння кандыдаты на дыяканаў і прэзбітэраў чуюць ад біскупа: «Дарагія сыны». Да біскупа мы звяртаемся словамі «паважаны ойча». На чым заснаванае гэтае айцоўства і сыноўства? Напэўна, гаворка не ідзе пра сентыментальнае інфантыльнае вяртанне ў дзяцінства, да вобразаў любага татачкі і міленькага сыночка, любай мамачкі і салодкай дачушкі. Біскуп не можа капіяваць паводзіны бацькі сям'і з сынам, а сын не можа ставіцца да біскупа як да другога таты. І адзін, і другі павінны мець за прыклад Бога як Айца і Езуса як Сына, і абодва павінны мець аднаго і таго ж Духа. Божае Сыноўства Езуса з Назарэта найбольш поўна выяўляецца не столькі ў яслях у бэтлеемскай стаенцы і нават не ў цудах, а ў словах «Божа Мой, Божа Мой, чаму Ты Мяне пакінуў?» (Мц 27, 46). Калі пра гэта забыцца, сярод нас адразу пачынаюць панаваць патэрналізм і інфантылізм, а ўслед за імі свецкасць і прыдворныя манеры, пра што так часта нагадвае Папа. І як тады назваць плябанію, кляштар або біскупства домам, калі там няма дамачадцаў, а ёсць, у лепшым выпадку, члены супольнасці.

**Менеджар або брат?**

Гэтак жа адбываецца ў семінарыях і дамах навіцыяту. Магістр навіцыяту, прэфект, рэктар, выкладчыкі — варта на адну хвіліну забыцца, хто сапраўды з'яўляецца нашым Настаўнікам, як мы адразу пачнем ідэалагізаваць нашых сясцёр і братоў. Гэта значыць: ацэньваць і фармаваць іх па ўласным узоры і падабенстве. Так гэта бачыць папа Францішак: «Ідэолагі скажаюць Евангелле. Усялякая ідэалагічная інтэрпрэтацыя, з якога б боку яна ні паходзіла, з'яўляецца скажэннем Евангелля. А ідэолагі — мы бачылі гэта ў гісторыі Касцёла — у рэшцэ рэшт становяцца

інтэлектуаламі без таленту, маралістамі без дабра. Мы не гаворым аб прыгажосці — яны нічога ў гэтым не разумеюць». Калі так, ізноў няма чаго гаварыць пра дом, бо ў памяшканнях, якія мы займаем, няма дамачадцаў, а ёсць навіцыяткі, клерыкі, схаластыкі, выкладчыкі і яшчэ хто заўгодна. Як ідуць у нас справы, лёгка праверыць. Калі паміж жыхарамі біскупскага дома, плябаніі або кляштара не будзе чуласці, сардэчнасці, даверу, калі ніхто ні па кім не будзе сумаваць, цяжка назваць такое памяшканне домам. Як з гэтым змагацца? «Трэба фармаваць сэрца, — гаворыць папа Францішак. — Інакш мы ствараем пачвараў. А пасля з гэтых пачвараў ствараецца Божы народ. Гэта сапраўды, як мароз па скуры».

Яшчэ адна, яшчэ лепшая, праверка — гэта тое, як мы вырашаем канфлікты, якія з'яўляюцца і ў выніку злой волі або глупоты, і, несумненна, у выніку недахопу пабожнасці і паслухмянасці. І далей, насуперак таму, што сказаў паэт Цыпрыян Норвід, мы баімся той птушкі, якая паскудзіць ва ўласным гняздзе: «Ці тая птушка паскудзіць у гняздзе, якая ў ім паскудзіць, ці тая, якая не дазваляе ні слова пра гэта прамовіць?». Што ж рабіць? Унікаць канфліктаў любою цаною? Старанна іх хаваць? А калі цярплівасць скончыцца і схаванае выбухне, даймаць удзельнікаў канфлікту напамінамі пра складзеныя шлюбы і прысягі павагі і паслухмянасці? А калі гэта не дапаможа, цягацца па касцёльных і свецкіх судах? Папа Францішак гаворыць, што «праблемы не вырашыць, проста забараняючы рабіць адно ці другое. Неабходны дыялог, супрацьстаянне». І заўважае: «Каб пазбегнуць праблемаў, у некаторых фармацыйных дамах моладзь сціскае зубы, імкнецца не дапускаць яўных памылак, прыстасоўвацца да правілаў, шмат усміхацца, спадзеючыся, што аднойчы ім скажуць: «Добра, ты прайшоў фармацыю. Гэта крывадушнасць, плод клерыкалізму — адной з найбольшых праяваў зла».

Адсюль вынікае, што дом будуецца не толькі згодаю, але і нязгодаю. «У супольнасці немагчыма пазбегнуць канфліктаў: у пэўным сэнсе яны павінны існаваць, калі ў супольнасці сапраўды існуюць повязі шчырасці і вернасці. Гэта жыццё. Няма сэнсу і няма нічога добрага ў тым, каб думаць пра супольнасць без братоў, якія змагаюцца з цяжкасцямі. Калі ў супольнасці не бывае канфліктаў, значыць у ёй нечага не хапае. А канфлікты трэба вырашаць. Жыццё без канфліктаў — гэта не жыццё. Часам крызісы супольнасці звязаныя з нетрываласцю асобы, і тады неабходна шукаць дапамогі спецыяліста, псіхолага. Гэтага не трэба баяцца. Але мы ніколі не павінны паводзіць сябе як менеджар, перажываючы канфлікт з братам па супольнасці. Трэба задзейнічаць у гэтым сэрца».

**Браты і сёстры — гэта не слоган**

Генрык П'етрас SJ у казанні для езуітаў заўважыў: «Мы прыдумалі сабе сяброў у Пану і сказалі праўду: сябра ў Пану гэтак жа падобны да сябра, як звычайнае крэсла — да электрычнага. Сябра не скажа ніводнага марнага слова пра свайго сябра, а сябра ў Пану — ахвотна пачне пляткарыць. Сапраўдны сябра не будзе слухаць пра цябе плёткі, а сябра ў Пану, аказваецца, з ахвотаю. Мы ўсе з гэтым сутыкаемся, гаворачы адзін пра аднаго, што мы «сябры ў Пану». Акрамя слова «сябры» ў езуіцкай традыцыі ўжывалася яшчэ слова «таварыш». Назоў назовам, а праблема тая самая: што значыць быць сябрам, таварышам, сястрою, братам?

Гэтак жа, як на сувязь айца і сына, на братэрскую і сястрынскую сувязь трэба паглядзець з боку Езусавай прыпавесці пра айца, які меў двух аднолькава марнатраўных сыноў, што не цанілі свой дом. Яны не разумелі, што валодаюць скарбам, да якога яшчэ не дараслі. Гэтак жа і з намі. Спрабуючы дарасці, гэта значыць робячы памылкі, мы бываем падобнымі да сыноў і слугаў — дамачадцаў гэтага айца, якія дамагаюцца адной толькі справядлівасці. Аднак жа ўзор Адзінароднага Сына Божага Езуса Хрыста павінен выхоўваць у нас гатоўнасць згадзіцца быць пакрыўджанымі. Як пастыры і душпастыры Касцёла, мы павінны дазволіць пакрыўдзіць сябе, як дазволіў гэта Езус. Гэта тое самае, што прабачыць. Мы павінны навучыцца рэагаваць на крыўду па-хрысціянску, значыць гэтак жа, як Бог, які не гневаецца і не памятае зла (гл. 1 Кар 13, 1–13). Мы павінны загадзя прабачаць, не чакаючы, пакуль аб гэтым папросяць. Без здольнасці чыніць цуд прабачэння дом не пабудаваць, нас паглыне нянавісць.

Яшчэ адна прабдема — гэта гатоўнасць несці чужыя грахі так, нібы нам замала сваіх. Дамачадцы Бога прызнаюцца пастырам Касцёла ў самых інтымных справах. Гэта вялікі гонар. А паколькі і ў нас, і ў іх дрэмле пыха, час ад часу мы сустракаем адзін у адным неахвоту. Ці ты спаведнік, ці пенітэнт, цяжка быць мытнікам,

а прыемней — фарысеем. Прыемней думаць, што б было, калі б..., аднак жа ёсць так, як ёсць. Цешачыся дасягненнямі братоў і сясцёр, давайце яшчэ больш падтрымліваць грэшнікаў. Тады гэты змрочны куток нашай душы, нашых дамоў і касцёлаў, той, дзе найчасцей стаяць канфесіяналы, стане самым светлым месцам пад сонцам. А Касцёл стане сямейным домам, дзе кожны можа ўзрастаць, дзе старых няма, а ўсе маладыя, а са зла вырастае дабро.

**Ксёндз для ксяндза?..**

Давайце, як кіраўнікі Касцёла, заўжды будзем адзін для аднаго згрызотамі сумлення. Варта прыгледзецца да гэтай узаемнай неахвоты, каб убачыць, ці выпадкова з намі не адбываецца тое ж, што з ганіцелямі Кацярыны Дохэрці. Заснавальніца Дома сяброўства скардзілася спаведніку на недахоп разумення духоўнымі асобамі яе дабрачыннай дзейнасці: «Яны ненавідзяць цябе, — сказаў спаведнік, — бо ты робіш тое, што павінны рабіць яны самі». А арцыбіскуп прасіў яе: «Маліся за маіх ксяндзоў, каб Бог асвятліў іх вузкі светапогляд».

Як кажуць, у іншых людзях мы больш за ўсё не любім таго, чым самі грашым. Магчыма, адгэтуль часткова бярэцца і крытыка ў наш адрас і ў адрас цяперашняга Папы. Ватыканіст Марко Паліці кажа: «Папа, які абвяшчае ўбоства, гэта нармальна. Але Папа, які хоча жыць толькі ў двух пакоях, ужо не». Калі нехта з'яўляецца для нас непажаданым, гэта добра. Лепш няхай ён будзе непажаданы дома, чым па-за ім.

**А грошы, паважаны ксёндз?**

У гэтым найбольшая праблема. Ксёндз сёння тут, заўтра там. Дабравольна, паслухаўшыся парады, па прымусе. З'яўляецца новы святар, знаёміцца, людзі пачынаюць яго любіць, давяраць яму, а праз нейкі час трэба збіраць рэчы — і ў дарогу, і пасля ўсё спачатку. Гэта балюча. Нельга забраць з сабою сяброў, і жыць успамінамі таксама не атрымаецца. Да новых парафіянаў трэба паставіцца гэтак жа сардэчна. Таму ў святарскай прывязанасці ёсць характэрная рыса. Таму святар мусіць памятаць словы Хрыста — Таго, на якім павінны быць заснаваныя ўсе прывязанасці: «Я адкрыў імя Тваё людзям, якіх Ты даў Мне са свету. Яны былі Тваімі, і Ты даў Мне іх. <...> Цяпер яны пазналі, што ўсё, што Ты даў Мне, ад Цябе паходзіць. Бо словы, якія Ты даў Мне, Я даў ім, і яны прынялі іх і сапраўды пазналі, што Я выйшаў ад Цябе, і паверылі, што Ты паслаў Мяне. <...> І ўсё Маё — гэта Тваё, і Тваё — гэта Маё, і Я ўславіўся ў іх» (Ян 17, 6–10). І таму ёсць тысяча дамоў, і няма ніводнага. У гэтым кантэксце выраз «сябры ў Пану» набывае новае значэнне. «У Пану» азначае, што нашае святарскае з'яўленне і знікненне — гэта не толькі пакута, але і перадусім магчымасць паглядзець на сяброўства ў іншым, больш ясным святле. З'ехаць з нейкага месца і з'явіцца ў новым — гэта як дабудаваць яшчэ адзін паверх, а гэта азначае, што наш дом развіваецца, жыве.

Нехта скажа: «Прыгожа. Занадта прыгожа, каб быць праўдаю». Так і ёсць. Дом не збудуецца сам, ежа не ўпадзе з неба, машына рухаецца на бензіне, віно для Імшы і хлеб таксама каштуюць грошай. Узнікае грашовая праблема. Папа Францішак часта гаворыць пра беднасць, а мы пярэчым на гэта: «Добра, я не вазьму грошай за шлюб, за пахаванне, не буду збіраць грошы на Імшы і не буду браць плату за замаўленне службы, але справа ў тым, што я не ведаю, за што мне жыць і як утрымліваць касцёл». Гэта факт, што беднасць, якую разумець так, зусім не стасуецца з цяперашняй сістэмаю фінансавання духоўных асобаў і парафій. Яна несправядлівая перш за ўсё таму, што дзеліць парафіі на лепшыя і горшыя, у залежнасці ад колькасці і заможнасці саміх парафіянаў. І таму адзін пробашч жыве ў раскошы, а іншы не мае што пакласці на патэльню. Ці ў такой сітуацыі можна гаварыць пра братэрскую еднасць святароў паміж сабою і з біскупам? Грошы — справа не толькі страўніка, але перадусім сэрца. Аднак Рым не вырашыць гэтыя праблемы, гэта справа мясцовага Касцёла. Калі структура парафіі і дыяцэзіі перастае добра служыць місіі Касцёла як супольнасці супольнасцяў, трэба яе змяняць. Прыклад гэтага нам дае Апостальская Сталіца, дзе цяпер праводзяцца рэформы.

Супольнасці Касцёла стануць домам толькі тады, калі словы Езуса: «Бярыце і ешце Маё Цела», «Піце Маю Кроў» стануць нечым большым за рытуал і пачнуць акрэсліваць спосаб думак і ўчынкаў кожнага хрысціяніна, нягледзячы на тое, якое служэнне ён выконвае ў Касцёле. Колькі вернікаў давяраюць святарам? А калі дамачадцы не давяраюць нам, трэба ведаць, чаму.

*Пераклад з польскай мовы Юліі Шэдзько.*
*Паводле: W drodze, №9, 2014 год.*

Кс. Сяргей Сурыновіч

# ШЛЯХІ ДА СЛОВА

Біблія на Беларусі «пасялілася» з часоў з’яўлення на нашых землях паслядоўнікаў Добрай Навіны Хрыста, хрысціянаў і хрысціянства, якое мела розныя паводле паходжання і традыцый шляхі пранікнення: з Захаду — праз варага-рускія (нямецкія) дружыны, праз гандлёвыя стасункі з нямецкімі землямі і праз нямецкіх прапаведнікаў, якія прыходзілі з варажскімі дружынамі; з Усходу — праз паходы ў Візантыю, праз тыя ж гандлёвыя зносіны і прапаведнікаў з паўднёва-славянскіх земляў — Балгарыі і Сербіі[1].

Нягледзячы на тое, што да X ст. хрысціянства было даволі пашыраным[2], хрышчэнне Кіеўскай Русі ў 988 г. і прыняцце князем Уладзімірам хрысціянства з Візантыі аказала значны ўплыў на развіццё протабеларускіх плямёнаў[3]. Перад хрышчэннем Уладзімір адпусціў сваю жонку Рагнеду і сына Ізяслава ў Крыўскія землі, але да гэтага часу Рагнеда была ўжо хрысціянкаю, і, мабыць, яна, вярнуўшыся ў родную зямлю, абвясціла тут хрысціянства афіцыйнаю вераю, што прыпадала на 990 год[4]. Яна пастрыглася ў манахіні пад імем Анастасія і стала першаю манашкаю ў Старажытнай Русі[5]. Прыблізна з гэтым часам звязана і ўзнікненне пісьменнасці на нашых землях. Гэтаму паспрыяла тое, што ў IX ст. былі створаны: а) літаратурная мова (стараславянская, або царкоўнаславянская); б) першы славянскі алфавіт (глаголіца і кірыліца)[6]. З прыходам хрысціянства з’явіліся рукапісныя кнігі Бібліі, якія занялі самае пачэснае месца сярод новага культу. Як паказваюць даследаванні (акадэмік Яўхім Карскі і інш.), ужо з XI ст. робяцца спробы прыстасаваць кірыла-мятодаўскі пераклад да мясцовых асаблівасцяў мовы, яе царкоўна-літургічнага стылю, удакладнення тэксту і выпраўлення памылак перапісчыкаў на аснове старажытнагабрэйскага і старажытнагрэчаскага арыгіналаў[7]. Верагодна, перапісваннем біблійных кніг займалася Рагнеда ў Ізяслаўі (Заслаўе) у X ст.[8]

Біблія распаўсюджвалася шляхам працаёмкага — адзін асобнік быў роўны па кошце гадавому даходу чалавека сярэдняга дастатку — перапісвання ў манастырскіх, царкоўных, княжацкіх майстэрнях-скрыпторыях, якія працавалі на беларускай зямлі амаль паўсюдна. Перапісчык пісаў не на стале, а на далоні левай рукі, якую ўпіраў локцем у калена. Пісалі на пергаменце ўставам — буйным і прамым, без нахілу, почыркам, кожная літара аддзялялася ад суседняй. Перапісчык павінен быў не толькі добра ведаць граматыку, але і мець мастацкія здольнасці, бо пачатковыя літары і загалоўкі трэба было аздабляць арнаментам. Акрамя таго, кнігі часта ўпрыгожваліся адмыслова выпісанымі загаловачнымі літарамі, буквіцамі ці ініцыяламі і мініяцюрамі. За дзень можна было спісаць не больш за чатыры старонкі[9]. Свае скрыпторыі існавалі ў манастырах, пры епіскапскіх кафедрах. Пра сталую біблійную традыцыю сярэднявечнай Беларусі сведчаць высокамастацкія ілюстраваныя помнікі рукапісных Евангелляў: «А ў цэнтры храма, на спецыяльным прастоле, было месца кнігі — напрастольнага Евангелля — яго ўрачыста выносілі, яго цалавалі, як ікону, яму кадзілі, на Евангеллі прысягалі сведкі на судах»[10].

Магчыма, перапісваннем святых кніг займалася і Еўфрасіння Полацкая[11]. Менавіта перапісванне кніг магло быць адным з яе схімных зарокаў[12]. «Рэпертуар» рукапісных кніг складалі кнігі богаслужбовыя (кнігі Бібліі, Мінеі, Трыёдзі, Стыхірары, Ірмалоі, Кандакары, Служэбнікі), рэлігійныя чытальныя (Мінеі, Саборнікі, Пролагі, Залатаструі, Пацерыкі, агіяграфія і творы айцоў Царквы), свецкага зместу (Ізборнікі, Палеі, Хранографы, Летапісы, Ізмарагды і інш.). Найбольш вядомымі біблійнымі манускрыптамі былі Стары і Новы Запавет, Дзеі Апосталаў, Евангеллі, Псалтыры. Значную колькасць кніг складалі перакладныя Евангеллі[13].




Пражскае выданне Бібліі Ф. Скарыны. 1517–1519 гг.

Тэксты, хутчэй за ўсё, перапісваліся на старацаркоўнай мове — спадчыне вялікіх Кірылы і Мятода. Першым друкаваным выданнем Бібліі на мове, блізкай да тагачаснай беларускай, была Біблія Францыска Скарыны. Пераклад быў зроблены з Вульгаты св. Гераніма, перакладзенай на чэшскую мову, таму канон Святога Пісання цалкам супадае з заходняй каталіцкай традыцыяй, а мова перакладу была даступная нашым продкам.

Выданнем біблійных кніг пазней займаліся Васіль Цяпінскі, Сымон Будны, Іван Фёдараў, Пётр Мсціславец, Канстанцін-Васіль Астрожскі, Стэфан Зізаній, Мялецій Сматрыцкі, Спірыдон Собаль, Максім Вашчанка і інш.

З канца XVIII ст. і да 20-х гадоў XX ст. біблійныя кнігі ў Беларусі не друкаваліся. За гэты час былі выдадзеныя толькі некаторыя

---

**Ксёндз Сяргей Сурыновіч** — магістр тэалогіі, паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, мастак. Нарадзіўся 13 красавіка 1976 г. у вёсцы Лугамавічы Іўеўскага раёна. У 1993 г. скончыў Іўеўскую сярэднюю школу. З 1993 г. вучыўся ў Гродзенскай духоўнай семінарыі, з 1997 г. — у Пецярбургскай духоўнай семінарыі, якую скончыў у 2000 г., абараніўшы працу па багаслоўі ў Латэранскім універсітэце ў Рыме. З 2002 г. выкладаў беларускую мову ў Пермскім дзяржаўным педуніверсітэце. Аўтар вершаванай містэрыі для дзяцей «Батлейка» («Дыялог», 1998), зборнікаў паэзіі «Летуценнік» (1999), «Пакліканне» (2000). Працуе пробашчам у Друі. З 2008 г. пачаў працу па алічбоўванні ўсіх беларускіх перакладаў Бібліі.

кнігі рэлігійна-царкоўнага зместу, неабходныя для правядзення богаслужэнняў. Духоўнай літаратуры катастрафічна не хапала, асабліва — Бібліі на роднай мове. На працягу XVII–XIX стст. не было зроблена ніводнага перакладу на беларускую мову. Заняпад беларускай мовы пад польскім і расійскім уціскам, знішчэнне і страта шмат якіх даўнейшых выданняў фактычна пакінулі наш народ без Святога Пісання на ўласнай мове. Праблема перакладу Святога Пісання на беларускую мову заставалася адной з найвастрэйшых і на працягу XX ст.

Патрэба ў Кнігах Старога і Новага Запавету, літургічных і багаслоўскіх тэкстах, катэхізісе, малітоўніках і іншай рэлігійнай літаратуры на роднай мове з'яўляецца істотным складнікам духоўнага адраджэння кожнага народа. Гэтая патрэба вынікае з неабходнасці карыстання біблійнымі тэкстамі і з'яўляецца непасрэдным абавязкам апостальскай дзейнасці. Выданне Бібліі па-беларуску сталася ў пэўным сэнсе актам самасцвярджэння, прызнання «хлопскай мовы», «нізкай гаворкі», якой пагарджалі расейцы і палякі, сапраўднаю моваю, не толькі прыдатнаю для выказвання думак паэтычнага генія, але і вартаю стацца сродкам данясення слова Божага народу Беларусі і ўсяму свету.

**Пераклады Бібліі на родную мову ў XX стагоддзі**

Адным з першых сярод беларускага каталіцкага духавенства, хто звярнуў увагу на праблему перакладу Бібліі, быў біскуп-суфраган Магілёўскай архідыяцэзіі Сцяпан Данісевіч. У 1906 г. ён у Пецярбургу перавыдае «*Elementarz dla dobrych dzietok katolikau*». Біскуп Данісевіч заахвочваў беларускіх святароў пісаць і выдаваць рэлігійныя кнігі на беларускай мове і сам цэнзураваў некаторыя з іх перад тым як даць дазвол на друк, — да біблійных перакладаў на пачатку XX ст. звярнуліся многія каталіцкія святары.

Пасля Першай сусветнай вайны першым выданнем, якое ўключала біблійныя ўрыўкі, стала «*Niadzielašnija Ewanhielii i nawuki*» кс. Ільдэфонса Бобіча ў трох тамах.

Нарадзіўся кс. Бобіч 22 студзеня 1890 г. у сям'і небагатага беларускага селяніна ў вёсцы Дзедзіна Дзісенскага павета, што на Віцебшчыне. Вучыўся ў Ковенскай гімназіі, якую скончыў у 1909 годзе[14]. У 1911 г. скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. Вышэйшую духоўную адукацыю атрымаў у Рыме ў *Collegium Germanicum* (навучаўся з 1912 г.), стаў доктарам філасофіі. Святарскае пасвячэнне атрымаў 15 ліпеня 1915 года. Служыў вікарыем у Друі і пробашчам на Дзісеншчыне (1917–1920 гг.). У 1921–1923 гг. выкладаў Закон Божы ў Віленскай беларускай гімназіі. Падчас Другой сусветнай вайны быў арыштаваны нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Памёр неўзабаве пасля вызвалення з турмы (па іншых звестках — расстраляны фашыстамі). Пахаваны ў м. Іўе[15].

«*Niadzielašnija Ewanhielii i nawuki*» — фактычна найлепшы беларускі падручнік па евангельскай экзэгетыцы і касцёльным красамоўстве. У прадмове да кнігі яе рэдактар-выдавец кс. Адам Станкевіч робіць экскурс у пачатак XVI ст., акцэнтуючы ўвагу на тым, што, як у часы Францыска Скарыны царкоўнаславянская мова была малазразумелай народу, так і цяпер Божае слова малазразумелае і малакарыснае на польскай мове, а там, дзе няма разумення Святога Евангелля, няма «а ні Богу ко чті», а ні «людзям пасполітым к научэню».

«*Niadzielašnija Ewanhielii i nawuki*» І. Бобіча фактычна былі зборам казанняў (навукаў), складзеных паводле Новага Запавета і багаслоўскай думкі ў праекцыі на патрэбы духоўнага аднаўлення, таму былі настольнымі кнігамі святароў, якія прамаўлялі казанні на беларускай мове. Існуе меркаванне, што біблійныя тэксты, надрукаваныя ў гэтай кнізе, не з'яўляюцца перакладамі кс. Бобіча, а належаць кс. Адаму Лісоўскаму.

Кс. Адам Лісоўскі нарадзіўся ў 1882 г. у вёсцы Каранды Ашмянскага павета Віленскай губерні. У 1903 г. скончыў Віленскую духоўную семінарыю, пасля навучаўся ў Духоўнай каталіцкай акадэміі ў Санкт-Пецярбургу, атрымаў святарскае пасвячэнне ў 1907 годзе[16]. 31 мая 1922 г. быў арыштаваны савецкімі ўладамі і асуджаны на 5 гадоў. Адбываў пакаранне ў турмах Мінска, Масквы і Яраслаўля. 28 красавіка 1924 г. пасля абмену палітычнымі вязнямі трапіў у Польшчу. Служыў у Гарадзішчы каля Пінска і ў Віннай на Падляшшы. Выступаў за беларусізацыю Каталіцкага Касцёла ў Беларусі[17]. Памёр 9 кастрычніка 1929 г., пахаваны ў Польшчы.

Паводле сведчанняў біскупа Чэслава Сіповіча і Янкі Садоўскага, кс. Лісоўскім (прыблізна ў 1907–1922 гг.) былі перакладзеныя Апакаліпсіс св. Яна, Дзеі Апосталаў, Пасланні св. Паўла да Рымлянаў, Галатаў, Карынцянаў[18]. Язэп Германовіч выказаў меркаванне, што гэтыя тэксты былі выкарыстаныя Ільдэфонсам Бобічам і Адамам Станкевічам[19]. Тэксты перакладаў кс. Лісоўскага пакуль не знойдзеныя — Я. Германовіч лічыў іх страчанымі[20].

Варта сказаць пра вялікае адрозненне паміж лексікай, стылістыкай, моўнымі асаблівасцямі тэкстаў Бобіча і Станкевіча ў выкарыстаных і надрукаваных імі ўрыўках Святога Пісання. Фактычна кс. Ільдэфонс Бобіч стаў пачынальнікам адраджэння беларускай біблістыкі ў XX ст.

У 1926 г. Вацлаў Ластоўскі здзейсніў пераклад кнігі Старога Запавету — «Цар Саламон. Песьні Песьняў»[21] з царкоўнаславянскага тэксту, параўнанага з расійскім, украінскім, польскім і сербскім перакладамі[22].

В. Ластоўскі нарадзіўся 27 кастрычніка 1883 г. у засценку Калеснікаў Дзісенскага павета Віленскай губ. (цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці). Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 23 студзеня 1938 г. быў прыгавораны да расстрэлу «як агент польскай разведкі і ўдзельнік нацыянал-фашысцкай арганізацыі». Рэабілітаваны пасмяротна: па першым прысудзе — 10 чэрвеня 1988 г.; па другім — 16 верасня 1958 года. Памёр 23 студзеня 1938 года.

У 1931 г. пабачыў свет поўны пераклад усіх кніг Новага Запавету і адной з кніг Старога Запавету (Кніга Псальмаў у перакладзе сп. Розэнберг)[23]. Лукаш Дзекуць-Малей супольна з жонкаю займаўся перакладамі паасобных Евангелляў на беларускую мову, выдаўшы іх спачатку маленькімі кніжачкамі, а пасля — пад агульнаю вокладкаю ў 1931 г. у Лодзі (афіцыйна — у Хельсінгфорсе);

з грэцкім арыгіналам пераклад звяраў Антон Луцкевіч. «Новы Запавет і Псальмы» перавыдавалі некалькі разоў на эміграцыі[24]: у 1948 г. — Брытанскае і Замежнае Біблійнае Таварыства ў Лондане, у 1985 г. — Глабальнае місіянерскае радыёслужэнне ў Канадзе, і ў 1991 г. — Біблейскае грамадства.

Нарадзіўся Лукаш Дзекуць-Малей 1 кастрычніка 1888 г. у Гарадзенскай губерні. Паходзіў з пратэстанцкай сям'і. Вучыўся на Першых беларускіх настаўніцкіх курсах у Вільні (1913 г.), працаваў настаўнікам. Служыў у расійскай арміі ў Беластоку, дзе пазнаёміўся з вернікамі царквы баптыстаў. З 1910 г. быў звязаны з пратэстанцкім рухам[25]. Памёр 20 студзеня 1955 г. у Гданьску[26].

Л. Дзекуць-Малей пісаў: «Разам з жонкай я ўзяўся за пераклад Эвангелля на беларускую мову. Не верачы ва ўласныя сілы, я звярнуўся па прафесійныя парады і папраўкі да знакамітага беларускага дзеяча і крытыка Антона Луцкевіча, які ахвотна дапамагаў у гэтай карыснай для народу працы»[27]. Адносна перакладу аўтар пісаў: «Я пераклаў некалькі брашураў, надрукаваных выдавецтвам «Компас» у Лодзі. З 1920 па 1924 гг. я сам пераклаў 17 кніжак з польскай ды расейскай на беларускую мову»[28].

У выдавецтве «Компас» (Лодзь) у 1926 г. было выдадзена Евангелле паводле Лукі і Евангелле паводле Яна, у 1927 г. — Евангелле паводле Мацвея, і ў 1928 г. — Евангелле паводле Марка.

Дзякуючы класічнай адукацыі і літаратурнаму таленту Антон Луцкевіч стаў тым чалавекам, які вычытваў, выпраўляў і даводзіў да ладу пераклады Л. Дзекуця-Малея амаль з самага пачатку працы. Веданне грэцкай мовы дазваляла яму параўноўваць пераклад з крыніцамі, аднак былі, відаць, і іншыя людзі, заангажаваныя ў гэтую працу. Так, спадарыня Розэнберг (імя не ўстаноўленае), віленская габрэйка, незадоўга да смерці ў 1926 г. зрабіла варыянт перакладу псальмаў на беларускую мову, таксама пераклала некалькі кніг Старога Запавету, якія, на жаль, не захаваліся[29].

Антон Луцкевіч не цураўся абмеркаванняў і дапамогі ў працы не толькі ад такіх асобаў, як Браніслаў Тарашкевіч і Радаслаў Астроўскі, кс. Адам Станкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі (які шмат часу ахвяраваў на працу над канчатковым варыянтам), але і ад настаўнікаў Віленскай беларускай гімназіі, у якой выкладаў. У пошуку жывых моўных сродкаў ён раздаваў фрагменты Новага Запавету сваім вучням як практыкаванні ў перакладзе. Некаторыя з такіх школьных спробаў выклікалі ўсмешку, таму невядома, у якой ступені ў агульнай працы быў скарыстаны плён гэтых «вандровак» у лінгвістычныя нетры[30].

У 1938 г. кс. Адам Станкевіч пераклаў і выдаў «*Božaje Słova. Lekcyi, Evanelii i Pramovy na Niadzieli i Śviaty*»[31]. Нарадзіўся будучы ксёндз 6 студзеня 1892 г. у в. Арляняты Ашмянскага павета[32]. Вучыўся ў Ашмянскім гарадскім вучылішчы, скончыў духоўную семінарыю ў Вільні (1914 г.), рымска-каталіцкую духоўную акадэмію ў Петраградзе (1918 г.). Святарскае пасвячэнне атрымаў у 1914 годзе. Кандыдат кананічнага права (1918 г.). З 1919-га выкладаў рэлігію ў Віленскай беларускай гімназіі. 7 снежня 1944 г. быў арыштаваны органамі НКУС, але неўзабаве адпушчаны. 13 красавіка 1949 г. арыштаваны другі раз па абвінавачванні ў антысавецкай дзейнасці. 31 жніўня 1949 г. быў асуджаны на 25 гадоў пазбаўлення волі. Зняволенне адбываў у віленскай турме Лукішкі, пасля ў Азерлагу (Тайшэт, Іркуцкая вобласць), дзе і памёр[33]. Пахаваны 10 снежня 1949 г. на могілках Азерлагу каля в. Шаўчэнкі Тайшэцкага раёна[34].

Перавыданні адбыліся ў 2008 годзе[35]. З уступу да выдання 1938 г. вынікае, што аўтар за асноўны тэкст крыніцы перакладу ўзяў лацінска-польскую Біблію ў перакладзе кс. Вуйка.

У 1930 г. Новы Запавет часткова пераклаў на беларускую мову кс. Вінцэнт Гадлеўскі. У 1939 г. пабачыла свет яго выданне «*Čatyry Evanelii i Apostalskija Dziei*»[36].

Нарадзіўся Вінцэнт Гадлеўскі ў в. Шурычы Ваўкавыскага павета. Скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю (1912 г.) і Пецярбургскую каталіцкую духоўную акадэмію (1916 г). Адным з першых пачаў служыць у касцёле па-беларуску[37]. Быў арыштаваны нямецкай паліцыяй у Мінску ў ноч на 24 снежня 1942 года. Акупанты



Тытульны аркуш выдання «*Čatyry Evanelii i Apostalskija Dziei*» ў перакладзе кс. Вінцэнта Гадлеўскага. Вільня, 1939 г.

прапанавалі яму працу ў Рызе, але кс. В. Гадлеўскі адмовіўся. Быў закатаваны ў Трасцянцы (пад Мінскам)[38].

У часе Другой сусветнай вайны беларускі грамадскі дзеяч, лекар, скарыназнаўца Вітаўт Тумаш здзейсніў пераклад кнігі прарока Ёны[39]. Магчыма, існуюць ці існавалі іншыя пераклады В. Тумаша, зробленыя ў нямецкім лагеры Ватэнштэт, як, напрыклад, пераклад кнігі Быцця, ад якога ў лонданскім архіве засталася толькі першая старонка[40].

У замежжы здзейсніў пераклады некаторых псальмаў[41] і чатырох Евангелляў а. Леў Гарошка. Нарадзіўся ён 11 сакавіка 1911 г. у вёсцы Трашчычы Навагрaдскага павета, памёр 28 ліпеня 1977 г. у Парыжы. Грэка-каталіцкі святар, архімандрыт, беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч, даследчык гісторыі рэлігіі ў Беларусі, культуролаг, літаратар, аўтар многіх артыкулаў, кніг; друкаваўся пад псеўданімамі Л. Іскра, Анатоль Жменя, Пракоп Каваль і інш.[42]

У перыяд з 1949-га па 1950 г. пераклады некаторых кніг Старога Запавету здзейсніў Леанід Галяк[43]. Нарадзіўся ён 31 кастрычніка 1910 г. у Вільні; памёр 3 красавіка 1980 г. у ЗША. Грамадскі дзеяч, юрыст[44]. Над перакладам працаваў у Ватэнштэце (Нямеччына). Машынапісы перакладаў былі дасланыя ў верасні 1973 г. біскупу Сіповічу ў Лондан у сувязі з ідэяй стварэння новага перакладу Бібліі. Шэсць кніг аўтарызаваныя самім перакладчыкам праз надпісы на

тытульнай старонцы машынапісу і праз лісты да біскупа Сіповіча. Кніга прарока Сафоніі не ўзгадваецца ў лістах ад верасня 1973 г. і не мае тытульнай старонкі, але яна далучаная да перакладаў Л. Галяка (прычыны гл. у канцы перакладу кнігі прарока Сафоніі)[45].

Леанід Галяк узгадвае: «Перакладамі ў Ватэнштэце займаліся ў асноўным В. Тумаш, Хв. Ільяшэвіч і Л. Галяк. Перакладалі Свіфта («Гулівера») і іншых пісьменнікаў. У Л. Галяка была думка з Тумашам перакласці Біблію на беларускую мову. І яны нейкія часткі Бібліі пераклалі. Прыехаўшы сюды, у Нью-Ёрк, яны гэтую задумку далей працягвалі. Навязалі кантакт з выдатным нашым баптысцкім дзеячом Данілам Яськом, таму што патрэбны быў для перакладу Бібліі нехта, хто б ведаў добра габрэйскую мову. І сярод баптыстых быў такі выдатны знаток усходніх моваў, гэта валыняк Марцінкоўскі. Ён быў прафесарам ці дацэнтам Пецярбургскага ўніверсітэту. Марцінкоўскі згадзіўся быў узначаліць пераклад Бібліі. Але ў гэтым часе доктар Янка Станкевіч звязаўся таксама з іншай групай баптыстаў, і тыя яму дапамаглі. Адным словам, забралі ад Галяка і Тумаша гэтую справу і даручылі Янку Станкевічу. Такая вось была канкурэнцыя»[46].

У 1954 г. былі выдадзеныя «*Sviataja Evanelija i Apostalskija dziei*»[47] ў перакладзе кс. Татарыновіча, пасля ў 1974 г. — «*Listy śviatych apostalau*»[48] і ў 2008 г. — «Лісты Апостала Паўла да Тыматэя»[49].

Пётр Татарыновіч нарадзіўся 2 чэрвеня 1896 г. у вёсцы Гайнін Слуцкага павета Мінскай губерні. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі ў Слуцку вучыўся ў каталіцкай семінарыі ў Петраградзе, скончыў Мінскую духоўную семінарыю. 12 чэрвеня 1921 г. прыняў святарскае пасвячэнне. Вучыўся ў Папскім інстытуце ўсходніх навук (1945–1949 гг.). Абараніў доктарскую дысертацыю па тэме «Святы Кірыла, біскуп Тураўскі, і ягонае вучэнне». З 1949-га па 1971 г. быў кіраўніком і асноўным аўтарам беларускіх перадач «Радыё Ватыкана». Займаўся выдавецкаю справаю. Памёр 3 верасня 1978 г. у Рыме.

Пераклад здзяйсняў на аснове лацінска-грэцкага тэксту Новага Запавету, навукова апрацаванага і выдадзенага прафесарам Папскага Біблійнага Інстытута А. Аўгустам Мэркам у Рыме ў 1944 г., таксама выкарыстоўваў пераклад кс. Вінцэнта Гадлеўскага, карыстаўся выданнямі на італьянскай і французскай мовах[50].

Пачынаючы з 1959 г., Ян Пятроўскі перакладае і выдае паасобныя кнігі Старога Запавету — «Кнігу Руты. Кнігу прарока Еэля. Кнігу прарока Ёны»[51], «Генезіс»[52], «Кнігу Эклезіяста, або прапаведніка»[53]. У 1991 г. пабачыла свет ягонае Евангелле паводле Яна[54].

Ян Пятроўскі нарадзіўся 27 студзеня 1905 г. у Слуцку Менскай губерні. Напрыканцы 1920-х, яшчэ праваслаўным, трапіў на беларускае богаслужэнне ў метадысцкай царкве[55] і неўзабаве стаў сябрам пратэстанцкага брацтва. Скончыў Біблійную школу метадыстаў у Кларысаве пад Варшаваю, з 1932 г. быў прапаведнікам у Дзярэчыне[56]. Памёр 19 студзеня 2001 г. у ЗША.

З 1960 г. пераклады Евангелляў робіць малодшы брат Якуба Коласа Міхась Міцкевіч — яны захаваліся ў выглядзе рукапісаў[57].

Міхась Міцкевіч нарадзіўся 13 ліпеня 1897 г. у в. Мікалаеўшчына Стаўпецкага павета. З 1950 г. жыў у ЗША, быў актыўным дзеячам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, сябрам парафіяльнай Рады катэдральнага сабора імя святога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку. Некалькі гадоў працаваў рэдактарам газеты «Беларус», каля 15 гадоў — часопіса «Голас Царквы», займаўся перакладамі літургічных тэкстаў з царкоўнаславянскай на беларускую мову[58]. Памёр 25 кастрычніка 1991 г. у ЗША.

У 1988 г. пабачыла свет Напрастольнае святое Евангелле[59] ў перакладзе мітрапаліта Мацукевіча і «Богаслужбовы Апостал»[60], у 1992–1995 гг. — «Парэміі»: збор 285-ці парэмій, якія чытаюцца на набажэнствах[61].

Вацлаў Пануцэвіч прычыніўся да перакладаў паасобных тэкстаў Святога Пісання[62], здзейсніў пераклад літургіі св. Яна Залатавуста, якім карысталіся ў беларускай грэка-каталіцкай Спаскай царкве ў Чыкага.

Кс. Язэп Германовіч ажыццявіў пераклады некаторых псальмаў, евангельскіх прыпавесцяў, біблійных гісторый[63].


СЬВЯТАЯ БІБЛЯ

КНІГІ СЬВЯТОГА ПІСЬМА

СТАРОГА И НОВАГА ЗАКОНУ

З МОВЫ ГЭБРЭЙСКАЕ А ГРЭЦКАЕ НА ВЯЛІКАЛІТОЎСКУЮ (БЕЛАРУСКУЮ) НАНАВА ПЕРАКЛАДЗЕНЫЯ

У НЮ ЁРКУ 1973

Тытульны аркуш Бібліі ў перакладзе Янкі Станкевіча. Нью-Ёрк, 1973 г.

Пасля Другой сусветнай вайны сярод беларускіх пратэстантаў на эміграцыі аднавіліся намаганні здзейсніць выданне беларускага перакладу Бібліі. Першы ў гэтай справе звярнуўся да Брытанскага і Замежнага Біблійнага таварыства доктар В. Тумаш у 1946 годзе. Да яго просьбы далучыліся некаторыя пратэстанцкія святары, якія, апрача гэтага, звярталіся і да амерыканскіх капеланаў, і да Сусветнай рады Цэркваў, і да шведскага Біблійнага таварыства. Брытанскае і Замежнае Біблійнае таварыства адгукнулася лістом да перадавых святароў праваслаўнага, каталіцкага і евангелісцкага веравызнанняў, у якім пыталася, ці патрэбны беларусам пераклад Св. Пісання на родную мову і колькі беларусаў знаходзіцца на эміграцыі[64].

У 1970 г. быў выдадзены «Новы Закон»[65] у перакладзе Янкі Станкевіча, а ў 1973 г. — поўная Біблія[66] ў перакладзе з габрэйскай і грэцкай моваў у супрацоўніцтве з Майсеем Гітліным.

Пераклад Бібліі быў ініцыяваны «Беларускім Біблійным камітэтам», створаным у 1965 г. у ЗША з мэтаю выдаць і распаўсюдзіць беларускую Біблію. У склад камітэта ўвайшлі М. Гітлін (дырэктар), Я. Станкевіч і Т. Сайка[67].

Пераклад быў зроблены паводле пратэстанцкага канону з арыгінала (Стары Запавет — з габрэйскай, Новы Запавет — з грэцкае мовы), тэкстуальна ён не саступае ў дакладнасці класічным

перакладам. Адметнаю асаблівасцю перакладу з'яўляецца яго насычанасць архаічнымі старабеларускімі формамі і неалагізмамі.

Доктар філасофіі Янка Станкевіч нарадзіўся 26 лістапада 1891 г. у сялянскай сям'і ў сяле Вурняняты (Арляняты) Крэўскай воласці Ашмянскага павета. Скончыў Віленскую беларускую гімназію і Пражскі ўніверсітэт. Працаваў выкладчыкам у Варшаўскім і Віленскім універсітэтах. У творчай дзейнасці выступаў пад псеўданімамі Брачыслаў Скарынін, Ян Янушонак. Памёр 16 жніўня 1976 г. у ЗША[68].

На жаль, моўны пурызм Янкі Станкевіча зрабіў гэты пераклад цяжкачытэльным: падаецца, што Я. Станкевіч перш за ўсё быў заняты пошукамі «мэта-мовы», цікавай толькі вузкім спецыялістам.

З 1970 г. распачынае працу над сваім перакладам кс. Уладзіслаў Чарняўскі. Плён ягонай працы пасля выдання паасобных кніг Старога Запавету і двух выданняў Новага Запавету аформіўся ў выглядзе поўнай Бібліі ў выданні Біблейскага таварыства[69] ў 2012 годзе.

Нарадзіўся кс. Уладзіслаў 14 студзеня 1916 г. у засценку Амружын Гарадзенскай губерні. Паходзіў з сялянскай сям'і. Скончыў 4 класы ў Вішнеўскай школе, вучыўся ў Крэўскай гімназіі. У 1931–1933 гг. навучаўся ў настаўніцкай гімназіі ў Барунах Ашмянскага павета[70]. Пад уплывам свайго дзядзькі кс. Францішка Чарняўскага паступіў у гімназію ў Друі пры кляштары марыянаў. Пазней успамінаў: «Я ўжо з Друі быў сьведамым. Як калом увагналі, калі ксяндзоў-беларусаў вывозілі, усё гэта я перажываў. Таму ня трэба мне ні гаварыць, ні вучыць пра беларускасць»[71]. Пасля сканчэння гімназіі ў Друі паступіў у навіцыят марыянаў. Падчас рэпрэсіяў польскіх уладаў супраць беларускіх ксяндзоў-марыянаў з'ехаў з мястэчка. Жыў у Вільні[72].

Кс. Уладзіслаў Чарняўскі атрымаў святарскае пасвячэнне ў кастрычніку 1944 г. з рук літоўскага біскупа Мечыслава Райніса. Першую Імшу цэлебраваў у Крэве на беларускай мове. Вярнуўшыся ў Вільню, пэўны час працаваў у касцёле св. Ігната. Пасля арышту кс. Адама Станкевіча разглядаўся як кандыдат на ягонае месца, але прызначэнне не адбылося. Некаторы час працаваў у літоўскіх касцёлах ва Укмэрге, Гегужыне, Ернішках, Варэне, Эйшышках, затым перавёўся ў Беларусь. Напачатку працаваў у Войстане на Смаргоншчыне, а з 1954 г. — у вішнеўскім касцёле на Валожыншчыне.

Разам з біскупам Чэславам Сіповічам кс. Уладзіслаў Чарняўскі прысутнічаў на аўдыенцыі ў папы Паўла VI. У часе размовы па-лацінску Папа сказаў, што хоча бачыць а. Уладзіслава беларускім біскупам, распытваў пра рэлігійную сітуацыю ў Беларусі, гаварылі і на іншыя балючыя тэмы[73]. У 1966 г. кс. Чарняўскі атрымаў ліст ад папы Паўла VI, у якім рабілася прапанова пасады адміністратара для ўсіх католікаў Беларусі, на што не пагадзілася савецкае кіраўніцтва. У 1967 г. кс. Чарняўскі наведаў Ватыкан па запрашэнні Кангрэгацыі абрадаў і атрымаў ад Паўла VI даручэнне заняцца перакладам Бібліі на беларускую мову.

Пераклаўшы сем кніг літургічных тэкстаў, кс. Уладзіслаў даслаў пераклады ў Рым і праз некаторы час атрымаў запрашэнне на аўдыенцыю ў Ватыкан, але савецкія ўлады не далі дазволу на выезд[74]. Памёр 22 снежня 2001 г. у Мінску. Пахаваны ў мястэчку Вішнева[75].

Кс. Чарняўскі ў сваім перакладзе выкарыстоўваў тэксты лацінскай Вульгаты, рускага Сінадальнага перакладу, польскіх — Бібліі Якуба Вуйка і Бібліі Тысячагоддзя. У арыгінальным тэксце перакладу — у аркушах, набраных на друкавальнай машынцы — напісаныя назвы паасобных раздзелаў, якія перакладчык падаў згодна з польскай Бібліяй Тысячагоддзя. У паасобных частках практычна цалкам захаваныя паслядоўнасць словаў, стылістыка і канструкцыя польскага тэксту. Згодна з лацінскай традыцыяй гучання, перакладчык падаў транскрыпцыю біблійных імёнаў уласных, а таксама геаграфічных назваў.

Застаецца адкрытым пытанне адносна крыніцы перакладу а. Чарняўскага, хаця й верагодна, што асноўная частка Святога Пісання перакладзеная з польскай Бібліі Тысячагоддзя. Калі б не крыніцы, з якіх здзяйсняўся пераклад, можна сцвярджаць, што паводле лексікі (гаворка ідзе пра




Вокладка Новага Запавету ў перакладзе кс. Уладзіслава Чарняўскага. Мінск, 2003 г.

аркушы машынапісу, а не пазнейшыя варыянты, адрэдагаваныя да непазнавальнасці) і стылю — гэта адзін з найлепшых перакладаў Бібліі. Перакладчыку ўдалося ўзвесці своеасаблівы помнік пры дапамозе Божага слова жывой беларускай мове пачатку мінулага стагоддзя. Адценні лакальных гаворак і дыялектызмаў, багацце словазлучэнняў, выкарыстанне клічнага склону надаюць гэтаму перакладу асаблівую каштоўнасць, фармуюць пачаткі біблійнага стылю беларускай мовы, што не ўдалося зрабіць Я. Станкевічу з яго «мэта-моваю». Праца кс. Чарняўскага адметная натуральным, жывым сінтаксісам, якога не хапае сучаснай мове (і ў тым ліку перакладу Васіля Сёмухі).

У другой палове 1990-х гг. група маладых вернікаў пад кіраўніцтвам Антонія Бокуна пачала працу над выданнем перакладу Бібліі, зробленага кс. Уладзіславам Чарняўскім. На працягу пяці гадоў была праведзена вялікая праца па рэдагаванні тэксту, параўнанні яго з тэкстамі на арыгінальных мовах і тэкстамі Бібліі на 7-мі розных мовах[76]. Гэтая праца мела вынікам выданне «Кнігі Роду»[77] ў 1997 г., «Новага Запавету»[78] ў 1999 г. і «Пяцікніжжа»[79] ў 2002 годзе.

Антоній Бокун таксама дапамог наладзіць кантакты прадстаўнікоў Беларускага Біблійнага таварыства з кс. Чарняўскім. Пазней да гэтае справы далучыліся а. Андрэй Абламейка і




Вокладка кнігі «Найвышэйшая песня Саламонава» ў перакладзе Васіля Сёмухі. Мінск, 1994 г.

а. Сяргей Гаек[80].

Незадоўга да сваёй смерці напрыканцы 2001 г. кс. Уладзіслаў Чарняўскі перадаў Біблійнаму таварыству правы на выданне рукапісаў, і ў 2003 г. выйшла беларускае выданне Новага Запавету[81]. Цягам наступных гадоў вялася праца па рэдагаванні тэксту поўнай Бібліі, да якой былі прыцягнутыя навукоўцы-лаціністы Жанна Некрашэвіч-Кароткая і Таццяна Федасеева. Падчас іх працы тэкст кс. Чарняўскага звяраўся з Новаю Вульгатаю, быў набліжаны да сінадальнага перакладу і пазбаўлены дыялектызмаў з Гарадзеншчыны і Валожыншчыны, дзе кс. Чарняўскі нарадзіўся і пражыў значную частку жыцця. Выданне поўнай Бібліі[82] паводле тэксту кс. Уладзіслава Чарняўскага адбылося на пачатку 2012 года.

У перыяд з 1970-га па 2011 г. а. Аляксандр Надсан здзейсніў пераклады выбраных тэкстаў Старога і Новага Запаветаў[83]. У 2006 г. Евангеллі нядзельныя і святочныя — Апракос[84], 9 песняў Святога Пісання і Псалтыр Давідавы — з'явіліся ў электронным выглядзе.

А. Надсан пераклаў з грэцкай і славянскай моваў на беларускую значную частку ўсходніх літургічных тэкстаў, падрыхтаваў больш 250-ці навуковых публікацый, кніг па гісторыі Беларусі і гісторыі беларускага хрысціянства XX ст., а таксама малітоўнік «Госпаду памолімся» (2002), які з'яўляецца афіцыйным тэкстам богаслужэнняў Беларускай грэка-каталіцкай Царквы.

Кніга Эклезіяста і Песня Песняў[85] Старога Запавету ў перакладзе Васіля Сёмухі пабачылі свет у 1990 г., у 1994 г. выйшла «Найвышэйшая песня Саламонава»[86], перавыданне якой адбылося ў 2008 годзе[87].

Васіль Сёмуха нарадзіўся 18 студзеня 1936 г. на хутары Ясянец (цяпер у Пружанскім раёне)[88]. Скончыў Пружанскую сярэднюю школу № 2. Вучыўся на рамана-германскім аддзяленні філалагічнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта імя В. Ламаносава. Скончыў вучобу ў 1959 годзе.

Васіль Сёмуха, які пачынаў працу над перакладам пры Біблейскай камісіі Беларускай Праваслаўнай Царквы, у 1995 г. здзейсніў уласны пераклад Новага Запавету і Псалтыра[89] з рускай мовы. Відавочна, што пераклад паўстаў на глебе рускай Сінадальнай Бібліі, бо мае тыя ж самыя (ужо апісаныя ў навуковых працах) памылкі — як тэкстуальнага, так і багаслоўскага зместу. Мова перакладу В. Сёмухі вельмі багатая, але аўтар дазволіў сабе адвольнасць у перакладзе цяжкіх месцаў, дыялектнае напісанне біблійных імёнаў, часам — да страты іх запаветнай этымалогіі. Варта адзначыць, што гэтая спроба перадаць Святое Пісанне здзейсненая выключна праз прызму мастацкасці.

Пераклад усёй Бібліі[90] быў выдадзены ў 2002 г. у Мінску пад рэдакцыяй місіянера Юркі Рапецкага (Канада) з дапамогаю мітрапаліта Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мікалая.

Тэксты перакладаў В. Сёмухі, пачынаючы з 2006 г., былі выкарыстаныя ў шматлікіх выданнях прат. С. Горбіка (Львоў). Некаторыя тэксты Старога Запавета ў гэтых выданнях, адсутныя ў перакладах В. Сёмухі, пераствораныя самім а. Горбікам[91].

23 снежня 1989 г. адбылося першае пасяджэнне Біблейскай камісіі Беларускай Праваслаўнай Царквы па перакладзе Св. Пісання на беларускую мову[92]. У першым складзе камісіі налічвалася 20 чалавек. Адным з першых да яе далучыўся протапрэсвітэр Віталій Баравы, навуковым кансультантам камісіі быў прафесар Канстанцін Лагачоў з Пецярбурга, вядомы спецыяліст па перакладах




Вокладка кнігі «Святое Евангелле паводле Марка» ў перакладзе Біблейскай камісіі Беларускай Праваслаўнай Царквы па перакладзе Св. Пісання на беларускую мову. Мінск, 1999 г.

Св. Пісання. Цяперашні архіепіскап Пінскі Стэфан, тады рэктар Мінскай духоўнай семінарыі, прыязджаў на пасяджэнні камісіі з Жыровічаў, протаіерэй Сергій Гардун — са Слоніма. У склад камісіі ўваходзілі беларускія навукоўцы, літаратары і перакладчыкі Васіль Сёмуха, Адам Мальдзіс, Уладзімір Конан, Алесь Яскевіч, Сяргей Шупа, Міхаіл Дубянецкі, бібліёграф Валянціна Дышыневіч, агіёграф Аляксей Мельнікаў.

Пасля выдання ў 1991 г. першага з чатырох Евангелляў — Евангелля паводле Мацвея — праца над перакладам прыпынілася і аднавілася толькі ў 1995 годзе. Старшынёй камісіі па-ранейшаму застаўся Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, намеснікам быў прызначаны протаіерэй Георгій Латушка, сакратаром — прафесар Іван Чарота, адказным рэдактарам перакладу — протаіерэй Сергій Гардун. У склад камісіі ўвайшлі дацэнт педагагічнага ўніверсітэта Уладзімір Васілевіч, клірык барысаўскага Свята-Уваскрасенскага сабора іерэй Аляксандр Пачопка, выкладчык Мінскай духоўнай семінарыі Алесь Кароль, Таццяна Матрунчык. У такім складзе камісія працягвае сваю дзейнасць з 1995 г., праводзячы пасяджэнні ў прыходскім доме Свята-Петра-Паўлаўскага сабора[93].

На працягу гэтых гадоў былі перакладзеныя і выдадзеныя Святое Евангелле паводле Мацвея[94],

Марка[95], Лукі[96], Яна[97], Евангеллі[98], Дзеі Апосталаў[99]. Праца над перакладам працягваецца.

Секцыя па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла была створаная ў 1992 годзе. У яе склад увайшлі 4 святары (У. Завальнюк, А. Дзям’янка, В. Жыльветра, М. Сапель) і 5 свецкіх асобаў (І. Жарнасек, А. Жлутка, К. Лялько, А. Новікава, Я. Чапля). Старшынёю быў прызначаны кс. У. Завальнюк. Дэкрэт аб скліканні секцыі быў падпісаны арцыбіскупам Казімірам Свёнткам 5 мая 1992 года. У выніку працы секцыі былі здзейсненыя пераклады літургічных і біблійных тэкстаў, неабходныя для выкарыстання ў літургіі і ў рэлігійнай літаратуры.

5 мая 1995 г., беручы пад увагу пастанову Святарскай рады Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, кардынал Казімір Свёнтэк наноў склікаў секцыю, якая атрымала назву «Мітрапалітальная камісія па перакладзе літургічных тэкстаў і рэлігійнай літаратуры». У склад гэтай камісіі ўвайшлі кс. А. Дзям’янка, кс. В. Жыльветра, кс. Ф. Кісель, кс. Т. Крыштопік, кс. М. Сапель, І. Жарнасек, А. Жлутка, К. Лялько, А. Новікава, а таксама, у якасці кансультанта, кс. С. Гаек. З 1999 г. у працы камісіі дапамагала М. Пашук, а пазней — М. Гракаў і А. Кузьміч. Рашэннем ККББ ад 1 лютага 2000 г. старшынёю камісіі быў прызначаны кс. М. Сапель.

У 2002 г. адбыліся змены ў складзе камісіі. Дэкрэтам ад 13 красавіка 2002 г. для працы ў камісіі былі прызначаныя кс. М. Сапель, кс. Ф. Кісель, кс. І. Лашук, кс. Я. Крэміс, а. А. Куляха, А. Жлутка, М. Пашук, М. Гракаў, К. Лялько, А. Новікава. Аднак пільнай патрэбай Касцёла стала стварэнне Лекцыянарыя на беларускай мове, паколькі былі неабходныя тэксты для святой Імшы, якая транслёравалася па радыё з архікатэдральнага касцёла ў Мінску.

Спробы перакладу «Лекцыянарыя» былі ўжо ў 1997 г. Тады над гэтым працавалі А. Бяляцкі і А. Жлутка. Цяпер гэта было даручана А. Кузьмічу і М. Пашук. Куратарам працы спачатку быў кс. І. Лашук, а затым кс. Я.Крэміс.

Дэкрэтам Старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі ў верасні 2004 г. камісія была рэарганізаваная ў «Мітрапалітальную камісію па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла», а ў снежні таго ж года рашэннем ККББ у складзе Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў была створана Секцыя па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла. Быў зацверджаны наступны склад секцыі: кс. Ян Крэміс (старшыня), кс. І. Лашук, кс. Ф. Кісель, кс. Ян Кучынскі, а. А. Куляха, М. Пашук, М. Барткова, А. Жлутка, А. Кузьміч (у кастрычніку

[1] Гл. Ластоўскі, В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. – Мінск: «Мастацкая літаратура», 2012. – С. 7.

[2] Гл. Сперанский, М. История древней русской литературы. – Москва, 1921. – С. 186–187.

[3] Сідорка, В. Вытокі хрысціянства ў Беларусі, або хто хрысціў Рагнеду? // Каталіцкі веснік. – 2013. – № 8 (29). – С. 3.

[4] Гл. Ластоўскі, В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. – Мінск: «Мастацкая літаратура», 2012. – С. 8.

[5] Фальклор, гісторыя і літаратура беларусаў у кантэксце культурнай спадчыны славян : матэрыялы рэсп. студ. навук.-практ. канф., г. Брэст, 19 кастр. 2011 г. / рэдкал.: З. П. Мельнікава [і інш.]. – Брэст: «Альтернатива», 2012. – С. 13.

[6] Еўмянькоў, В. Літаратурнае рэдагаванне і кнігавыданне на тэрыторыі Беларусі (XI – першая палова XVII стст.) – Магілёў: УА «МДУ імя А.А. Куляшова», 2012. – С. 6.

[7] Гл. Родаў, Г. З гісторыі перакладу Бібліі на ўсходнеславянскіх тэрыторыях. Даклад на сімпозіуме, прысвечаным Божаму слову ў год св. апостала Паўла: «Слова Божае жывое і дзейснае» (Гбр 4, 12), 14–16 лістапада 2008 г.

[8] Гл. Трацяк, І. Біблія ў кантэксце беларускай культуры. – Гродна: УА «Гродзенскі дзярж. ун-т імя Я. Купалы», 2003. – С. 15.

[9] Нікалаюк, Д. Прападобная Еўфрасіння Полацкая. – Hajnówka : «Bratczyk», 2010. – С. 48.

[10] Нікалаеў, М. Палата кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X–XVIII стагоддзях. – Мінск: «Мастацкая літаратура», 1993. – С. 15.

[11] Севярынец, П. Біблія // Люблю Беларусь: 200 феноменаў нацыянальнай ідэі. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. – С. 520.

[12] Арлоў, У. Таямніцы полацкай гісторыі. – Мінск: «Папуры», 2008. – С. 98–99.

[13] Трацяк, І. Біблія ў кантэксце беларускай культуры. – Гродна: УА «Гродзенскі дзярж. ун-т імя Я. Купалы», 2003. – С. 15.

[14] Адамковіч, А. Святар і пісьменнік // Наша вера. – 1999. – № 2 (8).

[15] Беларускія пісьменнікі: бібліяграфічны слоўнік: у 6 т. – Мінск : «БелЭн», 1992–1995. – 2 т.

[16] Смалянчук, А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. – Гародня, 2001. – С. 259–260.

[17] Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст.: Жыццярысы, мартыралогія, успаміны / аўтар-укладальнік: Ю. Гарбінскі. – Мінск–Мюнхен: «Беларускі кнігазбор», 1999.

[18] Календарыюм // Czasopis. – 2004. – № 10.

[19] Аўдзяюк, А. Спроба ўкладання бібліяграфіі перакладаў Бібліі на беларускую мову // Наша слова. – 2011. – № 46–47.

[20] Божым шляхам. – 1972. – № 5–6 (133–134). – С. 4.

[21] Цар Саламон. Песьні Песьняў / пер. В. Ластоўскага // Крывіч: месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця. – 1926. – № 1 (11).– С. 1–6.

[22] Idem (уступ).

[23] Новы Запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста. Псальмы. – Гельсінкфорс: Брытанскае і Замежнае Біблейскае Таварыства, 1931. – С. 353 + С. 93.

[24] Глагоўская, Л. Хоць памёр, жыць будзе // Ніва. – 2008. – № 41, 12 кастр.

[25] ЦНБ, ф. 5, воп. 1, спр. 1; Божым шляхам (Лондан). 1975. № 1-2; ЭГБ, III; Архівы БНР.

[26] Маракоў, Л. У. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794–1991: Энц. даведнік: у 10 т. – Т. 1. – Смаленск, 2003.

[27] Ясько. Д. «Новы Запавет» у беларускай мове // Бацькаўшчына. – 1949. – №4. – С. 3.

[28] Luka Nikolayevich Dziekuc Malej. Information regarding the persons to whom the British and Foreign Bible Society entrusts Biblical translation work, 1929 (Ms).

[29] Пікарда, Г. Нябеснае Полымя // Спадчына. – 1995. – №4.

[30] Idem.

[31] Božaje Słova. Lekcyi, Evanelii i Pramovy na Niadzieli i Śviaty [Ad Stankievič]. – Lvou; Vilnia: Biełaruskaje Katolickaje Vydaviectva, 1938. – 372 c.

[32] Луцкевіч, Л. Войцік, Г. Адам Станкевіч. – Вільня, 2002.

[33] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Мінска: у 4 кн. – Кн. 1-я. – Мн.: БЕЛТА, 2001.

[34] Маракоў, Л. У. Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794–1991: Энц. даведнік: у 10 т. – Т. 2. – Смаленск, 2003.

[35] Станкевіч, А. Божае Слова: Лекцыі, Эванэліі і прамовы на нядзелі і сьвяты // Станкевіч, А. З Богам да Беларусі: Збор твораў. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. – С. 575–719; Станкевіч, А. Божае Слова: Лекцыі, Эванэліі і прамовы на нядзелі і сьвяты // Станкевіч, А. Выбранае / уклад., прадм. і камент. Ул. Конана. – Мінск: Кнігазбор, 2008. – С. 297–318.

[36] Čatyry Evanelii i Apostalskija Dziei, Perałažyu i padau wyjasnienni ks. mhr Vincent Hadleuski. – Wilnia, 1939. – 417 s.

[37] Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст. : Жыццярысы, мартыралогія, успаміны / аўтар-укладальнік: Ю. Гарбінскі. – Мінск–Мюнхен: «Беларускі кнігазбор», 1999.

[38] Vytautas Žeimantas. Vincentas Hadliauskis – kunigas, publicistas, leidėjas, kankinys // Voruta. – 2010. – Nr. 12–13.

[39] Кніга прарока Ёны / пер. В. Тумаш; машынапіс, архіў бібліятэкі Ф. Скарыны, Лёндан, б.д. [прыбл. 1945–1954]. – 3 ст.

[40] Аўдзяюк, А. Спроба ўкладання бібліяграфіі перакладаў Бібліі на беларускую мову // Наша слова. – 2011. – № 46–47.

[41] Псалом 50 // Божым шляхам : малітоўнік для беларусаў. – Рым, 1946. – С. 13–19; Пракімены 8-і гласаў, Апосталы і Эвангэльлі ў беларускім перакладзе для літургічнага ўжытку ў нядзелі і сьвяты. – Лёндан, 1967. – 150 с. (ратататарнае выданьне).

[42] Юрэвіч, Л. Літаратурны рух на эміграцыі. – Менск: БГА, 2002.

[43] Кніга прарока Данілы / пер. Л. Галяк; машынапіс. – Лёндан, 1949. – 31 ст.; Кніга Рут / пер. Л. Галяк; машынапіс. – Лёндан, б.д. [1950]. – 7 ст.; Кніга Экклезіяста або Казаньніка / пер. Л. Галяк; машынапіс. – Лёндан, б.д. [1950]. – 14 ст.; Кніга прарока Сафона / пер. Л. Галяк; машынапіс. – Лёндан, б.д. [1950]. – 5 ст.; Кніга Эстэры / пер. Л. Галяк; машынапіс. – Лёндан, 1950. – 16 ст.; Кніга прарока Міхея / пер. Л. Галяк; машынапіс. – Лёндан, 1950. – 8 ст.; Кніга Прыказкі Салямона / пер. Л. Галяк; машынапіс. – Лёндан, 1950. – 47 ст.

[44] Юрэвіч, Л. Літаратурны рух на эміграцыі. – Менск: БГА, 2002.

[45] Аўдзяюк, А. // Часасловец.

[46] Галяк, Л. Успаміны: у 2 кн. – Кніга 1. – ЗША: «Летапіс», 1982; Кніга 2. – ЗША: «Летапіс», 1983.

[47] Sviataja Evanelija i Apostalskija dziei / pieraklau i padau vyjasnienni Piotr Tatarynovič. – Rym: Vydaviectva Bielaruskaj Relihijna-Adradzenskaj Časopisi «Znič», 1954. – 636 c.

[48] Listy śviatyh apostalau / pieraklau i padau vyjasnienni Piotr Tatarynovič. - Rym:Vydaviectva Bielaruskaj Relihijna-Adradzenskaj Časopisi «Znič», 1954. – iv, 403 c.

[49] Лісты Апостала Паўла да Тыматэя / пераклаў монс. Пётр Татарыновіч. – Полацак [Полацк]: Грэка-каталіцкая парафія Сьвятапакутніка Язафата ў г. Полацку, 2008. – 55 с.

[50] Гл. Станкевіч, С. Сьвятая Эванэлія і Апостальскія Дзеі // Бацькаўшчына. – 1955. – 19 чэрв. – С. 3.

[51] Сьвятое Пісьмо. Кнігі Старога Запавету. Кніжыца І. Кніга Руты, Кніга прарока Еэля, Кніга прарока Ёны. – Нью-Ёрк, 1959.

[52] Пятроўскі, Я. Генезіс. – Гэйнсвіле, 1984.

[53] Пятроўскі, Я. Кніга Эклезіяста, або прапаведніка. – Гэйнсвіле, 1987.

[54] Паводля сьв. Яна Эвангеле Госпада нашага Ісуса Хрыста / на беларускую мову з грэцкага тэксту пераклаў Ян Пятроўскі. – Менск–Лёндан–Нью-Ёрк, 1991.

[55] Пашкевіч, А. Пратэстантызм і беларускі нацыяналізм у міжваеннай Польшчы // Arche. – 2007. – № 5 (56).

[56] LCVA, ф. 51, воп. 7, спр. 746; Кіпель В.; Пятроўскі Я.; Веснік БДУ. – 1997. – № 1.

[57] Евангелле ад Мацьвея. Евангелле ад Лукі. Евангелле ад Марка. Евангелле ад Яна / пераклад М. Міцкевіча. – Рукапіс, архіў Біблейскай



«Святое Евангелле» ў перакладзе Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў пры ККБ у Беларусі. Мінск, 2012 г.

2007 года замест А. Жлуткі была ўключана А. Сухоцкая).

З 1992-га па 2004 г. секцыяй было здзейснена шмат перакладаў літургічных і біблійных тэкстаў, распрацавана пэўная тэрміналогія.

У 2002 г. распачалася праца над падрыхтоўкаю «Лекцыянарыя». Пераклад быў здзейснены паводле прадпісанняў Касцёла з арыгінальных моваў з улікам лацінскага тэксту Новай Вульгаты. Пераклад быў параўнаны з іншымі сучаснымі перакладамі і стылістычна апрацаваны. Спачатку «Лекцыянарый» быў выдадзены ў форме 16-ці сшыткаў, а пазней — у форме 6-ці кніг.

У 2012 г. было выдадзенае «Святое Евангелле»[100], вядзецца праца над перакладам Новага Запавету.

Перакладамі кнігі псальмаў і песняў Бібліі ў перыяд з 1993-га па 2002 г. займаўся протаіерэй Сергій Гардун. У электроннай версіі змешчаны пераклад поўнай кнігі псальмаў Міхаіла Астапчыка[101].

Працоўная група пад кіраўніцтвам кс. Уладзіслава Завальнюка[102] ў 1997 г., а затым у 2007 г. выдала пераклад Евангелляў[103].

У 2010 г. быў выдадзены пераклад Евангелля паводле Яна[104], здзейснены Эрнэстам Сабілам у супрацоўніцтве з Сяргеем Малахавым.

Такім чынам, сёння беларусы маюць тры поўныя пераклады Святога Пісання — кс. Уладзіслава Чарняўскага, Янкі Станкевіча і Васіля Сёмухі. Маем таксама некалькі перакладаў Новага Запавету і некалькі дзясяткаў паасобных кніг Бібліі. На вялікі жаль, беларусы пакуль не маюць Святога Пісання, якое б адпавядала сучасным навуковым крытэрыям біблійнага перакладу: выкарыстоўванню арыгінальнага тэксту, захаванню навуковай метадалогіі з улікам усіх сучасных дасягненняў і напрацовак у галіне біблістыкі. Да таго ж пераклад творыцца з улікам нормаў літаратурнай мовы і высокага стылю біблійнага маўлення. Такая праца вымагае супрацоўніцтва і святароў, і навукоўцаў, і лінгвістаў — людзей, якія адчуваюць мову і добра ведаюць адрасата перакладу.

Камісіі пры Беларускім Экзархаце Маскоўскага Патрыярхата.

58 Пранчак, Л. Беларуская Амерыка // Полымя. – 1994. – С. 398–399.

59 Напрастольнае святое Евангелле / уклад. архіепіскап Мікалай, першы герарх БАПЦ. – Таронта (Антарыё), 1988. – XXIV, 316, 148 с.: іл., факсім.

60 Богаслужбовы Апостал. Кніга першая. – Таронта (Антарыё, Канада): БАПЦ, 1998. – 645 с.

61 Парэміі : збор 285 парэмій, якія чытаюцца на багаслужбах / упарадкаваў мітрапаліт Мікалай. – Таронта: Беларус. Праваслаўн. Царква, 1993. – 246 с.

62 Псалмы 52, 54, 90 // Шостая гадзіна. Брашура-машынапіс для царкоўнага ўжытку. – Чыкага, б.д. [1960–1980]. С. 2–5; Psalm 1; Psalm 103 (104) (Выбраныя вершы) //Viacernia, б.д. [1960–1980]. – С. 2–4; Псалом 50 // Служба Божая або сьв. Літургія сьвятога Яна Хрызастома, а таксама некаторыя дадатковыя малітвы на розныя нагоды й урачыстасьці ды штодзённыя пацеры / апрацаваў В. П. – Чыкага, 1958. – С. 132–134.

63 Аўдзяюк, А. Спроба ўкладання бібліяграфіі перакладаў Бібліі на беларускую мову // Наша слова. – 2011. – № 46–47.

64 Ясько, Д. «Новы Запавет» у беларускай мове // Бацькаўшчына. – 1949. – №4. – С. 3.

65 Новы Закон Спадара а Спаса нашага Ісуса Хрыста / з мовы грэцкае на вялікалітоўскую (беларускую) нанава перакладзены; пераклад Я. Станкевіча. — Нью-Ёрк: Вялікалітоўскае (Беларускае) Навуковае Таварыства Пранціша Скарыны, 1970. – 260 с.

66 Сьвятая Біблія: Кнігі Сьвятога Пісьма Старога й Новага Закону / з мовы габрэйскае а грэцкае. – Нью-Ёрк, 1973. – 840 + 260 с.

67 Трацяк, І. Біблія ў кантэксце беларускай культуры. – Гродна, 2002. – С. 45.

68 Туронак, Ю. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939–1944). – Менск, 2002.

69 Біблія. Кнігі Святога Пісання Старога і Новага Запаветаў / паводле рукапісаў Ул. Чарняўскага; навук. рэд. Ж. Некрашэвіч-Кароткая; Дж. Элволд. – Мінск: Біблейскае таварыства ў Рэспубліцы Беларусь, 2012. – 1120 с.

70 Гардзіенка, А. Ксяндзу Ўладзіславу Чарняўскаму – 85 // Наша Ніва. – 2001. – № 4 (213).

71 Кожны народ павінен маліцца ў сваёй мове (інтэрв'ю з пробашчам вішнеўскага касцёла айцом Уладзіславам Чарняўскім) // Хрысьціянская думка. – 1993. – № 3.

72 Казлоўскі, М. Правадыр і слуга // Наша слова. 2001. – № 1 (15).

73 Idem.

74 Уладзіслаў Чарняўскі // Дэмакратычная апазыцыя Беларусі 1956–1991 гг. – Мінск, 1999. – С. 93–94.

75 Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст.: Жыццярысы, мартыралогія, успаміны / аўтар-укладальнік: Ю. Гарбінскі. – Мінск–Мюнхен: «Беларускі кнігазбор», 1999.

76 Які будзе лёс перакладу Бібліі айца Ўладыслава Чарняўскага? // Радыё «Свабода», 18 снежня 2002 // www.svaboda.org.

77 Біблія. Кніга Роду / пер. айца Ул. Чарняўскага МІС. – Менск: «Унія», 1997. – 78 с.

78 Новы Запавет / пер. Ул. Чарняўскага; гал. рэд. В. Нікіцін, адк. рэд. А. Бокун. – Менск, [б.в.], 1999. – 464 с.

79 Біблія. Пяцікніжжа / пер. з лац. У. Чарняўскага; пад рэд. С. Акіньчыца. – Менск: «Юніпак», 2002. – 249 с.

80 Абламейка, С. Які будзе лёс перакладу Бібліі айца Уладзіслава Чарняўскага? // Радыё «Свабода», 29 снежня 2001.

81 Новы Запавет / літ. апрац. А. Бокуна; пер. на бел. Ул. Чарняўскага; навук. рэд. Ж. Некрашэвіч-Кароткая. – Мінск: Біблейскае таварыства, 2003. – 301, [1] с.

82 Біблія. Кнігі Святога Пісання Старога і Новага Запаветаў / паводле рукапісаў Ул. Чарняўскага; навук. рэд. Ж. Некрашэвіч-Кароткая; Дж. Элволд. – Мінск: Біблейскае таварыства ў Рэспубліцы Беларусь, 2012. – 1120 с.

83 Выбраныя тэксты Старога і Новага Запаветаў (Парэміі, Псалмы, Апосталы, Евангельлі, Пракімены, 9 песьняў Сьвятога Пісаньня) // Літургічныя тэксты. – Лёндан: «Божым шляхам», 1970–2004.

84 Эвангельлі нядзельныя і сьвяточныя : Апракос // уклаў д-н Сяргей Стасевіч; пераклады згарманізавала й выправіла Ірына Дубянецкая. – Вільня: «Наша будучыня», 2006. – 252 с., іл.

85 Біблія: Стары Запавет: Час маўчаць і час прамаўляць (Экл 3, 7): Кніга Эклезіяста, альбо Прапаведніка. – Найвышэйшая песня Саламонава (перакл. В. Сёмухі) // Далягляды, 1990. – Мінск: «Мастацкая літаратура», 1990. – С. 187 – 214.

86 Найвышэйшая песня Саламонава : Біблейская кніга / пераклад на беларускую мову В. Сёмухі; мастак А. Кашкурэвіч. – Мінск: «Мастацкая літаратура», 1994. – 78 с., іл.

87 Найвышэйшая песня Саламонава : Біблейская кніга / пераклад на беларускую мову В. Сёмухі; мастак А. Кашкурэвіч. – Мінск : «Мастацкая літаратура», 2008. – 84, [1] с.

88 Пейган, М. Сінкевіч, М. Гаркавы подых вайны // Раённыя будні. — 2012. – № 52, 11 ліп. – С. 5.

89 Новы Запавет. Псалтыр. / пер. з царкоўнаславян. В. Сёмухі. – Мінск: ВЦ «Бацькаўшчына», 1995. – 488 с.

90 Біблія. Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету. – Duncanville, USA: World Wide Printing, 2002. – 1534 с.

91 Аўдзяюк, А. Спроба ўкладання бібліяграфіі перакладаў Бібліі на беларускую мову // Наша слова. – 2011. – № 46–47.

92 Матрунчык, Т. Да 20-годдзя ўтварэння Біблейскай камісіі Беларускай Праваслаўнай Царквы // Царкоўнае Слова. – 2009. – № 52. – С. 4–6.

93 Матрунчык, Т. Да 20-годдзя ўтварэння Біблейскай камісіі Беларускай Праваслаўнай Царквы // Царкоўнае Слова. – 2009. – № 52. – С. 4–6.

94 Евангелие господа нашего Иисуса Христа : На четырех яз.: эллин., славян., российс. и бел. : С парал. местами. – Минск: «Белорусский Экзархат», 1991. – 235, [11] с., [16] л. ил.

95 Новы Запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста. Святое Евангелле паводле Марка. На чатырох мовах: грэчаскай, славянскай, рускай і беларускай: з паралельнымі месцамі. – Мінск: Выд-ва Бел. Экзархата БПЦ, 1999. – [4], 156 с., [1] л. каляр. іл.

96 Святое Евангелле паводле Лукі (на чатырох мовах: грэч., славян., рус. і беларус.: з парал. месцамі). – Мінск : Свята-Петра-Паўл. сабор, 2003. – 262, [4] с., [1] л. іл. (Новы Запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста ; Кн. 3).

97 Святое Евангелле паводле Іаана (на чатырох мовах: грэч., славян., рус. і беларус.: з парал. месцамі). – Мінск : Свята-Петра-Паўл. сабор, 2005. – 198, [4] с., [1] л. іл. (Новы Запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста ; Кн. 4).

98 Свяшчэннае Евангелле / пераклад на беларускую мову. – Мінск: Свята-Петра-Паўл. сабор, 2007. – 303, [1] с., [4] л. каляр. іл.

99 Дзеянні Сьвятых Апосталаў (на чатырох мовах: грэч., славян., рус. і беларус.: з парал. месцамі). – Мінск: Мінская фабрыка каляровага друку, 2010. - 271 с. (Новы Запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста; Кн. 5).

100 Святое Евангелле / Секцыя па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. – Мінск: «Про Хрысто», 2012. – 208 с.

101 https://sites.google.com/site/belpsalom

102 Евангельле / адказны рэд. кс. Уладыслаў Завальнюк. Студыйная праца перакладу паводле «Biblia Tysiąclecia». Студыйны тэкст для ўнутраных патрэб парафіі касьцёла сьв. Сымона і Алены. Выданне другое. – Мінск, 2007. – 285 с.

103 Евангельле / адказны рэд. кс. Уладыслаў Завальнюк. Студыйная праца перакладу паводле «Biblia Tysiąclecia». Студыйны тэкст для ўнутраных патрэб парафіі касьцёла сьв. Сымона і Алены. – Мінск, 1997.

104 Сьвятое Эвангельле паводле Яана. – Менск: «Беларуская Эвангельская Царква», 2010. – 67 с.

Лідзія Камінская



М. К. Чурлёніс. Вестка. 1905 г.

# ПТУШКІ ЧУРЛЁНІСА

*Да 140-годдзя з дня нараджэння*

Першыя раздзелы Бібліі, як вядома, прысвечаны таямнічаму працэсу стварэння свету. І з першых радкоў мы разумеем, што гэты працэс быў вельмі дынамічным, бо «Дух Божы насіўся над вадою». Шматразова паўторанае «і» («і сказаў Бог...», «і назваў Бог...» і г.д.) хутка напаўняе душу спакоем, і асабліва цешыць шматразова паўторанае: «І ўбачыў Бог, што гэта добра...».

Цікава, што ў мностве мастацкіх выяваў да Бібліі, насычаных людскімі натоўпамі, гэты першасны бязлюдны працэс не адлюстраваны, і толькі ў Чурлёніса ў цыкле «Стварэнне свету» можна амаль фізічна адчуць, як ціхім кароткім подыхам з зямной цвердзі вырастаюць дзівосныя кветкі, і чамусьці здаецца, што яны маюць свае дзівосныя галасы-шэпты, бо свет у Чурлёніса запалонены музыкай і зоркамі, таму што сказаў Бог: «Няхай будуць свяцілы на цвердзі нябеснай для аддзялення дня ад ночы і для знаменняў, і часоў, і дзён, і гадоў...».

У музеі Мікалоюса Канстанцінаса Чурлёніса ў Каўнасе мне пашчасціла пабываць у маладосці, падчас працы ў музеі Янкі Купалы. Тады ж быў набыты і альбом рэпрадукцый. Далёка не лепшага друку, ён меў на мяне нейкае магічнае ўздзеянне, бо адразу запаўняў усё мігатлівым цьмяным святлом агеньчыкаў і зорак, ціхім шумам вады і лесу, чыстым, прахалодным дыханнем наіўных кветак і спакоем ад сузірання рознакаляровых фігурак з вялікімі крыламі (на карціне «Рай»). І калі ў гэтую восень у Мастацкі музей у Мінску прывезлі карціны Чурлёніса з Каўнаса, я пабегла ў музей, як на спатканне, але была трошкі расчараваная і пакрыўджаная за мастака: у новых прасторах музея з высачэзнымі столямі і халоднымі сценамі яго работы, заціснутыя ў доўгім вузкім адсеку, выглядалі сіратліва. Нібы зразумеўшы мой незадаволены позірк, музейная наглядчыца паднялася са свайго месца і ўключыла музычнае суправаджэнне...

Будучы творца нарадзіўся 22 верасня 1875 года і быў названы двайным імем, але блізкія звалі яго менавіта другім: Костак, Кастукас. Хлопчык сядзеў з бацькам за піяніна ўжо з шасці гадоў, аднак не вельмі хацеў вучыць ноты — любіў імправізацыю, а творы Баха, якія найчасцей гучаць у касцёле, іграў па памяці, без нотаў. Бацька Чурлёніса Канстанцінас служыў касцёльным арганістам у Друскінінкаі, а маці — Адэля-Марыя-Магдалена Радманайтэ — вяла хатнюю гаспадарку і гадавала дзяцей — пяцёра сыноў і чатырох дачок.

Сям'я Чурлёнісаў сябравала з доктарам Маркевічам, а ён быў добра знаёмы з братамі Агінскімі, адзін з якіх, князь Міхал, унук знакамітага аўтара «Паланэза», жыў у маёнтку Плунге, куды і запрасіў музычна адоранага Кастукаса ў сваю аркестравую школу. У маёнтку была багатая бібліятэка, і Кастукас пачаў стыхійна маляваць: ён рабіў алоўкам замалёўкі парку, забудоваў маёнтка, цікавых

**Лідзія Камінская** — філолаг, супрацоўніца выдавецтва «Про Христо». Нарадзілася ў пас. Камсамольскі-на-Волзе Куйбышаўскай вобласці. Вучылася ў Бешанковіцкай СШ № 2 на Віцебшчыне. Закончыла філалагічны факультэт (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978). Працавала ў Чырвонадарскай васьмігадовай школе (Чэрвеньскі р-н), у Літаратурным музеі Янкі Купалы, Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, у часопісе «Роднае слова». Жыве ў Мінску.

яму твараў, кветак — усяго, што звычайна малююць дзеці.

З дапамогаю М. Агінскага, які стаў на некалькі гадоў апекуном таленавітага юнака, Кастукас скончыў Варшаўскі музычны інстытут і ўжо ў 20 гадоў быў вядомы як кампазітар. Са студэнцкіх гадоў Чурлёніса захаваўся сшытак, на старонках якога адлюстраваная праца яго розуму і яго зацікаўленасці: слоўнікі еўрапейскіх моваў і старажытныя пісьмёны халдзеяў, фінікійцаў, асірыйцаў, алфавіт уласнага вынаходніцтва; звесткі па геалогіі і геаграфіі; табліцы хімічных спалучэнняў, апісанні фізічных уласцівасцяў цвёрдых целаў, вадкасцяў і газаў — за ўсім гэтым відавочнае жаданне Чурлёніса спасцігаць сутнасць з'яваў жывой і мёртвай прыроды.

У 1899 г., заканчваючы інстытут, Чурлёніс у якасці выпускной працы піша кантату «De profundis» («З бездані»), якая спяваецца падчас каталіцкай пахавальнай службы на вершы псальма, што пачынаецца словамі: «З глыбіні заклікаю...». Амаль адначасова ён прысвячае Міхалу Агінскаму ўрачысты паланэз, а той, расчулены, дарыць Чурлёнісу цудоўнае піяніна.

Найбольш вядомы музычны твор Чурлёніса — сімфанічная паэма «У лесе», якую ён напісаў у 1901 г. усяго за 11 дзён для конкурсу сярод маладых польскіх выканаўцаў. Пераможцу конкурсу абяцалася прэмія ў тысячу рублёў, а гэта азначала, што можна было аплаціць вучобу ў Лейпцыгскай кансерваторыі. Яго твор быў ухвалены, але прэмію ўвогуле вырашылі не даваць — вучобу ў Лейпцыгу аплаціў Міхал Агінскі. Чурлёнісу ў гэты час было ўжо 25 гадоў — «ужо», таму што жыць яму заставалася ўсяго 10 гадоў, і ён нібы прадчуваў гэты сыход, як прадчувалі свой сыход усе геніі, якія паспелі зрабіць столькі, быццам жылі цэлую вечнасць — яны ўваходзілі ў яе кароткім высокім палётам...

Варшаўская філармонія так і не выканала за гэтыя 10 гадоў яго сімфанічную паэму, нанёсшы маладому кампазітару вялікую траўму. Да таго ж неўзабаве памёр Міхал Агінскі, і не прыстававаны да заробку грошай Чурлёніс часам



М. К. Чурлёніс.

хадзіў галодны і нават адмарозіў пальцы на руцэ, бо не меў пальчатак. З кансерваторыі яго выключылі за нявыплату грошай, але сябры назбіралі патрэбную суму і яго аднавілі.

Вярнуўшыся ў Варшаву, Чурлёніс узяў на сваё ўтрыманне трох малодшых братоў, і гэта вельмі расчуліла яго маці. Ён быў у сям'і першым і адчуваў сябе амаль бацькам.

У Варшаве Чурлёніс займаўся маляваннем у мастацкай школе, якую ўсе называлі акадэміяй — яе арганізаваў Казімір Стаброўскі, вядомы як таленавіты мастак і педагог. Творчая атмасфера ў акадэміі моцна кантраставала з лейпцыгскім кансерватызмам, і гэта вельмі падабалася Чурлёнісу.

Як і ўсе геніі, Чурлёніс меў свой адметны духоўны свет і марыў увасобіць яго ў вялікім цыкле са ста карцінаў. Сёння пад назваю «Стварэнне свету» вядома ўсяго 13 яго твораў. Разглядаючы іх, міжволі пачынаеш шукаць паслядоўнасць у касмічным працэсе нараджэння свету, і калі бачыш усе выявы і надпіс па-польску «Niech będzie!» («Няхай будзе!»), адразу згадваеш першыя радкі Бібліі, бо зразумела, Каму належыць рашуча выцягнутая рука і твар, якія сімвалізуюць Разумны Пачатак, пакладзены ў аснову сусвету. Дарэчы, сам Чурлёніс, задумваючы цыкл, гаварыў не пра біблейскае стварэнне свету, а іншага, свайго, фантастычнага свету. А як магло быць інакш у творчага чалавека? Адметна, што створаны ім вобраз Разумнага Пачатку — фігура ці толькі твар з каронаю становяцца лейтматывам многіх яго работ. Часам ён дае гэтаму каранаванаму вобразу назву «Rex», што азначае «Кароль». Можна ўслед за савецкімі мастацтвазнаўцамі гаварыць пра тое, што Чурлёніс ва ўсіх створаных ім вобразах проста ішоў за міфамі і літоўскімі казкамі, у якіх жылі каралі і каралеўны, існавалі каранаваныя сосны і вежы, а можна глядзець і бачыць інакш.

У цэлым пасля знакавага «Няхай будзе!» разумееш, бачыш з яго твораў, што ўжо ўсё ёсць, існуе, дыхае, радуецца, бо свету дадзена жыццё, і разам з ім усюды разлітая яго ўрачыстасць — жыццё быццам зноў і зноў стварае, узнаўляе само сябе ў мностве формаў, ліній, фарбаў, гукаў. На пяці лістах цыклу «Стварэнне свету» пануе ціхая радасць вольных імправізацый мастака, які, нібы дзіця, захоплены сваім уласным будаўніцтвам на жаданай яго душы планеце. І таму ў яго прасторы ўзвышаюцца велічныя спакойныя арфы і арганныя трубы ці проста цягнуць увысь свае сцяблінкі мілыя, чыстыя кветкі. Чурлёніс дазваляе нам бачыць і думаць як заўгодна, а бясконцыя пытанні-загадкі каля яго твораў яшчэ раз пацвярджаюць, што мастацтва — гэта цуд.

У вузкім адсеку нашага Мастацкага музея, які, на маю думку, не вельмі ўдала змясціў творы вольна-касмічнага Чурлёніса, побач са мною хадзіла жанчына, якая, выдыхнуўшы з сябе захапленне, сказала: «Я нічога не разумею, але мне ве-е-льмі падабаецца!..» А мне згадалася, як усе мы ў дзяцінстве любілі глядзець на аблокі, наперабой даючы назвы іх зменлівым формам, а яшчэ любілі маляваць на пяску і «будаваць» свае розныя хады і «замкі»...

Дарэчы, да таго, што не ўсімі разумеецца і прымаецца ў Чурлёніса (асабліва веруючымі людзьмі), належыць цыкл яго работ «Знакі задыяка». Гэтая назва зацвердзілася ўжо пасля смерці мастака, як і назвы карцін у адпаведнасці са знакамі: «Вадалей», «Рыбы» і г. д. Сам жа Чурлёніс даў сваім творам іншыя назвы, якія сведчаць, што яго работы звязаныя з



«Ляціць чорная бяда». З цыклу «Казка. Падарожжа каралевы». 1907 г.

астраноміяй, а не з астралогіяй: «Сонца ўваходзіць у знак Вадалея», «Сонца ўступае ў знак Рыбаў». З даўніх часоў людзі заўважылі сузор'і, падобныя да розных выяваў, пераважна звярыных (ад грэц. «zoon» — жывёла, звер). Па гэтых сузор'ях у сваім гадавым цыкле праходзіць Сонца. Па гэтым жа коле рухаюцца Месяц і ўсе планеты. Выява знака задыяка — гэта не само сузор'е, а яго астранамічны сімвал — пра гэта лепш расказаў бы айцец Аляксандр Шымбалёў, які, будучы протаіерэем Праваслаўнай Царквы, выкладае ў БДУ астраномію. Незразумелыя мне і рэплікі пра тое, што ў Чурлёніса шмат язычніцкага. Літоўцы, з маленства ўзгадаваныя на сваім багатым фальклоры, можа менавіта дзякуючы гэтаму «язычніцтву» не страцілі свайго нацыянальнага аблічча. Адны толькі песні могуць моцна трымаць народ разам, нездарма ж сказана, што песня — душа народа. Дарэчы, Чурлёніс зрабіў цудоўныя апрацоўкі многіх старадаўніх народных песняў, увёўшы іх у рэпертуар свайго хору, створанага ў Вільнюсе. У яго тонка арганізаванай душы нібы ўвесь час гучалі шолахі, вятры, званы і ціха ўздыхалі нясмелыя дзьмухаўцы — яго карціна пра гэтыя кранальныя вясновыя кветачкі так і называецца — «Цішыня». Усяго толькі дзьмухаўцы, але колькі ў іх спакою, цяпла і святла...

...«Сусвет уяўляецца мне як вялікая сімфонія, а людзі — як ноты», — пісаў Чурлёніс. Хіба ж не такою была Божая задума? Мы — ноты! І гэтым нотам, паводле Ньютана, адпавядаюць свае фарбы: напрыклад, «до» — чырвонае. На жаль, гэтай фарбы ўсё больш і больш у «вянцы стварэння» — чалавеку. Чурлёніс быў вельмі далікатны з фарбамі, а чырвонае ў яго пераважна плямкавае, кропкавае, хоць, здавалася б, стварэнне свету павінна перадавацца мастаком у чырвані, бо ўсё плоцевае нараджаецца ў крыві.

Найбольш часта ў карцінах Чурлёніса паўтараюцца вобразы сонца, дзьмухаўцоў, рукі, ахвярніка, птушкі, званоў і званіцаў, дзіцяці. Цікава, што яны як бы кантактуюць паміж сабою: сонца і дзьмухавец, рука і сонца, птушка і званіца, дзіця і птушка, дзіця і дзьмухавец і г. д. На карціне з біблейскаю назваю «Вестка» намалявана цёмная гара, з-за якой ззяюць сонечныя промні, і з імі да нас ляціць агромністая птушка. Гара — гэта сімвал перашкоды, але яе няма для Божага святла, і таму ў ім да людзей ляціць добрая вестка...

Промні і птушкі ляцяць на многіх карцінах Чурлёніса і «ўзятыя» яны, хутчэй за ўсё, з народных літоўскіх песняў і проста з жыцця — птушкі заўсёды побач з намі, але мы ўжо перасталі іх заўважаць. На жаль, яны бываюць трывожнымі, грознымі, цёмнымі, як на карціне з цыклу «Казка...», дзе вялізная птушка амаль сядае на безабароннае голенькае дзіцятка, якое працягвае ручкі да сонечнага дзьмухаўца; у варожую сонцу чорную птушку скіроўвае свой лук Стралец у «Знаках задыяка». Але ўсё перамагае белая птушка — біблейскі сімвал духу. Менавіта яна вянчае кампазіцыю ў «Санаце зорак». Дарэчы, і сваю каханую Зосю, Зосітэ, Чурлёніс называў белай птушкай, а перажыўшы дэпрэсію, казаў, што ад яго адляцела «птушка цемры». Свой подпіс ён таксама рабіў знакам, падобным да крылаў птушкі. Можна сказаць, што белая птушка ў Чурлёніса тоесная анёлу, і ў гэтым у яго творчасці выявіліся фальклорныя паданні і песні пра перасяленне душы ў птушку. У адным з лістоў да брата Чурлёніс пісаў: «Душа чалавека не павінна змінаць свае крылы ў ракушцы ўласнага „я“. Тады ёй цяжка, але чым шырэй яна раскіне крылы, чым шырэй зробіць круг, тым лягчэй, тым шчаслівейшы чалавек».

Вобразы белай птушкі дабра, крылатай душы, «анёла як лепшага чалавека» (Ю. Славацкі) складаюць сваё роднаснае кола і супрацьпастаўляюцца ў Чурлёніса вужу з нізінаў, ценям і ночы, птушкам цемры і дэманам. Усе гэтыя сілы Чурлёніс, напэўна ж, бачыў як рэальныя, і яго дзіцятка пад крыламі змрочнай птушкі і дзіцятка ў пагоні за райскімі птушкамі — гэта і ён сам.

Некалькі працаў Чурлёніса — і ў мастацтве, і ў музыцы — прысвечана вясне, лету і зіме. У музыцы гэта «Саната Сонца» і «Саната Вясны». Рэдкі мастак, пішучы вясну, звязвае яе з гукамі званоў — так проста перадае Чурлёніс абуджэнне зямлі. Вясковая званіца, вецер, аблокі і тонкія галінкі лазы, якія, цягнучыся да званоў, нібы звіняць просьбаю: «Гучы, вясна, жыві вясна!». Так і хочацца сказаць: «Радуйцеся», бо вясна — гэта ж яшчэ і Пасха...

Напэўна, самае галоўнае ў творах Чурлёніса — гэта думка. І яго думка пра мудрае адзінства ўсяго жывога, і нашы думкі, народжаныя яго карцінамі і музыкай, бо важна не тое, што намалявана, а тое, што знаходзіць дарогу да сэрца і розуму. І тады не будзе пытанняў пра тое, чаму каралева на карціне

апынулася на вяршыні гары і хто гэтыя людзі, якія ідуць у гару і навошта, і чаму на далонях каралевы ззяе хутарок з дзвюх хатак і г.д. Трэба проста паверыць, як у дзяцінстве мы верылі казкам, а стаўшы дарослымі, верым, што раніцаю аднаўляецца Божая міласэрнасць, бо мы зноў бачым і чуем...

Сваім карцінам санатных цыклаў Чурлёніс даў назвы ў адпаведнасці з часткамі музычнага жанра санаты: «Алегра», «Андантэ», «Скерца», «Фінал» (хіба не так рухаецца наша жыццё?). Як вядома, фінал у кожнага свой. У Чурлёніса — і ў творчасці, і ў жыцці з яго раннім фіналам — трагічны і велічны. На яго карціне «Фінал» намаляваны цэнтр, да якога сышліся празрыстыя ніці кругавога павуціння. За павуціннем — цёмнае, у рэдкіх агеньчыках зорак неба, пад якім на прыступках-п'едэсталах сядзяць, схіліўшы галовы, каранаваныя фігуры, а ўсю верхнюю частку прасторы займае звон. Відаць, што ён даўно нерухомы, бо на ніжнім яго краі вісіць павуціне, але ў велічным рэквіеме фіналу ціха ззяе надзея на новае жыццё — на зване абуджаецца маленькае прамяністае сонейка... Глядзіце — і ўбачыце...

Чурлёнісу заставалася некалькі гадоў жыцця, а ён, як дзіця, хацеў... у Афрыку, Егіпет, Індыю, Аўстралію, каб потым назаўсёды вярнуцца ў Літву. Але лёс ткаў сваю нітку.

Увосень 1903 года Чурлёніс прыехаў з выставаю сваіх твораў у Пецярбург і моцна пасябраваў з Мсціславам Дабужынскім, які першы з буйных мастакоў захоплена прыняў творчасць сціплага літоўца, зацікавіўшы ім А. Бенуа, Е. Лансэрэ і С. Макоўскага (рэдактара часопіса «Апалон»). Дарэчы, на выставе ў Пецярбургу Максіміліян Валошын назваў Чурлёніса дылетантам і дадаў, што Бог дылетантаў не любіць. На гэтую рэпліку Аляксандр Бенуа, усміхнуўшыся, адказаў: «Відаць таму, што Бог сам дылетант...». Сапраўды, ствараючы свет, Бог не меў вопыту падобнай працы, таму даводзілася дзесьці быць дылетантам. Міжволі згадваецца анекдот пра Эйнштэйна, які, трапіўшы пасля смерці да Бога, папрасіў Яго накрэсліць формулу светабудовы і, убачыўшы памылкі, прамовіў: «Але ж, Божа...» І Усявышні, уздыхнуўшы, адказаў: «Так, Я ведаю...»



М. К. Чурлёніс. Знакі задыяка. Стралец. 1907 г.

У апошнія месяцы напружанай працы Чурлёніс пераходзіць ад абагульненых ідэяў, выразна праяўленых у яго касмічных санатах, да пазнавальных выяваў: піша начны горад, скрозь які імчыць прывідны вершнік, што нагадвае літоўцам пра іх старажытны герб, малюе жамайцийскія крыжы, якія людзі здаўна ставілі пры дарогах, каля хатаў, на могілках. Ён разрываўся паміж нястрымным жаданнм працаваць (ствараць!) і неабходнасцю рэальна адказваць за блізкіх людзей. У апошнія гады ён жыў не толькі паміж Пецярбургам і Літвою, але паміж рэальным і нерэальным, і ў 1910 годзе апынуўся ў клініцы для душэўнахворых. Хвароба то адступала, то зноў душыла, прыгнечвала...

Ён дажыў да сваёй любімай пары года — вясны. І пайшоў на апошняе спатканне з ёю. Надыхаўшыся ўволю свежым паветрам, Чурлёніс вярнуўся ў палату і злёг з запаленнем лёгкіх. Ён памёр 10 красавіка 1911 года.

У апошні год сваёй творчасці — 1909, Чурлёніс намаляваў карціну «Ахвяра», у аснову якой пакладзены вядомы біблейскі сюжэт. На фоне бязмежнай прасторы неба на ўзвышэнні, падобным да піраміды, намаляваны ў выглядзе доўгага цёмнага дыму абрысы чалавека, які схіляецца, каб прынесці сваю ахвяру. Побач з ім, засланяючы яго, стаіць з узнятаю ў неба галавою анёл, які мяккім жэстам рук нібы ўлагоджвае трывогу: «Няхай будзе так...». Насустрач цёмнаму дыму-чалавеку ўзнімаецца белы дым, які рассякае чорны і атуляе ім галаву чалавека — змаганне святла і цемры бясконцае...

Мікалоюс Канстанцінас Чурлёніс быў пахаваны ў Вільні на могілках Росы. У развітальным слове на яго пахаванні Фердынанд Рушчыц сказаў: «Мы, якія бачылі станаўленне яго таленту ад яго першых нечаканых праяўленняў да апошніх, з такой нецярплівасцю чаканых намі шэдэўраў, развітваемся з чалавекам крыштальнай чысціні, з сябрам, які быў напоўнены высакароднымі памкненнямі, і мы захаваем у памяці яго трагічна абарваную песню. Ёсць у Чурлёніса добра вядомая вам карціна. З абуджанага святла на ёй узлятае птушка і, абагнуўшы вяршыню шырокім узмахам сваіх крылаў, ляціць удалячынь. Гэта карціна „Вестка“. З такою весткаю прыйшоў Чурлёніс. Ён быў прарокам новага маладога мастацтва, якому даў кірунак, а сваёй зямлі і сваім суайчыннікам ён абвясціў пра абуджэнне ў іх саміх прыгажосці вясны».

* * *

«... я нібы вольная птушка (без крылаў)», — пісаў Чурлёніс.

Прыслухайцеся — птушкі ў небе выгукваюць яго імя: «Чурлі, чурлі, чурлі...».


Выкарыстаная літаратура

1. Альбом «Чюрлёнис». — Москва. Изд. «Искусство», 1971 г.
2. В. Ландсбергис. Творчество Чюрлёниса. — Ленинград. Изд. «Музыка». 1975 г.
3. Ф. Розингер. Гимн солнцу. — Москва. Изд. «Молодая гвардия». 1974 г.

Міхал Клеафас Агінскі.
Партрэт Ёзафа Маціаса Грассі.



Святлена Немагай

# ІМЕМ ВУЧНЯ З ЭМАЎСА НАЗВАНЫ...

## Да 250-годдзя з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага

*«Лука з Клеафасам тым жа самым часам*
*Ішлі ў мястэчка Эмаўс, там спаткаў іх сам Езус.*
*Алелюя!»*

(з велікоднай песні XIV стагоддзя)

Яго лёс быў настолькі ж яркім і неардынарным, як і першае з васьмі імёнаў, дадзенае пры хросце бацькамі. Клеафасам клікалі вучня Хрыста з Эмаўса, які да спаткання са Змёртвыхпаўсталым Панам да канца ў яго не верыў, але адным з першых убачыў пасля Марыі Магдалены. Старажытнагрэцкае імя Клеафас, якое атрымаў будучы аўтар знакамітага паланэза «Развітанне з Радзімай», з'яўляецца скарачэннем гучнага *Κλεοπατρος* (*Kleópatros*), што паўстала праз паяднанне частак *κλεος* (*kleos*) — «хвала, слава» і *πατρος* (*patros*) — «айцоўская, айца». Так што ў пэўным сэнсе сёлетні юбіляр — палітык, дыпламат, мецэнат, грамадскі дзеяч і кампазітар Міхал Клеафас Агінскі (1765-1833) быў цёзкам Клеапатры, славутай царыцы эліністычнага Егіпта.

Выказваючы сваю пакору да Пана, бацькі Анджэй Агінскі і Паўла з Шэмбекаў назвалі свайго адзінага сына згодна з каталіцкім календаром, па якім імяніны Клеафаса прыпадаюць на 25 верасня, дзень наражэння графа-легенды. Сам ён, аднак, сваім першым імем — рэдкім і малаўжываным у магнацкім і шляхецкім асяроддзі — не карыстаўся і не падпісваўся. Тым не менш, менавіта яно вылучае кампазітара сярод шматлікіх у родзе Міхалаў Агінскіх, па сённяшні дзень высвятляючы яго непаўторны сілуэт у гісторыі.

Паводле метрыкі, якая захоўваецца ў архіве парафіі св. Станіслава Пакутніка ў Вісківках, Міхал Клеафас Агінскі быў ахрышчаны ў палацы ў Гузаве, дзе і нарадзіўся. Пры хросце хлопец атрымаў ажно восем імёнаў: Клеафас, Міхал, Францішак, Фелікс, Антоні, Ігнацы, Юзаф і Тадэвуш.

Многія продкі знакамітага кампазітара вылучаліся пабожнасцю і былі шчодрымі мецэнатамі Каталіцкага Касцёла. Яго прадзед, віцебскі ваявода Марцыян Міхал Агінскі (1672–1750), фундаваў бэрнардынскі касцёл св. Антонія ў Мікуліне, аказаў значную фінансавую дапамогу касцёлу кармэлітаў у Вільні, а таксама віцебскаму кляштару дамініканаў і езуіцкаму калегіуму. У 1716 г. за яго сродкі ў Віцебску пачалі ўзводзіць новы мураваны касцёл св. Юзафа, у якім ваявода асабліва ўпрыгожыў капліцу апекуна, а ў 1731 г. урачыста ўнёс яго абраз у святыню[1].

Дзед Міхала Клеафаса, кашталян, пазней ваявода трокскі Тадэвуш Францішак Агінскі (1712—1783), фундаваў храмы і кляштары

---

**Святлена Немагай** — музыказнаўца-беларусіст, кандыдат мастацтвазнаўства. Нарадзілася ў Мінску ў 1974 годзе. У 1998 г. скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі па спецыяльнасці «Музычная беларусістыка» і ў 2007 г. — па спецыялізацыі «Арган». У 1998-1999 гг. стажыравалася ў Акадэміі музыкі імя І. Я. Падэрэўскага ў Познані. Лаўрэат прэміі НАН Беларусі імя В. Ф. Купрэвіча для маладых навукоўцаў (2008). З 2008 г. — наместнік мастацкага кіраўніка Творчага аб'яднання «Беларуская капэла» пры НАВТ оперы и балета Рэспублікі Беларусь. Аўтар манаграфіі «Жыццё і творчасць М. К. Агінскага ў каардынатах яго часу і культурнага асяроддзя» (2007).



Старонка рукапісу вакальнага паланэза М. К. Агінскага «*Wy co macie serca tkliwe*» («Хто спагаду мае ў сэрцы»).

розных канфесій. У Тадуліне ён заклаў царкву і кляштар базыліянаў, у 1757 г. разам з жонкай распачаў будаўніцтва драўлянага парафіяльнага касцёла ў Маладзечне, на іх сродкі быў узведзены і кляштар трынітарыяў[2]. Стараннямі ваяводы пры маладзечанскім касцёле распачалі дзейнасць брацтвы Святой Тройцы і Пана Езуса Назарэтанскага. У 1772 г. Агінскія прывезлі для касцёла францішканаў у Сенна рэліквіі св. Фартуната. У знак падзякі за незвычайную шчодрасць і пабожнасць у гонар мецэната выдавалася мноства одаў і панегірыкаў[3].

Старадаўні магнацкі род Агінскіх меў багатую гістарычную і культурную спадчыну. Па сваёй уплывовасці ён выступаў на палітычнай і грамадскай арэне Вялікага Княства Літоўскага нароўні з Радзівіламі, Сапегамі, Завішамі, Пацамі, Тызенгаўзамі. Спадкаемцам родавых традыцый, якія давалі багатыя магчымасці, але і накладалі на кожнага «атожылка» вялікія абавязкі і адказнасць, было наканавана стаць і Міхалу Клеафасу.

У нарысе «*Ma Biographie...*» («Мая біяграфія...») Агінскі ўзгадвае, што ў шэсць гадоў ён пасрэдна гаварыў па-французску, па-нямецку і па-польску. Яго характар, нягледзячы на празмерную актыўнасць, быў мяккі і неакрэслены. Да гэтага часу ён, па настаўленні бацькоў, цалкам прачытаў Стары і Новы Запаветы, а таксама ведаў на памяць катэхізіс. У 1772 годзе бацька кампазітара, Анджэй Агінскі, разам з сям'ёй прыбыў у сталіцу Аўстрыйскай імперыі як надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэчы Паспалітай пры венскім двары. Тады ж на выгадных умовах у якасці гувернёра юнага графа быў запрошаны Жан Рале, які да гэтага займаў ганаровае, але малапрыбытковае месца выхаваўца эрцгерцага Леапольда.

Паводле звычаю, Міхал быў амаль цалкам аддзелены ад бацькоў і даверany 37-гадоваму настаўніку, які «ведаў усё і гаварыў, быццам кніга»[4]. Практычныя заняткі з вучнем падмацоўваліся своечасовым чытаннем адпаведнай літаратуры; шпацыры каля замкавага муру Вены, а пазней у ваколіцах Гузава адбываліся згодна са строгім рэжымам дня, фізічныя практыкаванні дапаўняліся здаровым харчаваннем. Немалаважным і, мабыць, болей істотным, чым асваенне шматлікіх навук, было выхаванне нашчадка славутага роду Агінскіх. І ў гэтым святле настаўнік Жан Рале быў для свайго вучня выдатным узорам сумленнасці і добрапрыстойнасці: «Яго выгляд выяўляў сціпласць і пяшчоту, якія ніколі не знікалі з яго паводзінаў. Набожны без прытворства, не напаказ, поўны ведаў і эрудыцыі, ён ніколі не выяўляў педантызму, прапаведуючы ўсімі сваімі дзеяннямі чыстую мараль; не ведаючы ніколі пачуцця нянавісці і помсты, ён меў задавальненне бясконца дапамагаць бедным і суцяшаць няшчасных. <...> Я заўсёды бачыў у ім узор дабрачыннасці і ўсіх дасканаласцяў, якімі можа быць надзелены чалавек»[5].

Адукацыйна-выхаваўчая методыка Рале была трывала ўгрунтаваная на ідэях хрысціянства, на яго крыштальнай, шчырай веры і бязмернай пакоры Богу. Менавіта гэта ў будучыні ўзрасло шчодрым плёнам у характары і прагрэсіўных поглядах Агінскага: нягледзячы на сваё высокае паходжанне, яшчэ ў юнацтве ён навучыўся глядзець на кожнага чалавека як на брата. Аднойчы, калі маладому графу было каля 10 гадоў, ён абразіў і нават падняў руку на аднаго са слугаў сваіх бацькоў. Настаўнік загадаў вучню ў прысутнасці іншых цалаваць пакрыўджанаму ногі, прыпамінаючы чын Езуса Хрыста перад Апошняй Вячэрай. Агінскі ўзгадваў, што адчуваў сябе менш прыніжаным пакараннем, чым прыгнечаным тым болем, які зра-



Капліца пры палацы Агінскіх у Залессі. Фота В. Раковіча.

біў, і што менавіта гэты выпадак дапамог яму асэнсаваць пытанне годнасці чалавека, удыхаючы ў юнацкую душу ідэі роўнасці і свабоды.

Усведамляючы ключавую ролю настаўніка ў фарміраванні сваёй асобы, перад выездам у Фларэнцыю ўдзячны вучань усталяваў у залескім парку ў памяць аб ім гранітны камень. На гэтым помніку па сённяшні дзень чытаецца лаканічны лацінскі надпіс: «*Institutori suo Joan. Rolay gratus discipulus M. O. MDCCCXXII*» («Настаўніку Жану Рале — удзячны вучань М. А. 1822»).

Жыццёвы шлях Міхала Клеафаса Агінскага часам нагадвае прыгодніцкі ці аванцюрны раман, часам — камедыю, але найбольш драму і нават трагедыю. «Я з'явіўся на свет у эпоху, якая прадказвала маёй Радзіме змрочную будучыню», — пісаў ён у сваіх біяграфічных нататках[6]. Яго палітычны ўзлёт быў яркі і імклівы: у дзевятнаццаць гадоў Агінскі ўдзельнічаў у пасяджэннях шляхецкага сойму, у дваццаць адзін год выконваў функцыі скарбавага камісара Вялікага Княства Літоўскага, а ў дваццаць пяць у якасці надзвычайнага пасла быў упаўнаважаны вырашаць найскладанейшыя палітыка-эканамічныя пытанні сваёй дзяржавы ў Галандыі і Англіі. Яго прымалі пры манаршых дварах Еўропы, ён меў непасрэдныя кантакты з Аляксандрам I, Напалеонам, прэм'ер-міністрам Вялікабрытаніі Уільямам Піттам. Аднак, нягледзячы на ўсю адукаванасць і таленавітасць, Агінскі не мог уратаваць сваёй краіны ад гвалтоўных падзелаў і знішчэння, бо працэс яе заняпаду пачаўся задоўга да яго нараджэння, і толькі на час яго жыцця выпала прагучаць яе апошняму сумнаму акорду.

De jure дзяржаўная і палітычная дзейнасць, адпаведная графскаму паходжанню Міхала Клеафаса, а таксама саслоўным нормам і рэаліям часу, сталася асноўным кірункам яго самарэалізацыі. Але трэба прызнаць, што de facto ўжо тагачаснае грамадства нярэдка ўспрымала яго толькі праз музыку — як аўтара меланхалічных паланэзаў і рамансаў, якія перадавалі непаўторную аўру сваёй эпохі і ў пэўным сэнсе сталіся сімваламі перадрамантычнай пары. Менавіта музычная постаць Міхала Агінскага, а таксама яго кампактная, але яркая і непаўторная творчасць сёння з'яўляюцца тым пунктам адліку, тым моцным магнітам, які ў першую чаргу прыцягвае погляды грамадства, навукоўцаў, краязнаўцаў, а таксама кампазітараў, музыкантаў і аматараў музыкі. І феномен знакамітасці Міхала Агінскага як асобы — гэта, перш за ўсё, феномен неверагоднай папулярнасці яго музыкі.

Не раз гульні гісторыі, якіх багата прыпала на жыццёвы шлях Агінскага, змушалі яго прымаць нялёгкія і неадназначныя рашэнні, вымагалі ўціхамірыць свой гонар, свае найлепшыя і найчысцейшыя патрыятычныя пачуцці. Ён некалькі разоў быў вымушаны прысягаць на вернасць імператарскаму Дому Расійскай імперыі, па загадзе фаварыта Кацярыны II Платона Зубава прыняць пасаду літоўскага падскарбія, урэшце, паставіць свой подпіс пад зневажальнымі дакументамі апошняга падзелу Рэчы Паспалітай. Але, як кожны сумленны чалавек, Міхал Клеафас Агінскі імкнуўся не на словах, а ўласнымі ўчынкамі даказаць сваю любоў да Радзімы. Не вагаючыся, ён прыняў удзел у касцюшкаўскім паўстанні, ахвяруючы значную суму грошай на ўзбраенне атраду стралкоў; у Венецыі адмовіўся падпісваць «пакаянны ліст» інсургента, тым самым свядома і назаўжды выракаючыся сваёй багатай маёмасці; урэшце, маючы надзею на адраджэнне краіны, больш за сем гадоў цярпеў ліхія прыгоды і няпэўнасць будучыні выгнанніка.

Нягледзячы на цяжкія ўдары лёсу, Агінскі ніколі не адступаўся ад хрысціянскіх ідэалаў міласэрнасці, спачування, дабрачыннасці ў імя бліжняга. І замест працягу эміграцкай дзейнасці, бесперспектыўнасць якой ён ужо выразна асэнсаваў каля 1798 г., замест даверу Напалеону, натуру якога



Касцёл св. Яна ў Вільні, дзе завяшчаў пахаваць сябе М. К. Агінскі.

асабіста спазнаў і ў ёй расчараваўся, граф аддае перавагу канкрэтным грамадскім пачынанням на землях былога Вялікага Княства Літоўскага — сваёй гістарычнай радзімы.

Жывучы з 1802-га па 1822 год то ў маляўнічым Залессі, то ў сталіцы краю Вільні, Агінскі прысвячае зямлі сваіх продкаў усю моц душэўных і жыццёвых памкненняў. Шматлікія мецэнацкія праекты Міхала Клеафаса Агінскага, здзяйсненне сацыяльных і культурных задач не пакідаюць сумневу ў тым, што ён кіраваўся найлепшымі патрыятычнымі пачуццямі, робячы важныя крокі для паляпшэння жыцця канкрэтных людзей.

Маштаб яго дзейнасці на землях даўняй Літвы, да канца яшчэ не даследаванай і не ацэненай, сапраўды ўражвае. Ужо ў 1803 г. граф абіраецца пачэсным чальцом Віленскага ўніверсітэта, актыўна ўдзельнічае ў пасяджэннях навуковай рады ўстановы, клапоціцца пра яе матэрыяльнае забеспячэнне. У 1810 г. разам з Юзафам Суліструўскім і Тамашам Ваўжэцкім Міхал Клеафас Агінскі распрацоўвае праект нацыянальнага тэатра. 20 красавіка 1818 г. з ініцыятывы Агінскага было ўтворана Віленскае друкарскае таварыства, што ставіла мэтаю прывіваць густ да чытання праз памнажэнне і распаўсюджанне карысных кніг. Адным з першых ён займаецца пытаннем разняволення мясцовых сялянаў, дамагаецца змяншэння падаткаў; займаецца пераводам шляхецкага вучылішча з Бабруйска ў Маладзечна, закладаючы тым самым асновы адукацыйнай сістэмы краю. Урэшце, ён рыхтуе «Мемарыял» — патрыятычны дакумент, скіраваны на атрыманне аўтаноміі былых земляў Вялікага Княства...

Памятаючы запаветы Жана Рале і паслядоўна наследуючы свайго настаўніка, Агінскі выяўляў сваю хрысціянскую веру ў міласціне і харытатыўнай дзейнасці. Вельмі шмат часу, сіл і ўласных сродкаў кампазітар ахвярue Віленскаму таварыству дабрачыннасці, разгалінаваная дзейнасць якога ўключала ў сябе дапамогу бедным і хворым, забеспячэнне працай, наведванне вязняў у турмах і нямоглых у шпіталях, паяднанне раз'яднаных сем'яў, барацьбу з п'янствам. Арганізацыя давала магчымаць атрымаць пачатковую адукацыю дзецям з бедных сем'яў, навучыцца гаспадарцы ці рамяству падлеткам. Пад яе апеку траплялі самыя нізкія слаі насельніцтва: хворыя, старыя, сіроты, калекі, шматдзетныя сем'і. У склад таварыства ўваходзілі лепшыя прадстаўнікі віленскай грамадскасці, сярод якіх сустракаем імёны кн. Адама Чартарыйскага, Тамаша Ваўжэцкага, Яна Снядэцкага, Ёзафа Франка.

М. К. Агінскі, дзейсная натура якога заўжды патрабавала рэалізацыі, стаў адным з заснавальнікаў і старшынёй першага аддзела таварыства, што займаўся забеспячэннем асноўных патрэбаў жыцця. У 1817 г. на карысць бедных, якія жылі на ўтрыманні ў доме дабрачыннасці, кампазітар ахвярue ўвесь даход з продажу зборнікаў сваіх паланэзаў і рамансаў, надрукаваных за ўласны кошт з дапамогай «досыць вопытнага нямецкага майстра»[7].

З 1820 г. таварыства пачало выдаваць «Гісторыю дабрачыннасці» („*Dzieje dobroczynności*») — грунтоўныя справаздачы, што адлюстроўвалі дзейнасць віленскай і падобных ёй філантрапічных арганізацый у розных гарадах Беларусі: Мінску, Гародні, Бярэсці, Наваградку, Слуцку. Пэўнае месца ў гэтых выданнях адводзілася культурнаму жыццю: друкаваліся паведамленні пра аматарскія канцэрты, каталогі нотаў, якія можна было заказаць праз універсітэцкую кнігарню. Адзін з артыкулаў пралівае святло і на гісторыю стварэння прыўзнята-шляхецкага вакальнага паланэза Агінскага «*Wy co macie serca tkliwe*» («Хто спагаду

мае ў сэрцы»), які з'яўляўся свайго роду музычным маніфестам таварыства. Вядома, што гучаў ён у выкананні выдатнай спявачкі Крыстыны Франк, для якой у свой час сам Ёзаф Гайдн пісаў партыю Евы ў араторыі «Стварэнне свету»[8].

Дабрачынная дзейнасць была настолькі важнай для Агінскага, што ён завяшчаў таварыству значную фінансавую падтрымку нават у сваім уласным тастамэнце: «У дзень майго пахавання бедным, якія будуць прысутнічаць падчас гэтага абраду, прадпісваю раздаць тысячу польскіх злотых. Дому ўбогіх Таварыства дабрачыннасці прызначаю капітал у дзесяць тысяч польскіх злотых»[9].

Асновы і прынцыпы хрысціянскай веры М. К. Агінскі імкнуўся прывіваць сваім дзецям. Іх ён меў шасцёра: Тадэвуша Антонія, Францішка Ксавэрыя, Амелію, Эму, Ірэнія і Іду (ад двух шлюбаў — з суседкай па Гузаву Ізабэлай Лясоцкай і палымянай італьянкай Марыяй Неры). Як добры і справядлівы бацька граф аднолькава любіў усіх сваіх дзяцей і ў сваім тастамэнце казаў падзяліць усю сваю маёмасць паміж імі на роўныя часткі. Пакінуў Міхал Клеафас Агінскі і пісьмовыя сведчанні свайго бацькоўскага выхавання: неаднойчы ў адрас дзяцей ён складаў павучальныя лісты, у якіх па пунктах фармуляваў свае пажаданні і патрабаванні, і на першым месцы ў такіх настаўленнях заўжды стаяла вера ў Бога, усведамленне таго, што усё сыходзіць ад Усявышняга і ўсё Ім кіруецца. Але вера, на думку Агінскага, з'яўляецца не толькі дарам, але і накладае адказнасць, пра што клапатлівы бацька нагадвае ў напісаным у 1822 годзе «Запавеце сыну Ірэнію, які ад'язджае на вучобу ў Італію»:

«Перадусім засвой адну ісціну: чалавек — гэта не воля выпадку, ён не нараджаецца без мэты. Усім ён абавязаны свайму Творцу — Богу, рэлігія — гэта яго абавязак, без якога чалавек нішто, усяго толькі лічба. Перш за ўсё будзь хрысціянінам — рэлігію людзям даў сам Пан. Спачатку будзь проста вернікам, каб урэшце стаць вернікам па перакананні»[10].

Паводле Агінскага, усе свае крокі — ад раніцы і да вечара — чалавек павінен узгадняць з Богам і асвячаць іх з дапамогай малітвы, у якой неабходна ўзгадваць бацькоў, асабліва маці, выказваючы ёй пашану і ўдзячнасць:

«Дзень трэба заканчваць таксама, як і пачынаў, — малітвай, успамінаючы тваю добрую матулю, яе клопаты аб табе. Калі ты гэта зрабіў, то Усявышні і тваё сумленне пашлюць табе спакойны сон. Але калі, на бяду, ты гэтага не зрабіў, трэба папрасіць прабачэння ва Усявышняга, шчыра пакаяцца з рашэннем выправіцца і супакоіць сваё сумленне. Без гэтага не можа быць сапраўднай радасці ў жыцці»[11].

Сям'я Агінскага мела магчымасць маліцца, прасіць даравання і ўзносіць просьбы да Бога ў маленькай капліцы, якая была ўзведзена Агінскім у Залессі адначасна з пабудовай палаца. Стараннi Міхала Клеафаса выхоўваць дзяцей у веры мелі шчодры плён: узорнай маці, якая ўзрасціла ажно дзевяцярых дзяцей, была першая дачка Міхала Клеафаса Амелія, у шлюбе Залуская; адданым, самаахвярным католікам выявіў сябе і сын кампазітара, Ірэні Агінскі. Па яго ініцыятыве ў 1892 годзе ў Рэтаве пачалі дзейнічаць першыя ў Жамойці электрастанцыя і тэлефонная лінія, але галоўным помнікам Ірэнію з'яўляецца выбудаваны на яго сродкі велічны, быццам белы нябесны карабель, рэтаўскі касцёл, які ацалеў у віхурах гісторыі...

Згодна з тэндэнцыямі эпохі, а таксама аматарскім характарам музычнай дзейнасці, М. К. Агінскі ствараў пераважна камерную інструментальную і вакальную музыку. Яму належаць 43 фартэпіянныя п'есы (26 паланэзаў, 5 маршаў, 4 вальсы, 4 мазуркі, 2 кадрылі, галоп і менуэт), а таксама 28 вакальных твораў (рамансы, песні, канцанеты, шансон, віланэла, ламентабіле). Да гэтага спісу можна са знакам запытання далучыць знакамітую «Мазурку Дамброўскага», дыскусія аб аўтарстве якой дагэтуль працягваецца. Найбольш буйным опусам кампазітара з'яўляецца яго опера «Зеліс і Валькур, альбо Банапарт у Каіры», у якой ён меў адвагу вывесці на сцэну ў якасці персанажаў жывых, актуальных для эпохі асобаў: французскага генерала Напалеона і яго ад'ютанта Юзафа Сулкоўскага.

Нягледзячы на свецкі характар творчасці, музыку касцёла Агінскі ведаў і любіў, і гэта заўважна ў яго музычна-эстэтычнай працы «Лісты пра музыку». У ёй Міхал Клеафас неаднойчы ўзгадвае музычныя старонкі Старога Запавету: арфу Давіда, свяшчэнныя трубы, пры гуках якіх на вачах Гедэона абваліліся муры Іерыхона. Да адкрыцця шэдэўраў сакральнай музыкі Міхал Клеафас нярэдка спрычыняўся і сам, арганізоўваючы цудоўныя вечары ў сваім уласным салоне: «Ніколі не забуду «Miserere» Ямэльлі — твор, які ў Вялікую пятніцу выканалі ў маім доме Сенэзіна і Маньелі ў суправаджэнні квартэта, у склад якога ўваходзіў і я разам з Кампаньёлі, Граньяні і Ларэнцы. Ніколі спеў Сенэзіна так не хваляваў!»[12].

Час, у які давялося жыць Агінскаму, быў пазначаны пячаткай секулярызацыі. У паслярэвалюцыйнай Францыі дайшло да закрыцця касцёлаў і культу прыдуманых

чалавекам багоў. Агінскі як грамадзянін Еўропы не мог не бачыць і не асэнсоўваць тагачаснага крызісу Касцёла, і хоць на яго шляху таксама было нямала цяжкасцяў, падзенняў і выпрабаванняў, многія старонкі біяграфіі кампазітара сведчаць пра тое, што ўсё жыццё ён імкнуўся кіравацца праўдамі хрысціянскай веры, якую Міхал Клеафас Агінскі ніколі не стараўся выстаўляць напаказ — яна складала арганічную частку яго духоўнага свету і штодзённага жыцця.

Пра трыванне веры і пакоры ў сэрцы Міхала Клеафаса выразна сведчыць пачатак яго тастамэнту, укладзенага задоўга да смерці, у жніўні 1818 года:

«У Імя Бога ў Святой Тройцы Адзінага. Амэн.

Верачы ў неабмежаваную міласэрнасць Усемагутнага да маёй душы, саступаючы з пакорай і суцэльнай ціхмянасцю Яго волі адносна канца майго жыцця, не прагнучы і не баючыся смерці, раблю гэта ў добрым здароўі і цвярозым розуме, што добры бацька, муж, што кожны, які можа адчуваць, павінен зрабіць, пакідаючы пісьмовы ўласнаручны і непарушны тастамэнт...»[13]

Паводле тастамэнту, М. К. Агінскі завяшчаў пахаваць сябе ў капліцы Божага Цела ў касцёле св. Яна ў Вільні. Яе выбудаваў дзед кампазітара Тадэвуш Агінскі і ў 1780 г. прывёз для яе з Рыма рэліквіі св. Тэафіла. Па ўсёй верагоднасці, капліцу Божага Цела Міхал Клеафас Агінскі атаясамліваў з родавым магільным склепам Агінскіх, бо менавіта ў ёй жадаў спачыць сам і ў ёй хаваў памерлых у маленстве дзяцей: «Жадаю, каб маё пахаванне было сціплым. Цела маё (калі будзе на гэта дазвол уладаў) хацеў бы, каб паклалі ў



Надмагілле М. К. Агінскага ў пантэоне Санта Крочэ ў Фларэнцыі.
Фота Ул. Кандрусевіча.

капліцы Божага Цела каля майго дзеда і дзвюх маіх дачок. Патрабую гэтага не для чаго іншага, як для таго, каб жонка, мае дзеці і сябры мелі часам прыемнасць наведаць мой прах, памаліцца за маю душу, даць міласціну бедным і ўспомніць пра мяне»[14].

Аднак, і на тое, напэўна, была воля з неба, Агінскі і пасля смерці меў лёс выгнанніка — лёс некалькіх пакаленняў патрыётаў, якім было наканавана развітанне не толькі з роднай зямлёй, але і з самой знішчанаю Радзімаю, якая здавалася самым трывалым, што мае чалавек, тым, што даецца кожнаму ад калыскі, ад нараджэння. Міхал Клеафас спачыў у цудоўнай базыліцы Санта Крочэ, галоўным храме ордэну францішканаў у Фларэнцыі. Побач з ім знаходзяцца помнікі і грабніцы Дантэ Аліг'еры, Галілео Галілея, Мікеланджэла Буанароцці, Джаакіна Расіні...

У пантэоне знакамітых людзей Міхал Клеафас Агінскі займае пачэснае месца. Яго музыка мае цудоўную ўласцівасць прамаўляць да нас і дагэтуль, не страчваючы сваёй прывабнасці і сучаснасці, не губляючы ўнікальнай здольнасці кранаць сэрцы. Яго славутыя паланэзы яшчэ пры жыцці выдаваліся ва ўсім свеце: ад Парыжа да Пецярбурга, ад Мілана да Філадэльфіі. Нягледзячы на гучную славу, у заключных радках тастамэнту кампазітара гучаць толькі пакора, вернасць, адданасць Богу, малітва аб міласэрнасці і дараванні: «Заканчваю, з чаго пачынаў, — зваротам майго розуму да Бога. Народжаны католікам, выхаваны ў рымска-каталіцкіх традыцыях, паводле іх і памерці жадаю. Грахі мае, як убогаму і слабому чалавеку, Бог, як магутны, так і літасцівы, напэўна, прабачыць. Вы ж, каго я мог абразіць супраць сваёй волі, не захоўвайце ў сэрцах вашых крыўды»[15].

Link-Lenczowski, A. Ogiński Marcjan Michał / A. Link-Lenczowski // Polski słownik biograficzny / red. nacz. E. Rostworowski. — Wrocław [etc.], 1978. — T. XXIII/3, z. 98. — S. 620–624.

[2] Bartoszewicz, K. Tadeusz Ogiński wojewoda trocki i jego pamiętnik / K. Bartoszewicz. — Warszawa: Skład główny w księgarni Gebethnera i Wolffa, 1913. — S. 8–9.

[3] Тамсама, s. 14.

[4] Агінскі, М.К. Мая біяграфія зь дзяцінства па 1788 г., эпоху, калі пачынаюцца мае мэмуары / М.К. Агінскі // Спадчына. — 1998. — № 5. — С. 87.

[5] Тамсама, с. 96–97, 98.

[6] Тамсама, с. 83.

[7] Ogiński, M.K. Listy o muzyce / M.K. Ogiński. — Kraków: Pol. Wydaw. muz., 1956. — s. 46.

[8] Dzieje dobroczynnosci krajowej i zagraniczney z wiadomościami ku wydoskonaleniu jey służącemi / red. Chlebowski, A. Marcinowski, Rogolski. — Wilno: [s.n.], 1820–1824. — Rok pierwszy. — 1820. — S. 136.

[9] Копия завещания Михала Клеофаса Огинского // Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (LVIA). — Фонд 1177. — Оп. 1. — № 33.

[10] Верамейчык, С. І. Міхал Клеафас Агінскі, 1765–1833: продкі, жыццё ў Залессі, нашчадкі: спроба храналогіі / С. І. Верамейчык – Мінск: Кавалер Паблішэрс, 2003. — С. 124.

[11] Тамсама, с. 125.

[12] Ogiński, M.K. op. cit., S. 87.

[13] Копия завещания Михала Клеофаса Огинского, op. cit.

[14] Тамсама.

[15] Тамсама.



**Мар’ян ДУКСА** — паэт.
Нарадзіўся ў 1943 г.
у вёсцы Каракулічы на Мядзельшчыне.
Закончыў філалагічны факультэт БДУ.
Выдаў зборнікі вершаў
«Спатканне» (1967), «Крокі» (1972),
«Станцыя» (1974),
«Прыгаршчы суніц» (1976),
«Забытыя словы» (1979),
«Зона супраціўлення» (1982),
«Твая пара сяўбы» (1985),
«Заснежаныя ягады» (1989),
«Горн прымірэння» (1993),
«Валуны на пагорках» (1994),
«Прыйсці да алтара» (2003).
Лаўрэат Літаратурнай прэміі
імя А. Куляшова.
Жыве ў Солах, на Смаргоншчыне.

# Мар’ян Дукса

## Музыка Агінскага

* * *

У сонечнай купаюцца лагодзе
палеткі навакольныя і лес.
З былога паўзабытага стагоддзя
цячэ крыніцай чыстай паланэз.
Душа жадае музыкі ягонай,
душа квітнее ад яго, як бэз.
Усё сціхае над зямлёй зялёнай,
калі гучыць тужлівы паланэз.
Чароўная мелодыя ліецца
і запаўняе наваколле спрэс.
І жаўрукі тутэйшыя, здаецца,
выконваюць нябесны паланэз.
Ах, колькі тут і роздуму, і жалю!
А можа, кампазітар уваскрэс
і сёння ў небе, нібы ў ціхай зале,
натхнёна грае ўласны паланэз.

* * *

Маўчанне зорак, ззянне сінявы,
шчаслівых птушак перазоў світальны,
дыханне ветру, пошумы травы —
усё ўвабраў наш творца геніяльны.
Усё, што красавала і расло,
усе былыя песні-адгалоскі...
І падарылі музыцы цяпло
святлістыя залескія бярозкі.
І аддала чуллівая зямля
ёй моц і гарт, каб вечна не сціхала.
І музыку пяшчотная Вялля
над залатым пяском ускалыхала.
Гады, як гусі, мчаць за небакрай —
няхай мацнее памяці падмурак...
Спявай і грай, увесь смаргонскі край —
калыска слынных вальсаў і мазурак.

* * *

Смычкі і струны, спавясціце хутка
пра радасць, што пануе, як ніколі.
О музыка, ты сонечнага смутку,
о музыка такой жаданай волі!
Ты будзь бравурнай ці жывой гарэзай,
з глыбінь душы на белы свет пазванай.
Усе былыя маршы й паланэзы —
вы галасы Айчыны зацуглянай.
Табой жывыя мроі-запаветы,
ты дыхаеш жаданым вызваленнем.
О музыка, з глыбіняў іншасвету
ты ўсім даеш святло і наталенне.
І ты людскія размываеш болі,
ты ў сонца нашу акунаеш скруху.
О музыка — ты сімвал нашай волі,
ты наш узлёт разбуджанага духу.

* * *

Вясенняя сімфонія дубровы,
саната апусцеласці палёў.
Ёсць найвялікшая на свеце мова,
што можа жыць і без будзённых слоў.
Гарачы голас утрапення й мукі,
і шчасця крык, і боль душэўных ран —
о сугалоссе, о кіпенне гукаў,
дзівосных гукаў сонечны фантан!
З самога сэрца, як з бяздоных нетраў,
ты рвешся ўверх, не знаючы мяжы.
І запаўняеш радасцю паветра,
о, незямная музыка душы!
У неба мчыш з-пад воблакаў астылых,
перад табой бездапаможны час.
Нясеш, нясеш на бессмяротных крылах
і далучаеш ты да Бога нас.

* * *

На міг замры халоднае шматслоўе,
варожасць чалавечая замры.
О музыка, ты дыхаеш любоўю,
лёд растапіць ты здольная знутры.
Тваё неспадзяванае з'яўленне
салодкім хмелем сэрца апляце.
Ты пасылаеш цёплае праменне,
якое ўсмешкай у вачах цвіце.
Умееш ты суцешыць занядбаных,
усіх шчаслівых адарыць хвалой.
А колькі раз ты юных закаханых
высока прыўзнімала над зямлёй!
І гэта паўтараю зноў і зноў я,
і нейкіх іншых не знаходжу слоў:
«О музыка, ты дыхаеш любоўю,
ты ўся як ёсць — найбольшая любоў».

* * *

Мінулае ў крыві людской не стыне,
яно не пераходзіць у дзірван.
І родны край наш — не пясок пустыні,
дзе выпадковы крочыў караван.

Багаты ён садамі і лясамі,
прыродай непаўторнаю сваёй.
І поўніцца былымі галасамі,
наблізь душу — і ажывуць у ёй.

Схапі, адчуй вось гэта шматгалоссе
сваім чуллівым сэрцам не малым —
спяванне птушак, ціхі звон калосся,
якое нарадзілася ў былым.

Калі ты ўсё ж былым зачараваны,
як продкаў скарб, яго ў душу прымі...
наш родны край наўсцяж спаласаваны
і шчодрымі, і добрымі людзьмі.

Ах, колькі іх, забытых, паўзабытых,
сышло паціху ўжо за небакрай.
Ах, колькі іх, людзей таленавітых,
за доўгі час пабачыў родны край!

Усіх сваіх ад Бога самародкаў
ці здольныя мы ўсё ж пералічыць?
У гонар іх усіх вялікіх продкаў
хай музыка Агінскага гучыць.



# Арсень Ліс

## *Вершы адной маладосці*

**Арсень Ліс** — доктар філалагічных навук, даследчык фальклору, член Саюза пісьменнікаў беларускіх.
Нарадзіўся 4 лютага 1934 г. у вёсцы Вётхава Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт БДУ (1956). Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Шаркаўшчынскай сярэдняй школе. У 1957–1959 гг. працаваў рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР. Закончыў аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Аўтар кніг «Браніслаў Тарашкевіч» (1966), «Мікола Шчакаціхін» (1968), «Пётра Сергіевіч» (1970), «Купальскія песні» (1974), «Пякучай маланкі след» (1981), «Вечны вандроўнік» (1984), «Песню — у спадчыну» (1989), «Валачобныя песні» (1989). Адзін з аўтараў вучэбнага дапаможніка для студэнтаў ВНУ «Беларуская народна-паэтычная творчасць» (1979). Укладальнік зборнікаў «Беларускія народныя песні» (1970), «Жніўныя песні» (1974), «Восеньскія і талочныя песні» (1981), «Купальскія і пятроўскія песні» (1985), «Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы» (з Янкам Саламевічам, 1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986) за ўдзел у падрыхтоўцы і выданні акадэмічнага збору «Беларуская народная творчасць». Занесены ў Кнігу гонару «Руплііўцы твае, Беларусь».

* * *

Так зажадалася вясны:
Пралесак, сонечных праменняў.
Ўдыхаць жывічны дух лясны,
Вады рачной зачэрпнуць жменяй,
Трывожным нечым летуцець,
Далёкім шляхам утаміцца,
Над стромаю рачной запець,
У абдымках нечых утапіцца.
А потым зноў — да працы той,
Якой і дні і парыванні.
І для Яе, Яе адной,
Жыць да апошняга дыхання.

*1957 г.*

* * *

Я коньмі кіраваў. У іхніх чорных грывах
Грымела, пела медзь, і танцаваў віхор
Ў тваіх вачах зарніцай палахлівай
Успыхаваў і згасаў без слоў дакор.
Насустрач беглі родныя імшары,
Ахутаныя сіняю смугой,
І захад скрозь марозлівым пажарам
Заняўся па-над белаю зямлёй.
Ты прыхінулася і змоўкла. Коні-птахі
Капытам ледзь краналі звонкі дол,
Над шляхам распласталіся з размаху,
Усё кружылася і тонула наўкол.
..............................................................
Даўно замоўкла бомаў тых трымценне,
З шляхоў далёкіх коней не вярнуць,
Нядзейсненыя мары, летуценні,
Як хмары разарваныя, плывуць.

### Над возерам у Докшыцах

Праз стаў бяжыць дарожка серабрыстая,
А пад нагамі — хісткія чаўны,
Прыйшла з-за лесу цішыня ўрачыстая,
За ёй крадуцца ліпеньскія сны.

Зарчаты купал, пошаст птушкі соннае
Усё адной мелодыяй гучыць...
Аж крыкнуць хочацца ў цішыню бяздонную
— Як добра жыць, якое шчасце жыць!
Дзіўная ноч вярнула зноў юначае,
Дзе летуценні і жыццё — адно,
І бачанае стала зноў нябачаным —
Шырока ў свет расчынена акно.

* * *

Што гэта? Сумам ізноў апавіты
Мары і дні.
Ці ў туманах ён асенніх разліты,
Ці ў крыві?
Сэрца, хоць ты страпяніся,
Жывое,
Сум прагані.
Страчанае і навек дарагое —
Песню вярні.
Я ж прад радзімай,
Зямлёй маёй роднай —
Вечна ў даўгу:
Выснаваць песню,
Імя яе годнай,
Ўсё не магу.

*1954, Вётхава.*

* * *

Над грамадамі вуліц, дамоў,
На суках расахатых у скверы,
Над званіцаю, што без званоў,
Легла тонкай наміткаю шэрань.
Тчэцца думак будзённы уток...
Дзе ты, сонцам заліты, бераг?
Эх, каб выпаў хоць белы сняжок
І прыкрыў гэту прыкрую шэрасць.

*1962 г.*

### Імпрэсія

У сініх далях дрэмле восень.
Ці праўда, ці мне так здалося —
К табе дарогі ўсе чыста
Кляновым пурпуровым лісцем
Свавольнік-вецер пазаносіў.
Іду, бяскрылае трапеча,
Садзіцца голубам на плечы,
Кранае сэрца нараканнем...
Ды ведаю, вясновым раннем
Зноў зашуміць зялёным вечам.
Сцяжына падае ў лагчыну,
Дзе вецер тушыць жар калінаў,
Пагорак пасам абвівае
І дзесь пад сінім зводам тае,
Як шнур адлётны жураўліны.
Ад хаты з-за кляноў маўклівых
Твой голас звонкі і смяшлівы
У неба жаўранкам сігае,
Даліну рэхам аклікае
І нікне над спусцелай нівай.
І ты ў гэты дзень асенні
Уся парыў і летуценне,
Мелодыя бяскрайняй шыры.
Здарожаны, жадаю шчыра
Табе навек душы гарэння.

### У вечаровым Горадні

Аж заходзяцца, стракочуць конікі,
Нібы не муры тут, а палі.
Вуліцы вячэрнія зялёныя
Ціха, плаўна к Нёмну паплылі.
Тут з-за павароту ён, разгоністы,
Прыпадае к Замкавай гары,
Каб сцішэлай хваляй ціха звонячы,
З ёй аб нечым вечным гаварыць.
Мо пра дзеі-справы, леты Вітаўта,
Што ўзвёў тут грозныя муры,
Каб хіжак-крыжак нам лёс не вытаптаў —
Край, дзе нам наканавана жыць.
А мо ўбачаным з ёй ціха дзеліцца:
Як шчыруе люд наш на палях,
Што ў душы яго таемна дзеецца,
Ці не траціць ён адвечны шлях?

Міхась Скобла

# БАРАНІЦЬ ВУЛЛІ СВАЕ...




Зоська Верас. Пакуль рука пяро трымае: успаміны, лісты. Серыя «Беларуская мемуарная бібліятэка». — Мінск, Лімарыус. — 2015 г. — 656 стар.

Панарскі лес пад Вільняй заслугоўвае мецьгісторыка-мемарыяльны статус: ён апеты ў знакамітай паэме Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш». У тым лесе ладзіліся княскія паляванні і баляванні, асабліва любіў выязджаць туды легендарны заснавальнік Вільні, што і засведчана ў радках вялікага паэта: *«Калісьці Гедымін, палюючы ў Панарах, //адпачываў на шкуры пры агні на нарах// і гладзіў поўсць мядзведжую, //закалыханы шумам вячыстых дрэў»* (*пер. Я. Семяжона*).

У тым лесе бываў і сам Міцкевіч — яшчэ студэнтам Віленскага ўніверсітэта, на філамацкіх патаемных сходках. Таму панарскія ўзгорыстыя краявіды настальгічна ўспаміналіся яму і ў далёкім Парыжы, дзе «Пан Тадэвуш» і прыходзіў на свет, дзе так жадана летуцелася пра «краіну дум сваіх», — навагрудска-віленскую Літву.

А яшчэ ў Панарскім лесе, у адзінокай глінабітнай хатцы, больш за паўстагоддзя пражыла Зоська Верас (1892–1991) — збіральніца словаў і зёлак, ахвярная працаўніца на маларасцяробленых лядах беларускай культуры ды гісторыі. Не маючы ў паслужным спісе ўніверсітэцкіх дыпломаў, закончыўшы ўсяго толькі гімназію і агародніцка-пчалярскія курсы, яна, тым не менш, ні ў якой справе не выглядала дылетантам — пісала вершы і апавяданні, перакладала п'есы для школьных тэатраў, склала запатрабаваны і сёння «Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік», рэдагавала часопісы «Заранка», «Пралескі» і «Беларуская борць» (апошні — спецыялізаваны, для пчаляроў).

Яе, рухавую і энергічную, чакалі ў Лукішкаўскай турме з прадуктовымі перадачамі, на віленскім паштамце — з пакункамі беларускіх перыёдыкаў, з неадменнай гатовасцю да працы ў рэдакцыях грамадаўскіх газетаў, дзе яна была і адміністратарам, і бухгалтарам, і кальпартэрам.

І так — у гушчыні падзей — Зоська Верас пражыла ладную частку жыцця. Таму для пакаленняў пазнейшых яна была найперш жывой сведкай нашай гісторыі, і як жа добра, што Бог падараваў ёй так багата гадоў. Усё, што ведала, усё, што памятала, яна паспела сказаць для будучыні, асабліва ёй рупілі ці не самыя сфальшаваныя ў савецкай гістарыяграфіі гады — 1917–1920-я .

Пад спакойны пошум Панарскага лесу пісаліся ўспаміны: пра Гарадзенскі гурток беларускай моладзі, пра Першы Усебеларускі з'езд у Мінску, пра Максіма Багдановіча, Гальяша Леўчыка, Аркадзя Смоліча, братоў Луцкевічаў і братоў Родзевічаў...

Успаміны пісаліся, але мінскія рэдакцыі ставіліся да іх насцярожана — у друк праходзіла толькі самае «бяскрыўднае». Часцей Зоську Верас друкавалі беластоцкія выданні — беларускія календары і тыднёвік «Ніва», але і там тэксты былой нашанійкі (пра гэта ведалі ўсе) і сяброўкі Рады БНР (пра гэта ведалі хіба ў адпаведным ведамстве) часам ляжалі гадамі.

І тады Зоська Верас пра ўсё, што помнілася, пачала расказваць у прыватным парадку — у лістах. Ахвотнікаў ведаць праўдзівую гісторыю знайшлося нямала: у Мінску і Гародні, у Зэльве і Пружанах, у Германавічах на Віцебшчыне і Гудзевічах на Гарадзеншчыне, на Беласточчыне за заходняй мяжой і на Стаўрапольшчыне за мяжой усходняй,

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.

у Варшаве і Маскве.

Сама аўтарка пазней спрабавала падлічыць колькасць тых лістоў-успамінаў — выходзіла больш за 6 000. З іх пакуль што апублікавана каля 800 (улічваючы і эпісталярны раздзел гэтай кнігі), і з іх, нібы з мазаічных шкельцаў, паступова складаецца вялікая панарама беларускага жыцця XX стагоддзя.

Сярод адрасатаў Зоські Верас былі людзі знаныя, а таму калісьці дойдзе чарга і да зваротнай карэспандэнцыі, акуратна спарадкаванай і зберажонай у той прыцягальнай для многіх Лясной хатцы. О, яе гаспадыня ведала, з кім ліставалася, разумела каштоўнасць таго эпісталярыя! Як на добры лад, яго і публікаваць варта было б асобнымі выданнямі: у адным томе — перапіска з паэткай Ларысай Геніюш, у другім — з гісторыкам Юрыем Туронкам, у трэцім — з этнографам Арсенем Лісам, у чацвёртым — з літаратуразнаўцам Аляксеем Пяткевічам.



Лясная хатка.
Фота Лявона Луцкевіча.

Гэтыя працяглыя эпісталярныя дыялогі (толькі ў архіве Л. Геніюш захоўваецца 309 лістоў Зоські Верас) не заўсёды з'яўляюцца пытаннямі з разгорнутымі адказамі. У іх абмен інфармацыяй ідзе з абодвух бакоў, старэйшая векам рэспандэнтка проста штосьці ўдакладняе, падказвае, далікатна падштурхоўвае ў правільным кірунку.

Напрыклад, з падказкі Зоські Верас прафесар ГрДУ А. Пяткевіч займаўся даследаваннем дзейнасці Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі (1909—1914), апублікаваў у альманаху «Краю мой — Нёман» (1986) артыкул «З кагорты пачынальнікаў» — пра аднаго з актывістаў таго гуртка паэта Язэпа Лявіцкага (літаратурны псеўданім Юрка Снапко). Зоська Верас цаніла ў сваім гарадзенскім сябру глыбокія, сапраўды энцыклапедычныя веды па гісторыі Гарадзеншчыны, адчувала ў ім блізкую душу, бо сама цягам усяго жыцця стварала ўласную (рукапісную!) энцыклапедыю, якая складалася з жыццяпісаў забароненых за савецкім часам дзеячаў: Аркадзя Смоліча, Станіслава Грынкевіча, Францішка Грышкевіча, Міхася Забэйды-Суміцкага... Уяўляю, як яна парадавалася б, калі б паспела пабачыць «энцыклапедыю Пяткевіча» — дыхтоўны біяграфічны даведнік «Людзі культуры з Гарадзеншчыны», які пабачыў свет у 2000 годзе.

Сучасныя сродкі камунікацыі дазваляюць імгненна перадаваць на любыя адлегласці любую інфармацыю (тэкставую, фота, аўдыё і відэа). А ў часы Зоські Верас адзіным перадатчыкам была звычайная, надзвычай марудная пошта. Лісты з Панарскага лесу ішлі тыднямі — можна здагадвацца, як чакалі іх усе тыя, хто стала карэспандаваў з гаспадыняй Лясной хаткі. Ніводзін ліст не пакідала яна без адказу.

Гісторыку Юрыю Туронку Зоська Верас дасылала звесткі пра ягонага бацьку, вядомага ў Заходняй Беларусі лекара Браніслава Туронка, пра братоў Іваноўскіх, якія ўзбагацілі сваёй дзейнасцю тры культуры — беларускую, польскую і літоўскую. Паэтцы Дануце Бічэль падказвала, як найпаўней і змястоўней паказаць жыццяпіс Максіма Багдановіча ў яго гродзенскім музеі. Дырэктару Мінскага абласнога музея (знаходзіўся ў Маладзечне) Генадзю Каханоўскаму расказвала пра свайго прадзеда Ігната Кулакоўскага, педагога і асветніка, які яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя дамагаўся ад царскіх уладаў вывучэння ў школах беларускай мовы...

А колькі ў Лясную хатку прыходзіла лістоў удзячнасці! Краязнавец з вёскі Германавічы Шаркаўшчынскага раёна Клімент Кожан пісаў: «*Я ў сваім жыцці закончыў два ўніверсітэты — Беларускі дзяржаўны і Універсітэт Зоські Верас*».

Вольным слухачом таго «ўніверсітэта» быў і Уладзімір Караткевіч, які з удзячнасцю за падказаныя спрадвечна бела-



№ 977

БЕЛАРУСКАЯ
НАРОДНАЯ
РЭСПУБЛІКА
НАРОДНЫ СЭКРЭТАРЫЯТ.
" Чэрвеня 1918 г.
№ 847
Места Менск.

НАСЬВЕДЧЭННЕ.
Гэтым сьведчым, што уласьніца гэтага грамадзянка-беларуска Гродзенскай губ., Сакольскага павету Людвіка Антонова СІВІЦКА з'яуляецца членам Рады Беларускае Народнае Рэспублікі.

Старшыня Народнага Сэкрэтарыяту

Загадчык Справаў

Weissruthenische Volksrepublik Volkssecretariat
Den Juni 1918
№ 847
Minsk

Ausweis
Hiermit wird bescheinigt, dass die Inhaberin dieses die weissruthenische Bürgerin aus dem Gouvernement Grodno Kreis Sokolka Ludovica Antonowna Siwitzka Mitglied der Rada der weissruthenischen Volksrepublik ist.
Vorsitzender des Volkssecretariats
Kanzleichef

Народны Сэкрэтарыят — Беларуская Народная Рэспубліка

Пасведчанне раднай БНР
Людвікі Сівіцкай (Зоські Верас).



Юры Туронак, Зоська Верас, Наталля Туронак, Галіна Войцік.

рускія назвы раслінаў аднойчы, звяртаючыся да Зоські Верас, эмацыйна ўсклікнуў: «*Вы наш батанічны бог!*».

А як палічыць усіх наведнікаў Гудзевіцкага этнаграфічнага музея, якія практычна скарысталіся з рэцэптаў, і сёння даступных у экспазіцыі «Лекавыя зёлкі», што стваралася пад цярплівую «дыктоўку» Зоські Верас...

На жаль, пры жыцці яна заставалася як бы за спінамі сваіх вялікіх сучаснікаў — найперш Максіма Багдановіча, гербоўнік гонару якога быў яе заўсёдным і першачарговым клопатам. І гора было тым, хто з тых ці іншых прычынаў кідаў на яго цень, пляміў няпраўдай. І трэба прызнаць: шмат у чым той Багдановіч, якога мы сёння ведаем і прымаем, увідочніўся для нас дзякуючы Зосьцы Верас. Каб сабраць усё напісанае ёю пра паэта, атрымаўся б важкі дадатак да персанальнай энцыклапедыі «Максім Багдановіч», ідэя якой узнікала і акрэслівалася ў двух месцах адначасова: у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» (дзе працаваў яшчэ адзін энцыклапедыст — Янка Саламевіч) і ў той жа Лясной хатцы.

Сталася так, што мемуарыстка засланіла сабой паэтку, аўтарку арыгінальных празаічных імпрэсій, друкаваных яшчэ ў «Нашай Ніве» і пазнейшых заходнебеларускіх перыёдыках. Прачытаўшы іх, чалавек з трыма вышэйшымі адукацыямі і добрым літаратурным густам Аркадзь Смоліч усклікнуў: «*Няхай Вам Найвышні дае сілаў! Тое, што робіце і зрабілі Вы ў гэты глухі час, доўга памятаць будуць беларусы, для будучыні яно будзе прыкладам*».

Прыкра пра гэта гаварыць, але ўдзячнай памяці, у якой быў так упэўнены аўтар першай геаграфіі Беларусі, хапіла толькі на тоненькую, з выгляду як вучнёўскі сшытак, кніжачку «Каласкі», якая выйшла ў свет у 1985 годзе, прынёсшы мала радасці пісьменніцы. Праўда, яе тут жа прынялі ў Саюз пісьменнікаў, прызначылі пенсію, прапанавалі рыхтаваць другую кнігу. Але замест яе Зоська Верас падрыхтавала кнігу Фабіяна Шантыра — свайго першага мужа, таленавітага публіцыста, расстралянага бальшавікамі яшчэ ў 1920 годзе... У выніку ні Шантыр, ні Зоська Верас у мінскія выдавецкія планы больш не траплялі. Пражыўшы без малога цэлае стагоддзе, яна так і адышла ў лепшы свет аўтаркай адзінай, замаскаванай у выдавецтве «Юнацтва» пад дзіцячую, кніжкі. І гэта пры тым, што пісала, пакуль бачылі вочы. Ужо на самым схіле жыцця імкнулася дагаварыць недагаворанае, дапісаць недапісанае. Амаль страціўшы зрок, на адмыслова разлінееных аркушах, звяртаючыся да аднаго з сяброў, навослеп выводзіла: «*Чуюся вельмі дрэнна, але стараюся яшчэ сёе-тое зрабіць, пакуль рука пяро трымае*».

Мала хто з беларускіх літаратараў так напоўніцу адпрацаваў дадзены яму звыш талент — самаахвярна, з пачуццём адказнасці перад будучыняй. Зоська Верас і тут паказала прыклад. У дзевяноста чатыры гады яна яшчэ пісала пранікнёныя элегічныя вершы!

Людская ўдзячнасць нярэдка позніцца, але момант ісціны позна ці рана абавязкова настае. Такім момантам ісціны ў адносінах да Зоські Верас бачыцца мне вялікі том яе спадчыны, выдадзены ў серыі «Гарадзенская бібліятэка» ў 2013 годзе. З’явіліся водгукі ў друку, пра пісьменніцу ці не ўпершыню загаварылі як пра самадастатковую фігуру на айчынным Парнасе. Тэлеканал «Белсат» зняў пра Зоську Верас, асабліва не трывожачы ценяў яе вялікіх сучаснікаў, дакументальны фільм.

Са здымачнай групай мы наведалі тады дзве дарагія для гераіні фільма мясціны: фальварак Альхоўнікі, што на паўдарозе паміж Гародняй і Беластокам, і той Панарскі лясок, які на віленскіх мапах чамусьці пазначаны як вуліца Рэвоню. У Альхоўніках Людвіка Сівіцкая (дзявочае імя Зоські Верас, па мужу — Войцік) засынала малою пад беларускія калыханкі, прачыналася дзяўчынай пад выбухі Першай сусветнай, там яна гадавала свайго першынца Антося, адтуль выхапіў яе і панёс у шырокі свет вір імклівага грамадскага жыцця.

А Панарскі лес, затулены ад гаманлівага горада прыўзнятым «каўняром» чыгункі, стаў зацішнай прыстанню, дзе добра думалася і пісалася без аглядкі на ідэалагічныя павевы, ад якіх пісьменніку за савецкім часам схавацца было дужа няпроста.

У замежных Альхоўніках з захаванымі старымі будынкамі

акурат рыхтаваліся да жніва: там дбайна гаспадарыў фермер і пчаляр Рыгор Кульмачэўскі — праўнук Антона Кульмача, які амаль сто гадоў таму набыў фальварак у Сівіцкіх. За мураванай стадолай у расквітнелай грэчцы гула шматвуллевая пасека. (Вось бы парадавалася колішняя рэдактарка часопіса «Беларуская борць» і заснавальніца таварыства «Пчала»!). А ў такім жа замежным (толькі за другой мяжой) Панарскім лесе мы ледзьве адшукалі тую мясціну, дзе калісьці стаяла Лясная хатка. Яна згарэла ў 1990 годзе, калі гаспадыня ў ёй ужо не жыла, мы пра гэта ведалі, але каб так змяніўся памятны для многіх ландшафт! Здзічэлы, змізарнелы сад, паляна перад хатай, ледзь бачныя пад крушнямі закуранай цэглы падмуркі — усё было захоплена лесам. Самотныя яблыні частавалі нас гаркаватымі яблыкамі, колішняга падворка было не пазнаць, перыметр хаты (якой прасторнай яна здавалася мне ў 1987 годзе!) пад наступам змрочных ялінаў сціснуўся і выглядаў нерэальна маленькім. А прайшло ўсяго нейкіх дваццаць пяць гадоў...

Стоячы на парэштках ганка, я пераказаў сваім спадарожнікам баладу Бертольда Брэхта «Пра людзей Картэса», у якой па-майстэрску апісана, як густы



Стаяць: Генадзь Сагановіч і Лявон Луцкевіч; сядзяць: Эдвард Зайкоўскі, Зоська Верас, Сяржук Сокалаў-Воюш.

паўднёваамерыканскі лес за ноч захапіў у палон і праглынуў, як кіт Ёну, цэлую экспедыцыю іспанскіх каланізатараў. Запозна спахапіўшыся, яны не паспелі прасекчы выхад у наступаючай з усіх бакоў мярэжы галінаў...

Так, любы лес (лацінаамерыканская сельва ці беларускі мяшаны) — захопнік, ён не любіць пустэчы. І што яму з таго, што пад той секвояй спыняўся Картэс, пад тым дубам начаваў Гедымін, у тым хвойніку чытаў вершы Адам Міцкевіч, а ў той лагчыне стаяла хатка Зоські Верас. Ён шматствольна і рашуча ідзе ў наступ, пашыраючы сваю жыццёвую прастору.

Адзняты відэаматэрыял ужо мантажаваўся, калі спатрэбіўся нейкі вобраз, які перадаваў бы галоўную сутнасць гераіні фільма. Кадры з ім і мусілі пачынаць стужку. І неяк сам па сабе ў нашай калектыўнай памяці праявіўся вобраз пчалы. Курсы пчалярства, пасека ў Альхоўніках (дзядоўскіх і сучасных), таварыства «Пчала», часопіс «Беларуская борць», кніжка «Мёдадайныя расліны», выдадзеная ў міжваеннай Вільні... Пчаліны рой трапіў нават на экслібрыс Зоські Верас!

І самае галоўнае — яна ўсё жыццё працавала, як тая пчала, у поце чала свайго. Дабрачынна і самаахвярна, без гарантаваных заробкаў і ўласцівых творчым людзям амбіцый. Чорнарабочай беларускай культуры назваў яе ў белсатаўскім фільме Арсень Ліс, чыё маленства было асветленае Верасавай «Заранкай».

За чатырыста з гакам гадоў да тае яснай «Заранкі» над Вільняй узышло сонца маладзіковае Францішка Скарыны. Калі нашаму слаўнаму першадрукару ў прадмове да кнігі «Юдзіф» спатрэбіўся вобраз-сімвал адданасці роднаму краю, ён таксама ўзгадаў пчолаў, што бароняць вуллі свае. Нездарма ў той прадмове сказана: птушкі ведаюць гнёзды свае, рыбы адчуваюць віры свае, а пчолы свае вуллі — бароняць.

Зоська Верас — яшчэ і бараніла. Цягам амаль цэлага ваяўнічага XX стагоддзя. І за гэта мы ёй у стагоддзі XXI павінны *і за гарою пакланіцца*. Так, паводле народнай мудрасці, выяўляецца найвялікшая людская ўдзячнасць. Аўтарка гэтай кнігі такую ўдзячнасць, без сумневу, заслужыла.



Унук Ярaслаў Войцік на магіле бабулі. Вільня, Панарскія могілкі. 2013 г.



Данута Бічэль

# Аляксей Карпюк і Васіль Быкаў

У Скідзелі, на вечары, аб якім я ўжо расказала ва ўспамінах пра Валодзю Караткевіча, павячэраўшы, выйшлі з памяшкання. Ішоў дождж. Васіль падаў мне руку і кажа: «Хадзі на мой голас...».

Я ішла на яго голас усё жыццё. І цяпер іду, хоць голас гэты чую толькі ў памяці. Пасля таты гэта быў самы вялікі чалавек майго жыцця, найбольшы ўплыў зрабіў ён на маю творчасць, на спосаб пераносіць усе выпрабаванні спакойна, не рвацца наперад, не захварэць на хваробу пыхі. Ён мяне вучыў таму, чаму ўсіх людзей вучыць Езус. Ці жыў гэтак сам? Часам цяжка ўтрымацца ад гэтага «дзявятага валу» славы, ён жа таксама быў чалавек...

Я любіла Васіля сястрынскай любоўю, і ён мяне любіў, як брат. Алесь Адамовіч мог сказаць, што Васіль нікога і нічога не баіцца — ні настырных журналістаў, ні сакратароў партыі, толькі Дануты — што яна падумае і скажа яму пра той ці іншы яго ўчынак. Ён і бярог мяне, як сястру. Калі прыязджалі ў Мінск, сталічным паэтам хацелася трапіць у пакой да Дануты, але Васіль і перапыняў кампанію, якая праводзіла мяне да гатэля.

Чаму я не памятаю, як першы раз убачыла яго, якое ўражанне ён на мяне зрабіў? Мусіць таму, што жылі ў адным горадзе. Аляксей Карпюк прыбег у аўдыторыю, дзе мы чакалі выкладчыка, і, не трацячы часу, аддаў Вандзе Шоцік, якая была ў нас галоўнай з прычыны свайго шляхецкага паходжання, даволі ёмкую папку з аповесцю пра дачку генерала, якая пакахала беларускага хлопца з вёскі... Дарэчы, сёння гэта выглядае абсурдным — не магла выхаваная паненка спароць такой дурноты! Але тады мы верылі: пісьменнік піша праўду. Сам Карпюк прынёс нам гэты твор не для таго, каб мы яму дапамагалі, а для таго, каб нас «купіць» як чытачоў, можа нават «перахапіць» у Васіля Быкава, якога мы яшчэ не ведалі, — Быкаў не меў спрыту бегаць па аўдыторыях да першакурсніц.

Я наведвала літаб'яднанні, калі збіраліся ў доме Элізы Ажэшкі. У сапраўдным, не перабудаваным. Але не памятаю, хто кіраваў тымі аб'яднаннямі. Затое памятаю, як хлопцы мяне там вучылі правільна па-беларуску пісаць. Не толькі ў педінстытуце, у горадзе было шмат моладзі, якая спрабавала пісаць вершы і апавяданні. Магчыма, я звяртала ўвагу на тых, хто пісаў на мове, здаецца, што такіх было больш.

Васіля я добра запомніла з літаб'яднання, якое сабралася ў цяперашнім будынку выдавецтва, — там была рэдакцыя газеты «Гродзенская праўда». На другім паверсе ў вялікай зале са стэлажамі, на якіх ляжалі стосы газет, сабралася шмат людзей,

---

**Данута БІЧЭЛЬ** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басаnож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), «Іду сцяжынаю да Бога» (2012), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008), «Мост святога Францішка» (2010), «Правінцыя святога Францішка» (2013).

чакалі Быкава. Ён прыйшоў — такі незямны. У пачатку быў нейкі ўступ, ён назваў імёны, якія рыхтаваліся на абмеркаванне. Не памятаю, каго абмяркоўвалі,— гэта было надта востра, бязлітасна. Магчыма, гэта былі смелыя рускамоўныя паэты, якіх я зусім забыла. Ніколі не асмелілася прапанаваць свае вясковыя, пераспяваныя з маміных песняў, рыфмаванкі на абмеркаванне тых шматлюдных сходаў. Але да Быкава пачала заходзіць з дзяўчатамі з інстытута. Галоўнай паэткай у нас тады славілася Жэня Сідаровіч. Вучылася на чацвёртым, калі я была на першым. Большасць яе выпуску ўладкаваліся працаваць у абкамах, гаркамах, дырэктарамі школ, засталіся выкладаць у інстытуце. Жэня выйшла замуж і паехала з мужам у Рыгу.

І Жэня, і ўсе дзяўчаты, якія пісалі вершы, былі добрымі сяброўкамі.

Мы хадзілі да Васіля Быкава ў рэдакцыю са сваімі вершыкамі, папярэдне прачытаўшы іх адна другой. Ён нас сустракаў ветліва, браў нашы аўтографы, пасля або друкаваў іх на літаратурных старонках, не папраўляючы, або ў аглядах маладых у газеце называў тую ці іншую аўтарку. Яго агляды, магчыма, былі фармальнымі, але для моладзі надта важнымі, таму што яго імя ў савецкай і беларускай літаратуры адразу ўзышло над усімі імёнамі, яго адначасна друкавалі ў Маскве і Мінску, ды хутка і ва ўсім свеце. Яго захвальвалі і знішчалі — адначасна з розных бакоў. Але не замоўчвалі. Ён ведаў з ваеннага вопыту, што калі пайшоў у атаку, то па дарозе спыняцца нельга. І пісаў кожны год новы твор.

Такі гадкі быў час для творцы — трэба было працаваць у газеце, па графіку дзяжурыць у выдавецтве, зрэдку можна было нешта прыдумаць, каб раней пайсці з кабінета, у якім побач з пісьменнікам сядзелі яго «ахоўнікі», таксама журналісты.



Данута Бічэль, Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк.

Ахоўвала яго сяброўка Ірына Міхайлаўна Суворава, якая адбіла яго ўрэшце ў Надзеі Андрэеўны, маці яго сыноў — Сяржы і Васіля. Пра іх адносіны я даведалася, калі была на чацвёртым курсе і ў мяне нарадзілася дачка Віка.

Нейк мы да нараджэння нашай таленавітай дачушкі не падрыхтаваліся. У раддом я пайшла з інтэрната, а Эрык у той час працаваў у Астрыне ў школе кінамеханікаў. Трэба было або кідаць інстытут, або кідаць працу. Ён знайшоў у Гродне працу ў шырокафарматным кінатэатры, пакуль я была ў раддоме, наспех знайшоў кватэру ў драўляным прыватным доме за могілкамі — прахадны пакой, злая гаспадыня.

Я не спраўлялася з абавязкамі маці і жонкі. А тут яшчэ інстытут! І зайшлі праведаць мяне Васіль Быкаў і Ірына Суворава. З таго, як яна сябе паводзіла і як размаўляла, было відаць, што яны — каханкі. Лепш, каб я гэтага не ведала. Ды наша сяброўства з Васілём было ў духоўнай сферы, яно толькі пачыналася. Эрык раўнаваў мяне і да Быкава, і да Карпюка, і да Караткевіча, і да ўсіх пісьменнікаў — жывых і памерлых. Я ў той час найболей шукала сустрэч або магчымасці паразмаўляць па тэлефоне з Быкавым. Ды ён і сам тэлефанаваў мне, прапаноўваў спаткацца на «нашым месцы», каля помніка палітруку Гарнавых перад мостам.

Калі мы выходзілі з хаты па званку, ён з вуліцы Кашавога, пасля Свярдлова, я з Паповіча, то якраз там сыходзіліся. Там, на прывязі, як сабачкі, стаялі лодкі. Аднойчы ён пакатаў мяне ў сваёй лодачцы, а для храбрасці ўзяў з сабой Чэкіна. Гэта быў стратэгічны ход — каб не раўнавалі жанчыны. Паехалі на Мяловыя горы. У лодцы прыхавана было прыстасаванне, каб варыць каву, — керасінка і турачка. Кава была з дымам. Потым мы вячэралі ў тым ціхім дамку, які называлі «Сосны», дзе са столі крынічка цурчэла, музыка грала. Мне заўсёды было ўсё роўна, што елі і пілі, я слухала Быкава. Перад той вылазкай мяне запрасіў паразмаўляць Валодзя Кудзінаў з часопіса «Нёман» — ён і прапанаваў разам зайсці да Быкава. Васіль частаваў нас «лісцікамі» з хлеба і вяндліны.

Аляксей Карпюк заўсёды быў нашым начальнікам, нават калі партыя здымала яго з пасады сакратара аддзялення СП. Фармальна тады выбіралі Быкава, але нават зарплату Быкаў адда-



Данута Бічэль, Аляксей Карпюк, Ларыса Геніюш, Васіль Быкаў
пасля выступлення ў Зэльвенскай санаторна-лясной школе. 1963 г. Фота Ю. Голуба.

ваў Карпюку — да пэўнага часу, пакуль не ўмешваліся жонкі. Карпюк выклікаў мяне ў аддзяленне на размову і патрабаваў справаздачы: «Што ты за лета напісала? Пачытай!». Я чытала некалькі вершыкаў, але ён ніколі не казаў, што добрыя. «Ты ўсё пра кветачкі ды пра ягадкі. А калі будзе пра жыццё?»

Карпюк рэгулярна збіраў абласных пісакаў на сходы і выклікаў з Мінска бухгалтара Алу Валяр’янаўну з грашыма. Уся гэта «машына» з яўнымі і тайнымі рухавікамі трымалася на таленце Алы Валяр’янаўны.

Шмат куды мы разам ездзілі і размаўлялі ў дарозе. Усе нашы лакальныя паездкі прыдумваў Аляксей Карпюк. Так мы паехалі да Ларысы Геніюш, каб пазнаёміцца. Галоўным у нашай сустрэчы было ўгаварыць яе прыняць грамадзянства і ўступіць у Саюз пісьменнікаў. Але ніхто ёй пра гэта ў той вечар нічога не казаў, можа, Карпюк сам-насам, дзе-небудзь на кухні. Я не чула. Я сядзела каля халоднай кафельнай печкі на ўслончыку і слухала, як Марыя слухала Езуса, пакуль «Марта» — Ларыса Геніюш — стаўляла на круглы стол, засланы бялюткім абрусам з паяском праз увесь круг, розную смакату. Чарадзейка наша святая! Янка з Васілём размаўлялі, а Карпюк мучыўся — ён увогуле не меў цярпення на застоллі. Гаспадыня бегала туды-сюды, як маладая. А я ёй не дапамагала. Гэта была гістарычная, знакавая сустрэча для нас усіх, а мы нібы не адчувалі гэтага.

У наступны раз мы ездзілі выступаць у Зэльвенскую школу-інтэрнат, а Юрка Голуб, які вучыўся ў дзявятым класе, сфатаграфаваў нас са снапкамі бэзу — Васіля, Ларысу, Карпюка і мяне.

Калі Юрка Геніюш быў пакалечаны нейкім псіхам у Гарадку і яму зрабілі аперацыю, Ларысе прыслалі тэлеграму, завераную лекарамі, — па такіх тэлеграмах афармлялі і адпускалі за мяжу, але Геніюш не адпусцілі, у яе быў пашпарт «без гражданства». Пасля ўсіх цяжкіх паходаў па канторах яна захацела зайсці да Быкава. Ён нас паіў гарбатай. Жылі яны ў кватэрцы па вуліцы Алега Кашавога (цяпер Траецкай). На развітанне вывеў нас на вуліцу Савецкую, пацалаваў Ларысу, а яна адразу неяк павесялела і кажа: «Пацалуй і Данусю!». А ён: «Другім разам».

Васіль быў дэпутатам абласнога савета і браў нас на сустрэчы з тымі, хто яго выбіраў. Гэта было ў Шчучынскім раёне. Я чытала там нейкія рыфмаванкі, ён таксама пра нешта ім з трыбуны казаў. Нам паказвалі ферму, а пасля нас кармілі ў вясковай хаце або на ўскрайку лесу.

Ездзілі з сустрэчамі па мясцінах, што блізка да пушчы, да мяжы з Беласточчынай. Карпюк тады пісаў раман «Вершалінскі рай». Карпюк любіў сустрэчы з чытачамі, яго ведалі і паважалі настаўніцы ва ўсім нашым памежжы. Ён жартаваў, прыдумваў розныя смешныя здарэнні, сам рыхтаваў сабе пытанні і раздаваў іх настаўніцам. Гэта сапраўды было займальна. Мы з Васілём яго «разыгрывалі» — таксама задавалі яму адно і тое ж пытанне: «Якія жанчыны яму падабаюцца — бландзінкі ці брунэткі?». Карпюк чытаў пытанне ўголас, пасля паварочваўся у наш бок і казаў: «А, дык гэта вы!». Карпюк трымаў сваімі смешнымі апавяданнямі школы, сабраныя ў кінатэатрах. Толькі аднойчы ён «спёкся», калі нас запрасілі на дыскатэку, а ён думаў, што гэта звычайная вечарынка, як у вёсцы. Я папярэджвала яго, што гэта небяспечна, але дзе там! Каб Карпюк не справіўся з аўдыторыяй?! Але моладзь была залішне ўзбуджанай, я пачытала ім некалькі кароткіх вершыкаў.

Быкаву ўдаваліся выступленні перад разумнымі, ён гаварыў стрымана, на пытанні адказваў скупа. Калі былі дні польскай літаратуры па ўсёй Беларусі, а пасля ўсе з’ехаліся ў Навагрудку і на Свіцязі, Васіль быў далёка ад мяне, яго «захапілі» польскія пісьменнікі, якія перакладалі яго на польскую мову; пры мне сядзеў Мацей Юзаф Кананові́ч,

— ён, дарэчы, бываў на Свіцязі ў дзяцінстве са сваімі бацькамі, іх з братам Маркам адна пані з дзяўчаткамі запрасіла пакатацца на лодцы, было цёмна, і яны заблудзілі, але ён пра гэта не ўспамінаў, усё выпытваў у мяне, «як тэн Александэр?» (гэта Анін малы сын, які напомніў яму пра Анінага бацьку Аляксандра).

За мяне там падымалі тосты, называючы пані Ажэшкаю. Мне гэта было непрыемна, але я трывала. Чамусьці нам трэба было пакінуць усіх у Навагрудку і паехаць у Гродна. Мы ехалі ў вялізным атобусе ўтраіх. Карпюк спяваў, ад суму я падпявала яму пісклявым голасам. Быкаў сказаў: «Звычайна, калі ў людзей у галаве пуста, яны спяваюць». Тады Карпюк сказаў: «Хочацца паглядзець на лонданскія туманы, даўно не быў у Лондане». Маўчанне. Паўтор: «Даўно не бачыў лонданскіх туманоў».

Маўчанне... Карпюк ускоквае: «Чаму вы не пытаеце, калі я быў у Лондане?». — «Ведаем, што ніколі не быў».

А цяпер я думаю, чаму мы не спыталі ў яго, калі ён быў у Лондане? Калі мы прыехалі дадому, Васіль выйшаў там, дзе жыла Суворава.

У іх у горадзе ў кожнага былі свае знаёмыя «персанажы». Напрыклад, у Быкава быў дзядок-цырульнік, лекар, які рабіў мяшанку ад астмы на ўзроўні чарадзейства. Абодва былі знаёмыя з тым старым бібліятэкарам, які пад канец жыцця хадзіў па вуліцы Ажэшкі ў нешнураваных чаравіках, у акулярах з пабітымі шкельцамі. І яны хадзілі па вуліцах, а сустрэчныя спынялі іх, каб паразмаўляць. У Быкава на ўсіх хапала часу. Карпюк размаўляў хутка, ён заўсёды спяшаўся пісаць.

Аляксандр Ліпень успамінаў, як ён на сваім агародзе выразаў з дрэва Леніна, а з другога агароду праз плот глядзеў на яго работу Васіль Быкаў, таксама скульптар па прафесіі. Быкаў пытае: «А чаму вы яго выразаеце, няўжо вам гэта падабаецца?». А Ліпень яму кажа: «Хачу трапіць на выстаўку народных майстроў, а без яго не бяруць». Быкаў ведаў гэта, але ж трэба было неяк пазнаёміцца з суседам праз агарод...

Таня Маліноўская расказала, што яны жылі ў адным доме каля вакзала і летам Карпюк збіраў усіх малых і вадзіў на пляж. У яго былі простыя шляхі. Ішоў хутка, а ўся дзятва бегла за ім, ніхто не плакаў, бо не возьме наступным разам. Калі над ім адбываўся суд праз публікацыю камуніста Ледзянёва, які абазваў яго «здраднікам», на судзе былі сведкамі яго старыя знаёмыя, яны размаўлялі на прыгожай страшаўскай мове. Асабліва запомніўся адзін дзядок, які працаваў на чыгунцы. Хлопцы з «Паходні» стаялі ў пікетах у абарону Карпюка. Ён выйграў суд і хадзіў героем.

Усіх сваіх персанажаў — бабулю, якая хацела, каб называлі яе «дзевушкай», дурненькую дзяўчынку, якая ўпала ў люк на стадыёне і сядзела там тры дні, але булачку маме зберагла, — Карпюк спісваў з жыцця. Трымаў ён сувязь з сябрамі па партызанцы, па вучобе ў інстытуце, дапамагаў іх дзецям уладкавацца ў інстытуты. Збіраў па Гродзеншчыне маладых творцаў, вазіў іх і іхнія творы ў сталіцу, уладкоўваў на працу і «выбіваў» кватэры. Усіх уладкаваў у спецпаліклініку. І сабраў пры музеі атэізму і гісторыі рэлігіі даволі працаздольную кампанію. Увесь час знаходзіў такую працу, каб можна было пісаць сваё. Увесь час пазычаў грошы, але аддаваў і выручаў, калі нехта быў у бядзе.

Вельмі хацеў, каб паставілі яго п'есу, каб зрабілі фільм па яго творах. Але гэтае шчасце дасталося Быкаву. Васіль паехаў у Мінск, пасля ў далёкі свет. А Карпюк захварэў. Калі трэба было рабіць аперацыю на страўніку ў Мінску, хірург адмаўляўся, маўляў, не вытрывае наркозу — у Карпюка ад ранення ў Берліне не было чатырох рабрын і правага лёгкага. Быкаў угаварыў хірурга: калі ён пражыў без лёгкага жыццё, то варта рызыкнуць яшчэ раз. Карпюк пажыў ад восені да 14 ліпеня 1992 года. Пакутаваў, але жыццё ён любіў. У пакутах напісаў аповесць «Развітанне з ілюзіямі». Аддаваў у музей Багдановіча лісты з фронта да маці, лісты ад сяброў і дзяўчат, запіскі ад студэнтаў, ад слухачоў на сустрэчах, партызанскі дзённік. Паміраў цяжка, без сакрамэнту пакуты. А можа, Іна мне не сказала пра царкву праўды...

Васіль патэлефанаваў 3 снежня 2003 года, павіншаваў з днём нараджэння. Ён быў хворы, але мне аб гэтым не сказаў. Ён ведаў, што болей не будзе са мной размаўляць. Я не ведала. Я не знайшла сілы, каб паехаць у Мінск развітацца з Быкавым — гэта было залішне балючае выпрабаванне.

Пра іх напісаны мае ўспаміны ў кнізе «Хадзі на мой голас», але гэтыя згадкі я напісала, не гледзячы ў кнігу, — гэта тое, пра што думала сёння. Жыццё доўгае. Шмат у ім адбывалася светлага і змрочнага. Я пра светлае напісала...

Я ім удзячная за тое, што яны прынялі мяне, такую бездапаможную, у сваё сяброўства, спрыялі мне, як маглі, ім таксама гэта было чамусьці патрэбна. Былі яны розныя па характарах, Бог няроўна надзяліў іх літаратурным дарам, але яны захоўвалі суседскія адносіны і не перашкаджалі адзін другому працаваць і жыць, а нават дапамагалі.

*Чацвер, 27 жніўня 2015 года.*
*Гродна.*



*На вечарыне памяці Генадзя Бураўкіна. 2 верасня 2014 г. Фота Георгія Ліхтаровіча.*

Уладзімір Сіўчыкаў

# З нізкі «Уладзевы гісторыі»

**Уладзімір Сіўчыкаў** — пісьменнік, мастак, выдавец. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Скончыў Мінскую мастацкую вучэльню імя А.К.Глебава (1977) і філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта (1986). Аўтар кнігі апавяданняў і п'ес «Гульня ў тастамант» (1992), кніг прозы «Лісты да брата» (1998), «Бювар» (2009), кніг паэзіі «Высакосны год» (2004), «Кошык Велікодны (2014) і інш. Укладальнік (разам з А. Марачкіным) і адзін з аўтараў альбомаў «Жодзінцы. Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова» (2008), «Рыцары Пагоні і Арла» (2010). Жыве ў Мінску.

## Цудадзейная крыніца

Гасцяваў напрыканцы лета ў колішняга аднагрупніка па Мінскай мастацкай вучэльні, патомнага інтэлігента Алеся Лася — мастака, этнакультуролага, дудара, майстра па вырабе народных інструментаў — на ягоным хутары за Ракавам, пры поплаве ля рэчкі Яршоўка.

Нават не верылася, што могуць быць такія запаветныя мясціны ўсяго за сорак кіламетраў ад сталіцы. На хутар той да колішняга гаспадара не раз наведваўся Якуб Колас, а навакольныя лясы, поўныя таксама бружмелю, занесенага ў «Чырвоную кнігу Беларусі», лічыць сваёю «бацькаўшчынаю» вялізная рысь!

У прасторнай хаце ў Алеся месціцца і майстроўня, дзе выштукоўвае ён музычныя інструменты, і студыя аўдыязапісу, дзе на кампакт-дыскі кладзецца занатаваны ім па вёсках ды апрацаваны аўтэнтычны мелас: «Ліра. Лірніцкія песьні, псальмы і канты», «Традыцыйная смыковая музыка Беларусі. Грае капэля Аляксандра Лася» дый іншыя.

На гарышчы можна агледзець разнастайны сельскагаспадарчы ды цяслярскі рыштунак, а ў падмурку, у глыбокіх сутарэннях, хаваецца прысыпаны пілавіннем ляднік, ад якога і спякотнымі летнімі днямі павявае прахалодаю.

А вось ваду Алесь прынагодна набірае ў запас са знакамітае ракаўскае крыніцы, што бруіцца непадалёк ад шашы ў капліцы з 500-гадовай гісторыяй. Легенды мясцовыя цвердзяць, што крыніца — адно з шасці месцаў на Беларусі, якое наведала Маці Божая.

Нібыта аднаму слепаку быў сон з Паннай Марыяй і пажаданкаю выкапаць ямку пад высокім дрэвам. Той выканаў прыснёнае і стаў відушчым, калі прамыў твар цудадзейнай вадою, што пачала бруіцца з ямкі. Пабачыў ён і абраз Божае Маці дый паставіў па-над крыніцаю драўляную каплічку.

Вада з той крыніцы, як даналіся і пацвердзілі пазней навукоўцы, папраўдзе лекавая для вачэй, бо ўтрымлівае багата іёнаў срэбра.

Пры цяперашняй каменнай капліцы мімаволі прыгадваюцца словы майго колішняга ўніверсітэцкага выкладчыка, прафесара і паэта Алега Антонавіча Лойкі: «Ракаў — гэта людзі. Ракаў — гэта беларусы, але гэта такія беларусы, што бывалі не толькі ў Ракаве, але і ў Кракаве, а ў іх гасцявалі не толькі людзі з Кракава, але і з Варшавы і Кіева, Прагі і Львова, Беластока і Вільні... Ды, зрэшты, быць у Ракаве — гэта, можа, больш экзатычна, чым у Кракаве».

Ракаўцы прымацавалі на капліцы і шыльду з біблійнай

цытатаю, са словамі з «Паслання святога апостала Паўла да Галатаў», якія не могуць не ўражваць: «З Бога не насмяешся... Гал 6, 7».

Прыгаломшаны, параўнаў, выверыў той верш дома найперш па Бібліі, перастворанай намаганнямі Васіля Сёмухі: «Ня крывіце душою: Бог паганьбёны ня бывае. Што пасее чалавек, тое і сажне».

Во ўжо папраўдзе здараецца часам, што кладуцца на душу радкі, нібыта высечаныя на камені:

«З Бога не насьмяешся!
Праўда ходзіць нацянькі,
З ёй не разьмінешся!»

*3 верасня 2007 года.*

### Вітайма неафітаў!

Аднаго зімняга дня на Радзе Саюза беларускіх пісьменнікаў «уступіў» у нашу творчую суполку двух кандыдатаў, якія не займелі ўхвалы Прыёмнай камісіі, — Наталлю Г. і Севярына К.

Апеляваў да радцаў некалькімі лічбамі.

У Шведскім саюзе пісьменнікаў працуюць чатыры секцыі: літаратуры для дзяцей і юнацтва, мастацкай літаратуры, літаратуры non-fiction і перакладчыкаў мастацкай літаратуры, якія аб'ядноўваюць больш за тры тысячы творцаў. У Беларусі ў двух пісьменніцкіх саюзах менш за тысячу сяброў пры колькасці жыхароў, сувымернай з насельніцтвам скандынаўскай краіны.

«Ну дык што, — агучыў я рытарычнае пытанне, — шведы ўтрая таленавіцейшыя за беларусаў? Альбо ў нас занадта строгія правілы і празмерна жорсткія крытэрыі да кандыдатаў? У той самай Швецыі выпуск дзвюх кніжак дае права на аўтаматычнае, без усялякіх рэкамендацый, уваходжанне ў Саюз пісьменнікаў, а ў нас і з пяццю кнігамі ды трыма рэкамендацыямі можна не трапіць!»

Адказам сталася дружнае паднясце рук сяброў Рады, якія амаль што аднадушна, горача прагаласавалі за новых сяброў, прынялі іх сваёй уладаю.

*10 снежня, на Сусветны дзень правоў чалавека. 2013 год.*

### Дарога на пленэр

Па просьбе малодшай дачкі Хрысціны цэлай кампаніяй выправіліся на эцюды, на мастакоўскі пленэр на берагі Плісы, у маё роднае Жодзіна, каб даў там майстар-клас па тэхніцы акварэлі.

Амаль што на ўездзе ў горад зарулілі налева, па праспекце з адметнай французістай назваю Веніс'е, да касцёла Божай Маці Фацімскай.

Храм гэты даволі малады. Першы камень у падмурак быў закладзены ў лістападзе 1996 года, а будаўніцтва скончылася праз шэсць гадоў. У верасні 2003 года касцёл быў кансэкраваны кардыналам Казімірам Свёнткам, а напрыканцы 2007 года арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, асвяціў касцёльныя званы...

На клумбах пры храме завіхаліся маладыя парафіянкі. Кінуў палівачны шланг, падышоў пазнаёміцца ксёндз пробашч Міхал Цвячкоўскі. Прыязна пагутарылі, а потым нам ахвотна адчынілі касцёл.

Ва ўсім убранні найперш кінулася ў вочы копія з палатна Эль Грэка «Апосталы Пётр і Павел». У грэка-іспанца, імя якога Дамінікас Тэатокапулас пірэнейцы вымавіць не маглі, адзін з вучняў Хрыста выдае на рахманага сузіральніка, а другі — на заўзятага прапаведніка, але абодвух яднае агульнае ўнутранае перажыванне і глыбокая душэўная прыгажосць.

А вось адзін з нашых пленэрыстаў, паляк Славамір Л., паводзіўся ў касцёле на дзіва індыферэнтна, раўнадушна. Калі я спытаўся пра ягоную абыякавасць, ён прастадушна прызнаўся, што не верыць у Бога, што здаўна ёсць атэістам.

Гэтае Славаміра прызнанне чамусьці не толькі здзівіла і збянтэжыла, але і засмуціла. Як гэта — паляк, чалавек з амаль што стоадсоткава каталіцкай краіны і раптам не тое што не каталік, але і ўвогуле бязверца?

*12 траўня 2014 года.*

### Паштоўкі ў вечнасць

Мне пашчасціла не адзін дзясятак гадоў ведаць нашага найвыдатнейшага графіка Арлена Міхайлавіча Кашкурэвіча, пісаць пра яго, удзельнічаць разам у мастацкіх выставах. Неацэннай раскошаю было гасцяваць у яго ў кватэры ў Доме мастакоў на пятым паверсе, а таксама наведвацца ў «святая святых», у майстэрню, што мясцілася



*З Аляксеем Марачкіным у дольнай зале касцёла св.Сымона і Алены. Вясна 2006 г. Фота Хрысціны Сіўчыкавай.*



З ксяндзом Уладзіславам Завальнюком на свяце польскай песні ў Мінскім палацы культуры чыгуначнікаў. 2 мая 2010 г. Фота Раісы Шастак.

ў тым самым пад'ездзе, але на дзявятым паверсе, пад сонцам ды аблокамі.

Апошнія гады былі найболей багатыя на сустрэчы, бо паводле выдавецкіх замоваў аздобіў ён том «Літаратура ад старажытнасці да пачатку эпохі рамантызму» Лявона Баршчэўскага, выбраныя творы нашых класікаў, «Інтымны дзённік» Максіма Багдановіча і «Руны Перуновы» Рыгора Барадуліна, анталогію вершаў і песняў пра каханне «Яна і Я», а таксама зборнік «Крэмень і крэсіва», які, на вялікі жаль, пакуль што не патрапіў на друкарскі варштат.

У маёй калекцыі твораў мастака ёсць выкананыя ў змешанай тэхніцы, ёсць афорты, а таксама шматлікія малюнкі тушшу, сепіяй ды сангінаю. Ёсць і некалькі, на першы погляд, някідкіх, зусім невялікіх па памеры аркушаў. Кажу пра паштоўкі, якія выконваў ён цягам сарака гадоў дый падпісваў, раздорваў і адсылаў калегам, сябрам і блізкім. Гэта былі лінагравюры — выявы, выразаныя на лінолеуме, а потым аддрукаваныя на паперы.

Трыма заўсёднымі складнікамі на тых паштоўках былі выявы П'еро, сэрцаў, а таксама адно з лацінскіх крылатых выслоўяў.

На маёй любімай паштоўцы, што дзевяць гадоў ляжыць навідавоку, пад празрыстай накладкаю на працоўным стале, П'еро імчыць на матацыкле, а лацінскі афарызм — «Semper in motu» («Заўсёды ў руху»). Тры сэрцайкі на ёй падфарбаваныя чырвоным алоўкам. Гэтаксама алоўкам, але простым ці чорным, прастаўлена аўтарская манаграма *АК.06*. На звароце подпіс, які час ад часу з прыемнасцю перачытваю:

*«Дарагі Ўладзімір!*

*Сардэчна віншую Вас і Вашу сям'ю з Новым годам ды Калядамі!*

*Няхай усё будзе добра ў Новым годзе і заўсёды!*

*Шчыра Вашы Арлен і Людміла К.»*



З Арленам і Людмілай Кашкурэвіч у Мінскім палацы мастацтва. 5 ліпеня 2003 г. Фота Хрысціны Сіўчыкавай.

Здавалася б, усё проста і немудрагеліста, але не магу тут не пагадзіцца з малодшым сынам генія кніжнай і станковай графікі Тодарам, таксама мастаком. Сапраўды, гэта не быў капрыз або хобі — паштоўкамі-лінагравюрамі Арлен Міхайлавіч цягам многіх гадоў нагадваў найперш творцам-паплечнікам, што беларуская культура па вызначэнні ёсць культураю еўрапейскай, што ёй павінен быць уласцівы пэўны еўрапейскі шарм. Несумненна, што П'еро — вобраз еўрапейскі, а на латыні, на лацінскай традыцыі ў многім і сёння трымаюцца еўрапейская культура і навука. Мне прыемна ўсведамляць, што дзякуючы ўніверсітэцкай філалагічнай адукацыі меў радасць прычасціцца ад тае крыніцы, гэтаксама, як і многія іншыя філолагі, гісторыкі, юрысты дый медыкі. Па меншай меры спецыялісты ў гэтых чатырох кірунках чалавечай дзейнасці не лічаць лацінскую мову нежывой, як і святары Рымска-каталіцкага Касцёла.

У гэтым рэчышчы трэба прызнаць саракагадовы цыкл паштовак за адзін з мастакоўскіх подзвігаў Арлена Міхайлавіча, мінчука ў чацвёртым пакаленні! Паштоўкамі-лінагравюрамі, як і сваімі станковымі творамі, ілюстрацыямі да такіх шэдэўраў еўрапейскай літаратуры як «Атамная станцыя» Хальдаўра Лакснеса і «Фаўст» Гётэ, ён натхнёна і настойліва ўводзіў заходнееўрапейскую фактуру ў нашыя культуру і мастацтва.

*25 сакавіка 2015 года.*

Андрэй Шпунт

# «Дык ідзіце і навучайце ўсе народы...»

...Напрыканцы 1837 года стомленыя ад зімовага недахопу святла і фарбаў жыхары Апостальскай Сталіцы здзіўлена назіралі, як у напрамку Квірынальскага палаца незямной прыгажосці, не інакш арабскіх крывей, конь нясе адпаведнага сабе, такога ж статнага, высокага вершніка ў цюрбане, з-пад якога спадаюць на плечы русыя валасы. У яго бледны вузкі твар з правільнымі рысамі, што яшчэ больш адцяняе надзвычай выразныя, нябеснага колеру вочы; вялікія «сармацкія» вусы і доўгая «ўсходняя» барада; залаты плашч, люлька, жоўтыя туфлі з загнутымі насамі і дамаская шабля. Грыгорый XVI сардэчна вітаў свайго старога знаёмага, якога пажадаў бачыць менавіта ў гэтым «працоўным» строі. Прымаючы рэляцыю пра розныя справы на Блізкім Усходзе, Святы Айцец бачыў маляўнічыя вобразы амаль з казак «Тысячы і адной ночы», ён мог нават дакрануцца да матэрыяльных сведчанняў загінуўшай цывілізацыі — пячатак, клінапісных таблічак і іншых рарытэтаў старажытнага Бабілёна, прывезеных для папаўнення збораў музея Ватыкана.

Ад Святога Айца Апостальскі візітатар у Месапатаміі а. езуіт Максімільян Станіслаў Рыла выйшаў членам Папскай археалагічнай Акадэміі і накіраваўся ў Кангрэгацыю веравучэння, дзе прадставіў вялікія планы *Ad majorem Dei Gloriam*, у прыватнасці, стварэння цэнтральнага калегіума ў Бейруце ці Алепа. Далейшы побыт у Рыме прайшоў у шматлікіх клопатах у розных ватыканскіх кангрэгацыях, пошуку ахвярадаўцаў для ўсходніх місій і планаванага калегіума, працы місійнай і рэкалекцыйнай. Атрымаўшы значныя паўнамоцтвы і падтрымку, 3 чэрвеня 1839 г. ён ад'ехаў з Рыма праз Мальту ў Канстанцінопаль, а адтуль — у Бейрут.

Таксама чэрвеньскім днём, за тры гады дагэтуль, пад прозвішчам Пятра Ролі ён уступаў у поўнае прыгодаў і небяспекі служэнне на Усходзе як дыпламат і місіянер. Шляхі вялі праз Егіпет, Ліван, Сірыю, Арменію, Грузію. Сярод мноства цяжкасцяў то ў турэцкім, то ў курдскім строі, конна, з узброеным эскортам дабраўся да Дамаска, а адтуль праз Хомс, Хаму, Алепа, Урфу ў раён Тыгра і Еўфрата да Багдада, дзе апроч шматлікіх кантактаў з прадстаўнікамі Усходніх цэркваў знаходзіў час для археалагічных даследаванняў...

Яго ведала і любіла ўся Італія, называючы *padre Rillo*, а ён жартаўліва перарабіў сябе ў *Grillo* (па-італьянску — «цвыркун»). Узгадваў яго і папа Леў XIII, які добра ведаў кс. Максімільяна ў часы сваёй маладосці.

Ва ўсіх сведчаннях, успамінах, запісах, дзе сустракаецца імя кс. Максімільяна, адзначаюцца яго славутыя гаміліі і рэкалекцыі. Адзначаецца прастата і моц яго слова (валодаў арабскаю, мальтыйскаю, італьянскаю, ангельскаю, польскаю мовамі, а таксама лацінаю), прасякнутага любоўю да Бога і бліжняга, падкрэсліваюцца шырокі кругагляд, глыбокае веданне людзей, нейкая туга аб лепшым, несмяротным жыцці, што спалучалася з сапраўдным запалам мужчынскай сілы, якую немагчыма адолець. Як сведчыла польская пісьменніца Клементына Хофманава з Таньскіх, якая сустракала а. Максімільяна ў Рыме ў 1845 г., ён ніколі не запісваў свае гаміліі.

Айцец Рыла праводзіў рэкалекцыі ў Рыме, Фларэнцыі, Неапалі і іншых гарадах. Працаваў паўсюдна і для ўсіх — сярод святарства, папскіх гвардзейцаў, вязняў, галернікаў, з якіх не аднаго скіраваў на адзіна сапраўдны шлях. Не ўстаяла перад ім нават старажытная Фларэнцыя, жыхары якой вылучаліся асаблівай рэлігійнасцю, а тым больш — любоўю да езуітаў. На працягу месяца ён прамовіў у гэтым горадзе 100 гамілій.

Кс. Ігнацы Галавінскі ў кнізе «Пілігрымка ў Святую Зямлю» (Вільня, 1842) піша, як у Канстанцінопалі, вяртаючыся ад арцыбіскупа Гіляро, убачыў статнага мужчыну, які ўпэўнена і хутка

---

**Андрэй ШПУНТ** — беларускі гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989—1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996—1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998—2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.





X. Maksymilian Ryłło S. J.

*Максімільян Станіслаў Рыла нарадзіўся 31 снежня 1802 г. у Падароску Ваўкавыскага павета. Паходзіў з абяднелай, але старой шляхты герба «Вянява», якая жыла на Слонімшчыне, Браслаўшчыне, Віленшчыне, Лідчыне, Полаччыне. Сярод прадстаўнікоў роду найбольш вядомы Максімільян Рыла (+1793) — уніяцкі біскуп Пжамыскі, Саноцкі і Самборскі (1785), добры і вучоны пастыр, фундатар уніяцкай семінарыі ў Хелме (1759).*

*Пачатковую адукацыю атрымаў у павятовай школе ў айцоў місіянераў.*

*Прыблізна з 1817 г. вучыўся ў Полацкай езуіцкай Акадэміі, дзе стаў магістрам філасофіі, потым вывучаў медыцыну ў Віленскім універсітэце.*

*Прайшоў двухгадовы навіцыят пры касцёле св. Андрэя на Квірынале ў Рыме і гадавы курс рыторыкі. З 1823-га да 1834 г. вывучаў у розных навучальных установах граматыку, філасофію, паэтыку, тэалогію. Адначасова быў настаўнікам семінарыстаў і выкладчыкам паэтыкі (1826 — 1827).*

*Святарскае пасвячэнне атрымаў 29 снежня 1833 года.*

*2 лютага 1838 г. даў чатыры манаскія абяцанні.*

*Быў генеральным вікарыем апостальскага дэлегата арцыбіскупа Вілардэла, а таксама кіраўніком езуіцкай місіі, якая ў лістападзе 1839 г. працавала сярод маранітаў, мелькітаў і армянаў каталікаў.*

*4 жніўня 1844 г. быў прызначаны папам Грыгорыем XVI рэктарам Калегіума прапаганды (Collegium Urbanum), які рыхтаваў будучых місіянераў.*

*Працаваў старшынёю камісіі па запісах сведчанняў маці Макрыны Мечыслаўскай (лістапад 1845 г.). Гэтыя сведчанні былі надрукаваныя пад назваю «Opowiadanie Makryny Mieczysławskiej, ksieni bazylianek mińskich o ich siedmioletnim prześladowaniu za wiarę, z woli Grzegorza XVI papieża, przez ks. M.Ryłłę, Aleksandra Jełowickiego, ks. Ałojzego Leitnera spisana...» і вытрымалі шмат перавыданняў у розных краінах.*

*Служыў апостальскім правікарыем афрыканскай місіі і кіраўніком экспедыцыі ў Хартуме (да 22 красавіка 1847 г.).*

*Памёр і пахаваны ў Хартуме 17 чэрвеня 1848 года. У 1900 г. прах а. Максімільяна быў перанесены на езуіцкія могілкі ў Каіры.*

*«Collegium Asiaticum» на 100 вучняў, заснаваны кс. Максімільянам, цяпер — адзін з лепшых на Блізкім Усходзе Універсітэт імя св. Юзафа ў Бейруце, дзе вучацца 11 тыс. студэнтаў і працуюць 1800 выкладчыкаў на 12-ці факультэтах і ў 22-х спецыялізаваных школах і інстытутах, а таксама Музеі ліванскай першабытнай гісторыі.*

*Юліуш Славацкі ўшанаваў светлы вобраз а. Максімільяна, зрабіўшы яго адным з герояў свайго твора — «Preliminaria peregrynacji do Ziemi Świętej J.O. Księcia Radziwiłła Sierotki» (1840–1841).*

крочыў у турэцкім строі — вялікі сіні кутас чырвонай фескі калыхаўся ў тым хуткім руху і пераплятаўся са светлымі валасамі, што прыгожа спадалі на плечы; шырокі, сталёвага колеру бекіш (палатняная верхняя адзежа) прыкрываў цёмны доўгі кафтан з прыгожым пасам багдадскага шаліка, які шчыльна абхопліваў зграбны стан, а чырвоныя вастраносыя туфлі маляўніча вылучаліся пры белых панчохах. Кс. Галавінскі крыху занепакоіўся, бо гэтая незвычайная постаць рухалася проста на яго, а потым у захопленым мусульманамі горадзе выразна прагучала: «Пахвалёны Езус Хрыстус!». Гэта быў а. Максімільян...

Вядома, як цяжка бывае, спрабуючы здзейсніць учынкі міласэрнасці для душы бліжняга, настаўляць грэшнікаў ці вучыць тых, хто нічога не ведае, імкнучыся ў рэшце рэшт павялічыць статак хоць бы яшчэ на адну авечку. Айцец Максімільян вельмі хутка ўваходзіў у знаёмствы і заваёўваў сэрцы. Сур'езныя, складаныя рэчы ён мог даносіць проста і зразумела, а калі адчуваў неабходнасць — радасна і дасціпна. У Канстанцінопалі еўрапейскія купцы, сярод якіх былі і людзі, што знаходзіліся ў палоне бязбожнага Асветніцтва, у вольны час вялі розныя дыскусіі, у тым ліку і на рэлігійныя тэмы. Айцец Максімільян цярпліва выслухоўваў нейкую лухту, а потым холадна казаў: «*Si, signiore* — так панове, але...», і далей ішло выкладанне навукі Касцёла, прычым кожнае «так, але» не пакідала ніякіх шанцаў апанентам, якіх потым можна было бачыць ці пры канфесіянале, ці падчас прыняцця св. Камуніі.

Вышэйшыя грамадзянскія і ваенныя саноўнікі мусульманскіх краінаў на Блізкім Усходзе прымалі а. Максімільяна вельмі добра. Адзін чалавек, у якога ён затрымаўся, загадаў у пятніцу (у іх гэта як для нас нядзеля) гатаваць госцю посныя стравы, другія давалі ўзброеную ахову і ўсяляк садзейнічалі. Аднак не толькі ружамі быў высланы яго шлях — даводзілася цярпець і холад, і голад, і небяспеку.

У Ерузалеме кс. Максімільян пазнаёміўся з польскім паэтам Юліўшам Славацкім і пазней спавядаў яго (яны пасябравалі, вялі частую перапіску, але яна не захавалася). Уначы з 14-га на 15 студзеня 1837 г. Славацкі прыслугоўваў падчас св. Імшы пры Гробе Пана, якую цэлебраваў а. Максімільян. Там жа пры Гробе быў выстаўлены герб Расейскай імперыі. Славацкі ўспамінаў, як а. Максімільян прыкрыў маскоўскага арла, бо ён асацыяраваўся ўжо не з Візантыяй, а з гвалтам і агрэсіяй. Праз некалькі гадоў падчас візіту Мікалая І у Рым айцец Максімільян хадайнічаў перад Святым Айцом аб заступніцтве за ўніятаў, якіх расейскія ўлады сілай заганялі ў праваслаўе.


Папа Грыгорый XVI.

Дзіўная рэч, піша гісторык езуітаў у Рэчы Паспалітай кс. Станіслаў Заленскі, але Максімільян Рыла, які спачатку не меў асаблівых сімпатыяў да ордэну, рэзка змяніў сваё стаўленне менавіта пад уплывам яго праследу расійскімі ўладамі, калі сакавіцкім Указам 1820 г. дзейнасць Таварыста Езуса была забароненая. Разам з прафесарамі Полацкай езуіцкай Акадэміі ён пакінуў межы Расейскай імперыі і праз Львоў і Вену 15 жніўня 1820 г. прыбыў у Рым, дзе 15 верасня ўступіў у Таварыства Езуса. Але каб стаць сапраўдным езуітам, спатрэбілася 18 гадоў напружанай падрыхтоўкі...

Гэта быў час, калі ордэн, як пісаў на пачатку XX ст. нямецкі гісторык Генрых Бёмэр: «зноў пачаў ірвацца ў бой, гатовы на ўсе ахвяры; ён зноў здабыў сваю былую баявую гатоўнасць і палітычнае майстэрства. Больш за ўсіх зрабіў для рэарганізацыі ордэну генерал Ян Філіп Ротган. Гэты сур'ёзны, халодны і непахісны галандзец <...> на працягу дваццаці чатырох гадоў (1829–1853) кіраваў ордэнам <...> з такім майстэрствам, што з часоў яго генеральства рымскі народ пачаў называць генерала езуітаў чорным папам». І гэта адбылося пасля ўдару, які, здавалася, быў канчатковым — забароны ордэну і выгнання яго членаў з Расейскай імперыі. Але менавіта тыя 358 выгнаннікаў сталіся падмацаваннем, дзякуючы якому ордэн здолеў узнавіць сваю дзейнасць у Еўропе і Амерыцы і нават у традыцыйна пратэстанцкіх краінах.

Айцец Максімільян Рыла — натура дзейсная, засумаваў сярод італьянцаў — ён ірваўся на Радзіму, у Літву, якая засталася «глыбока ў сэрцы яго і памяці». Хаця пасля паўстання 1831 г.

душпастырская праца ў былым ВКЛ стала немагчымай, ён звярнуўся да расейскага амбасадара Буценева з просьбаю выдаць яму пашпарт: «Я быў непаўналетні, калі выехаў з краю з езуітамі, але грамадзянства не страціў і маю права на вяртанне». Аднак Буценеў пашпарта не даў. Тады а. Рыла пачаў хадайнічаць перад генералам Ротганам, каб дазволіў ехаць без пашпарта: «Я бы ўлез у вакно, калі б мне дазволілі, не тое што ў дзверы». «Супакойся сын, — адказваў той, — калі б толькі ваконца было нам адчыненае...». Пасля гэтага а. Максімільян зацікавіўся місіямі на Блізкім Усходзе. Што было далей, мы ўжо ведаем, да таго моманту, калі ў чэрвені 1839 г. ён ад'ехаў з Рыма ў Бейрут.

Падчас місіі на Усходзе а. Максімільян канчаткова ўмацаваўся ў думцы, што для пашырэння святла Евангелля неабходна стварыць вялікі калегіум, дзе айцы езуіты выкладалі б навукі па-арабску на такім жа ўзроўні, як гэта рабілася ў Еўропе. Святы Айцец паставіўся да гэтага з разуменнем, і ў сакавіку 1840 г. генералу Ротгану быў прадстаўлены падрабязны план «*Collegium Asiaticum*» у Бейруце на 100 навучэнцаў з друкарняй, бібліятэкай, living рознымі майстэрнямі і музеем. Хутка ўзведзены будынак ужо ў лістападзе наступнага года часткова быў гатовы да працы. Адбылося гэта дзякуючы айцу Максімільяну, яго «літоўскай стойкасці», бо ў сваіх пачынаннях ён не аднойчы сутыкаўся з рознымі цяжкасцямі.

Складанае палітычнае становішча, ваенныя канфлікты, рэлігійнае супрацьстаянне ў Малой Азіі — вось тыя абставіны, у якіх здзяйснялася служэнне а. Максімільяна, і гэтыя падзеі зацягнулі яго ў свой вір. Падчас турэцка-егіпецкага супрацьстаяння за панаванне над Ліванам ён рашуча прыняў турэцкі бок, але французскі урад падтрымліваў Егіпет і асцерагаўся, што «*Collegium Asiaticum*» пры такіх настроях прынясе шмат клопату. У Кангрэгацыю веравучэння пайшлі пратэсты, і ў ліпені 1841 г. генерал ордэну адклікаў а. Максімільяна на Мальту.

23 кастрычніка 1841 г. а. Рыла сышоў з парахода «*Great Liverpool*», каб на працягу амаль двух наступных гадоў аддана несці службу ў гэтай ангельскай калоніі. Кажуць, што «адзін у полі не воін», але а. Максімільян абвяргае гэтае выслоўе, бо ён быў адзіным езуітам на востраве, і ён быў сапраўдным воінам. Тое, што ён убачыў, магло прывесці ў адчай не аднаго душпастыра: уплыў пратэстантызму адчуваўся паўсюдна, адукацыя знаходзілася на вельмі нізкім узроўні.

Яшчэ падчас свайго першага прыезду а. Максімільян арганізаваў у касцёле св. Джэймса ў Валеце Катэхетычны інстытут — першую каталіцкую навучальную ўстанову на Мальце. Штодня ён прамаўляў па дзве гаміліі. Па нядзелях праводзіліся рэкалекцыі, тэмы якіх ахоплівалі многія сферы (тэалогію, філасофію, іншыя навукі, сацыяльныя і грамадскія праблемы і г. д). Гэта была сапраўдная школа жыцця. Касцёл св. Джэймса быў заўсёды перапоўнены. Айцец Максімільян як геніяльны прапаведнік і езуіт разумеў, што з гэтай аўдыторыяй, заражанай пратэстантызмам, было б рызыкоўна гаварыць аб праўдах каталіцкай веры. І таму рабіў гэта далікатна, паступова, але штодзённа, каб урэшце абрынуць іх на падрыхтаваную глебу ва ўсёй сваёй трыумфальнай моцы...

У выніку з часам жадаючых уступіць у Таварыства Езуса выстраілася цэлая чарга. Тады айцец Максімільян адабраў 20 найлепшых і адправіў іх у Рым. Цяпер пабудова калегіума напрошвалася сама сабою.

Сваёю актыўнасцю (а план адкрыцця навучальнай установы, здаецца, быў апошняю кропляю) а. Рыла выклікаў незадаволенасць ангельскіх уладаў, пратэстантаў і іншых ліберальных антыкаталіцкіх, і асабліва антыезуіцкіх, колаў. Пасыпаліся абвінавачванні, якія чэрпаліся з некаторых гамілій кс. Максімільяна (з 14 лістапада 1841 года да 3 сакавіка 1842 г. ён прамовіў 200 гамілій), дакладней, іх інтэрпрэтацый. Так, аднойчы разглядалася пытанне адносна супраціву, на які могуць пайсці прыгнечаныя мальтыйцы. Пытанне разглядалася на абстрактным і чыста спекулятыўным узроўні, але падавалася як заклік да паўстання супраць ангельцаў. У выніку варожых захадаў у сакавіку 1842 г. а. Максімільяну было забаронена прапаведаваць, а 26 траўня губернатар Мальты атрымаў петыцыю, пад якою стаяла 1170 подпісаў, сабраных за чатыры дні ў абарону «самага годнага апостальскага місіянера ў гэтай калоніі».

Час вымушанага маўчання а. Максімільян цалкам прысвяціў душпастырскай працы і напісанню каментараў да «Духоўных практыкаванняў» св. Ігнацыя Лаёлы.

Нарэшце пратэсты прынеслі вынік. У траўні 1843 г. Кангрэгацыя па надзвычайных справах зняла з а. Максімільяна ўсе абвінавачванні. Адначасова, па рэкамендацыі кангрэгацыі, генерал ордэну скіраваў яго на Сіцылію, дзе з верасня 1843-га да чэрвеня 1844 г. нястомны місіянер прамовіў звыш 360-ці гамілій і правёў столькі ж рэкалекцый.

У снежні 1845 г., «пакуль іслам не паспеў пашырыць свае пазіцыі», Кангрэгацыя веравучэння стварыла Апостальскі вікарыят Цэнтральнай Афрыкі, у склад якога, як знаўца Усходу і арабскай мовы, увайшоў а. Максімільян. Згодна з планам пашырэння веры ў Афрыцы, прадугледжваўся

ўдзел езуітаў, але генерал Ротган прапанаваў папярэдне правесці даследаванні гэтага рэгіёну, і ў кастрычніку 1846 г. а. Максімільян пакінуў Рым і 16 красавіка 1847 г. дасягнуў Александрыі. Шлях праходзіў праз Мальту, дзе ён наведаў ім заснаваны калегіум, Бейрут, дзе ён дапамог ордэну сёстраў св. Юзафа і выступіў пасярэднікам у набыцці каштоўных рукапісаў для Бібліятэкі Ватыкана.

У ліпені 1847 г. у суправаджэнні чатырох асобаў а. Максімільян скіраваўся ў Каір, але там ён захварэў на цяжкую дызентэрыю. Пасля невялікай затрымкі, нягледзячы на хваробу, напрыканцы верасня а. Максімільян вырушыў уверх па цячэнні Ніла. Шлях быў доўгі і цяжкі — на лодках, плытах і часткова, абыходзячы парогі, на вярблюдах. 11 лютага 1848 г. экспедыцыя дасягнула Хартума, дзе цалкам змучаны кс. Максімільян здолеў здабыць для місіі невялікі дом з агародам.

10 красавіка з Хартума ў Кангрэгацыю Прапаганды ў Ліёне і Парыжы будзе скіравана вялікая справаздача пра заснаванне новых паселішчаў на берагах Ніла.

Хвароба не адступала. Перад смерцю а. Максімільян прасіў паведаміць у Апостальскай Сталіцы аб поспеху экспедыцыі і прыслаць большую колькасць місіянераў...

У пятніцу 25 жніўня 1848 г. касцёл езуітаў у Валеце сустрэў сваіх парафіянаў зацягнутым у чорнае, а пры галоўным уваходзе была прыбіта табліца, лаканічная лаціна якой увабрала ў сябе ўвесь зямны шлях нашага суайчынніка, таму (і «але»), *post festum*, асмелімся паправіць айцоў езуітаў, бо замест «*Polonorum*» мусіла было быць «*Litvinorum*»:

Stanislao Maximiliano Ryllo S.I.
Nobilissima Polonorum Familia
Qui Pietate Doctrina Animi Ingenvitate
Vniversalem
Existimationem Sibi Conciliavit Melitensivm
Amantissimvs
Collegivm S. Pavli In Vrbe Notabili Inchoavit
Perfecit
Varias Nationes Sacris Expeditionibvs Illvstravit
Animabvs Lvcrandis Cvpidissime Inhians
Christiano Nomini
Propagando Remotissimas Infidelivm Regiones
Peracravit
Laboribvs Supra Modvm Qvam Cviqve Credibile
Est
Immanibvs Confectvs Pie Obiit Khartvm in Africa
Penitissima XV Kal. Ivlias An. MDCCCXLVIII
Aetatis
Svae An. XLVI Religiosae Professionis An. XXVIII
Melitenses Amici
Sacerdoti Spectatissimo Oratori Eximio
Viro Incomparabili De Se Optime Merito
Cvm Lacrimis Parentant

Станіславу Максімільяну Рылу
з Т(аварыства) Е(зусавага),
з найшляхетнейшай польскай сям'і,
які пабожнасцю, вучонасцю
і высакароднасцю душы
здабыў сабе сярод усіх добрую славу.
Самы любімы з усіх мальтыйцаў, ён заснаваў
і завяршыў калегіум святога Паўла
ў славутым горадзе (Медыне).
Прасвятліў розныя народы падчас
святых выправаў,
жадаючы і прагнучы здабыць душы
для хрысціянскай веры,
Пашыраючы яе, ён прайшоў найдалейшыя
краі няверных.
Стомлены неймавернымі высілкамі
і празмернаю працаю,
пабожна адышоў у вечнасць у Хартуме
ў Цэнтральнай Афрыцы
ў 15-й календы ліпеня 1848 г. на 46-м годзе
свайго жыцця і на 28-м годзе пасля давання
манаскіх абяцанняў.
Мальтыйскія сябры са слязьмі складаюць
гэтую ахвяру
выдатнаму святару, цудоўнаму прамоўцу,
мужу, непараўнальнаму ў сваіх заслугах.

ЛІТАРАТУРА

1. Бёмер Г. История ордена иезуитов/ Пер. с нем. Н. Попова. — Смоленск, 2002.
2. Григорий XVI (Бартоломео Альберте Каппеллари) — [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: www.hrono.ru/biograf/bio_g/grigory16.php. Час доступу: 05.04.2014.
3. Университет святого Иосифа — [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://ru.wikipedia.org/w/index.php?title=Университет святого Иосифа&oldid=57578552. Час доступу: 29.03.2014.
4. Bystroń J. Wspomnienia syryjskie. Bejrut–Palmira–Damaszek–Warszawa–Kraków–Lublin–Łódź–Paryż–Poznań–Wilno–Zakopane, 1928.
5. Galea M. The Padre Ryllo Affair from Contemporary Journals//Melita Historica. 9 (1985) 2 (133—134). (Journal of the Malta Historical Society). — [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: www. melitensiawth.com/Melita Historica.html. Час доступу: 11.03.2014.
6. Grzebień L. Ryłło Maksymilian Stanisław//PSB. T. XXXIII/4 zeszyt 139. —Wrocław—Warszawa—Kraków, 1992.— S. 504—506 .
7. Hołowiński I. Pielgrzymka do Ziemi Świętej. T. II. — Wilno, 1842.
8. Hoffmanowa z Tańskich K. Pamiętniki. T. III. — Berlin, 1849.
9. Reychman J. Podróżnicy polscy na Bliskim Wschodzie w XIX w. — Warszawa, 1972.
10. Smolikowski P. Historya zgromadzenia zmartwychwstania Pańskiego. T. II. — Kraków, 1893.
11. Uruski S. Ryło//Rodzina. Herbarz szlachty polskiej. T. XV. — Warszawa, 1931. — S. 351.
12. Zalęski S. Jezuici w Polsce porozbiorowej. T. V. cz. II. 1820—1905 — Kraków, 1906.



Айцец Баляслаў Пачопка.

# Піянер каталіцкага друку

Стагоддзе таму ў Вільні перастала выходзіць першая беларускамоўная каталіцкая газета «*Biełarus*».

Калі ў 2010 годзе ў Нацыянальнай бібліятэцы я ўпершыню перагарнуў старыя, пажоўклыя старонкі «*Biełarusa*», адчуў, што пад маімі пальцамі далёкі свет, у якім сто гадоў таму жылі нашыя продкі. Мае студэнцкія перажыванні можна было параўнаць з эмоцыямі археолага-пачаткоўца, які знайшоў каштоўны артэфакт. Я асцярожна гартаў палосы і бачыў перад сабой франтавыя атакі, пажар у вёсцы, незнаёмага святога Кнуда, апекуна Даніі, будаўніцтва касцёла ў Вілейцы, вершы, жарты, загадкі — усё, што цікавіла не толькі інтэлігента, але і звычайнага беларускага хрысціяніна, селяніна, які хацеў ведаць, што адбываецца ў свеце. І калі прааналізаваць кожны 121 нумар газеты, якая выходзіла са студзеня 1913 года да жніўня 1915 года, можна лёгка скласці хроніку жыцця беларуса, адчуць праблемы, якія яго хвалявалі. У іх асвятленні, у тым ліку, была адна з задачаў выдання. «*…і цяпер народ беларускі не мае чаго есці: голад у целе, голад у душы. Дзеля таго мы прыходзім да вас, мілые браты беларусы, і нясём вам страву хрысціянскую*, — звярталіся да чытачоў у дэбютным нумары ад 13 студзеня 1913 года супрацоўнікі газеты. — *Хочам знаць вашае гора, вашыя недастаткі, каб прыйсці з помаччу, з парадай… Дзеля таго людзі добрай волі пачынаюць друкаваць «Беларуса»*.

А пачалася гісторыя газеты яшчэ задоўга да выхаду першага нумара. У 1904 годзе Віленскім біскупам прызначылі адукаванага прыбалтыйскага немца Эдварда Ропа. У Вільні ён адразу праявіў сябе цікавым чынам: нягледзячы на паходжанне, Эдвард Роп актыўна выступаў за ўвядзенне літоўскай і беларускай моваў у касцёльнае жыццё. Паводле Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі, праведзенага ў 1897 годзе, значную частку Віленскай губерні складала беларускамоўнае насельніцтва (56%)[1]. І ідэя выдаваць беларускую каталіцкую газету ў той час ужо была, і ўзнікла яна менавіта ў біскупа Эдварда Ропа. Ксёндз Адам Станкевіч, якога празвалі рыцарам беларускага адраджэння, калісьці пісаў, што Эдвард Роп літаральна «насіўся з думкай выдаваць у Вільні народную каталіцкую газету па-беларуску». Праўда, аднаго запалу ў гэтай справе было мала. Зразумела, далёка не ўсе падтрымалі яго ідэю, а ў 1907-м актыўнага біскупа загадам міністра ўнутраных спраў наогул адхілілі ад кіраўніцтва дыяцэзіяй. Тым часам ужо распачала і завяршыла сваю дзейнасць «Наша Доля», неафіцыйны орган Беларускай сацыялістачнай грамады; друкавалася «Наша Ніва», каля якой трымаўся беларускі творчы асяродак. Пісалі ў гэтых газетах разнастайныя тэксты — ад літаратурных твораў да востра-сацыяльных артыкулаў, — але рэлігійныя пытанні, як сцвярджаў Адам Станкевіч, на старонках выданняў не закраналіся. Пры гэтым патрэба ў каталіцкай газеце з кожным годам узрастала. І Антон Бычкоўскі, будучы рэдактар «Беларуса», нават узяў дазвол на выхад газеты ў губернатара. Але выдаваць газету ён не спяшаўся. Патрэбны былі фінансавыя сродкі, і ён не хацеў, каб годная справа абмежавалася двума-трыма нумарамі. Дапамога ў выніку прыйшла ад супрацоўнікаў… «Нашай Нівы», выдання, якое ідэалагічна у многіх пытаннях адрознівалася ад канцэпцыі «*Biełarusa*». Справа ў тым, што нашаніўцы выдавалі газету ў двух варыянтах: на так званай гражданцы і лацінцы. Калі з грашыма стала зусім складана, яны засяродзіліся выключна на кірылічным варыянце, а лацінку вырашылі прапанаваць беларусам каталікам — Антону Бычкоўскаму, якога атрымалася ўгаварыць пры пасрэдніцтве айца Баляслава

Пачопкі. У выніку грошай хапіла толькі на першыя некалькі нумароў, і часам на палосах з’яўляліся вось такія аб’явы: «*Хто яшчэ не заплаціў за перасылку «Беларуса», просім хутчэй прысылаць грошы, бо рэдакцыя сама дарага плаціць за перасылку газеты*». Дапамогу аказвалі ксяндзы Францішак Будзька, Аляксандр Астрамовіч, а да самага закрыцця выдання пазыкі пастаянна закрывала вядомая мецэнатка беларускай справы княгіня Магдалена Радзівіл.

Нягледзячы на фінансавыя праблемы, у рэдакцыі газеты, якая напачатку мясцілася ў арандаваных пакоях на вуліцы Сямёнаўскай, а пасля ў кватэры Баляслава Пачопкі, сабралася добрая каманда. Напрыклад, пэўны час працаваў у выданні Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.), свае творы друкавалі Казімір Сваяк, Алесь Гарун, Стары Улас, Альберт Паўловіч, Андрэй Зязюля, Гальяш Леўчык, паэт-самародак з Вілейшчыны Альфонс Петрашкевіч. Рэдагавалі газету ўсё тыя ж Бычкоўскі і Пачопка. З часам справы выдання крыху палепшыліся і «*Biełarus*» нават выдаваў тэматычную літаратуру. Так, ксёндз Ільдэфонс Бобіч напісаў працу «Нашто беларусам газеты», якую можна лічыць першым дапаможнікам па журналістыцы ў нашым краі, кс. Канстанцін Стэповіч (Казімір Сваяк) падрыхтаваў кнігу пад назвай «Алькаголь», а Баляслаў Пачопка пераклаў на беларускую мову «Жыццё Папежа Піюса Х» і інш.

У газеце былі пастаянныя рубрыкі: «Каляндар касцельны», «Пішуць да нас», «Ведамасці касцельныя», «Што чуваць», «Весткі з заграніцы», «Наша гаспадарка», «Свая пошта». Напрыканцы абавязкова друкавалі загадкі з адгадкамі, думкі, жарты і абвесткі. Выданне не абмяжоўвалася выключна рэлігійнымі тэкстамі, жыццяпісамі святых, казаннямі, малітвамі (падобныя матэрыялы рыхтавалі пераважна ксяндзы Баляслаў Пачопка, Францішак Будзька, Уладзіслаў Талочка, Антоні Шыляніс), на старонках тыднёвіка ўзнімаліся грамадска-палітычныя, маральныя, эканамічныя і літаратурныя пытанні[2]. Адных толькі вершаў, надрукаваных у газеце, хапіла б на ладны зборнік. Шмат увагі надавалася распаўсюджванню і ўжытку беларускай мовы ў касцёлах. Цэнзура доўгі час абыходзіла газету. «*…“Беларус” рабіў сваю работу ціха, нікому не напрыкаючыся і ворагаў сабе не робячы*»[3]. Газета трымалася беларускіх нацыянальных пазіцый. Крытыкавала русіфікацыю і паланізацыю, аднак паважала суседзяў. Але, калі пачалася Першая сусветная вайна, на старонках газеты сталі з’яўляцца «белыя плямы» цэнзараў. Да завяршэння вайны выданне, на жаль, не дажыло. Гутарка аб закрыцці газеты ў апошнім нумары, які выйшаў 30 ліпеня 1915 г., не вялася, прычым у студзені 1915 г. Баляслаў Пачопка пісаў: «*…у варунках нашых пратрымацца хай бы і адзін год — гэта ўжо шмат значыць*». Вядома, што напрыканцы вайны Баляслаў Пачопка хацеў перадаць выданне каму-небудзь са святароў, а пасля завяршэння баявых дзеянняў разам з ксяндзом Антонам Шышкам спрабаваў аднавіць газету ў Беластоку, але зрабіць гэта не атрымалася.

Нягледзячы на тое, што выданне перастала існаваць, а на яго месца прыйшлі новыя («Беларуская крыніца»), яно пакінула значны след у нашым друку і назаўсёды застанецца менавіта першым беларускамоўным выданнем для католікаў, з якога ўсё пачыналася, — ад яго ўсё пайшло, на яго пасля раўняліся.

Аб чым пісала газета? Працытуем некалькі ўрыўкаў, захаваўшы тагачасную арфаграфію.

**29 жніўня 1913 года.**

«Ужо больш дзясятка гадоў, як агромнай хваляй кінуўся беларускі народ на перасяленне ў Сібір, — піша ксёндз Антоні Жукоўскі ў артыкуле «Патрэба апекі». — Дома ў родным краі цяжка жыць: тут ніхват зямлі, а там зямля худая, пяскі, падзол, то зусім балота. Хлеб родзіць кепска, так часам бывае, што хлебароб насення не верне. Усё гэта паслужыла прычынай, што сяляне пачалі шукаць прывальнейшай і лепшай зямлі, пачалі ехаць у Сібір. Сярод каталікоў-перасяленцаў найбольш беларусаў і латышоў. <…> У Сібіры паўстала некалькі вясковых парафій. Больш усяго паўстала парафій у Томскай губерні, дзе зямля роўная, як стол, а не гарыстая, як у ўсходняй Сібіры. Так у прошлым дзясятку гадоў пабудавана шмат касцёлаў і капліц: сяло Спаское, Цімофееўка, Беластоцкі пасёлак, Малішэўскі пасёлак, Барокаўка і Крастоўка. Пры ўсіх гэтых касцёлах ужо жывуць ксяндзы і ідуць з духоўнай памоцай к гэтым загнаным бядой у далёкі край католікам».

**5 верасня 1913 года.**
**Суды**

Выйшлі два мальцы за сяло і знайшлі пад дрэвам арэх.

— Гэта мой арэх, — кажыць Пранук, — мой, бо я першы яго ўгледзіў.

— Не! — крычыць Юзік, — не, не твой ды мой, бо не ты, а я яго падняў.

І пайшла паміж імі вялікая сварка за гэты арэх.

— Я вас паміру, — кажыць гаспадар, каторы якраз міма праходзіў.

Сеў сабе ён паміж Прануком і Юзікам, узяў арэх, разлупіў, вылушчыў дый кажыць:

— Адна палавіна лускі належыць таму, хто першы гэты арэх угледзіў; другая да таго, хто яго падняў.

І аддаў Прануку і Юзіку па палавінцы лускі.

А ядро сам з’еў.

— Бо ядро, — кажа. — Належыць мне ў заплату за суд і прыгавор…



Hod I. Wilnia 13 studnia 1913 hoda № 1.

# BIEŁARUS

tydniowaja katalickaja hazeta.

Kasztuje s pierasyłkaj: na hod 1 rb. 50 kap. na 6 miesiacau 80 kap.
Addzielny numer 3 kapiejki.

Rukapisy pawinny być padpisany praudziwaj familijej dziela wiedama redakcii, inaksz nia buduć drukawany; rukapisy nie zwiertajucca. Hroszy można pasyłać pacztowymi markami.

Usio adresawać: Wilnia Siemionouskaja wulica d. 6 kw. 5. Redakcija „Biełarusa".

Szkada mnie hetaho narodu... bo nie maje czaho jeści (słowy Chrystusa).

## Pachwalony Jezus Chrystus

„Szkada mnie hetaho narodu... bo nie maje czaho jeści..." (Św. Marka VIII-2).

Słowy katoryje skazau Chrystus 2000 hadou tamu nazad i ciapier dla nas nie staryje. i ciapier narod biełaruski nie maje czaho jeści: hoład u cieli, hoład u duszy. Dziela taho my prychodzim da was, miłyje braty biełarusy i niasiom wam strawu chryścijanskuju. Choczem znać waszaje hora, waszyje niedastatki, kab pryjści s pomaczu, s paradaju... Dziela taho ludzi dobraj woli paczynajuć drukawać „Biełarusa".

1) „Biełarus" budzie stajać zausiody na hrunci chryścijańskim-katalickim, baroniuczy sprawy katalickaj i biełaruskaj.

2) „Biełarus" nia budzie napadać na druhije narodnaści, ci wiery: my choczem tolki razwiwacca u naszaj św. wiery i narodnaści.

3) „Biełarus" budzie pamieszczać u kożnym numery: a) kalendar, b) powieści i apawiedańnia, c) wiadomaści kaścielnyje, d) wiadomaści z zahranicy, e) wiadomaści s kraju, f) wiadomaści haspadarskije, g) wiadomaści a wajnie i szmat druhich patrebnych dla narodu.

Dyk zwiertajemsia da Was, miłyje czytaczy, da was, kamu dorah nasz biedny, ciomny, „tutejszy" narod, kab raszyrali naszuju hazetu, kab prychodzili nam s pomaczu, chto czym może.

Żniwo wialikaje, a nima kamu żaci; prychodźcie-ż żniwiary — czekajem!

Redakcija.

## Kalendar kaścielny.

Studzień.

1 Nowy rok i pamiatka abochodu nadańnia imieńnia Panu Jezusu Chrystusu. Imie Jezus pa starażydousku (hebrajsku) aznaczaje zbawiciel. „Bo nima pad niebam druhoha imieńnia, danaho ludziam, u katorym my usie mieli być zbaulonymi" (Dziei. Ap. 4) Jezus Chrystus jość zbaucam i karonaj usich światych.

2 S-ty Makary, opat. radziusia z biednych baćkou u mieście Aleksandryi w Ehipcie. Douhi czas wiou pabożnaje życcio na pustyni i tam praz siem hadou żywiusia tolki kareńczykami i syrymi trawami, szmat ciarpieu ad heretykau Aryjanou. Umior u staraści, 394 roku pa Chrystusie.

3 Swiataja Genowefa dziewa. Radz. kala Paryża u Francyi. Z małku paścila

Першы нумар газеты,
які выйшаў 13 студзеня 1913 года.

Такі бывае канец судоў. Дзе двое сварацца, там трэці карыстае.

*Тлумачыў Пётра Просты.*

**26 верасня 1913 года.**

«Што чуваць. Крошын. Мінск. губ. Новагр. п. Тутэйшыя сяляне папрасілі кс. А. Боўтуця, свайго пробашча, пасвяціць іх палі. Кс., вядома, паслухаў, але праязджаючы нідалёка іспраўнік убачыў на полі сялян з ксяндзом і падумаў, што гэта працэсія, без пазвалення; пацягнулі ксяндза Б. у суд і засудзілі на 10 днёў у адседку.

Ракаў. Мінск. губ. Ужо кончылі зусім устройства касцёла ў сярэдзіне. Касцёл гэты збудавалі між 1906 і 1908 г. коштам парафіі, кс. пробашча і п. Ратынскага, каторы ў прошлым гаду справіў да касцёла арганы за 4000 р.».

**7 жніўня 1914 года.**

Пішуць да нас. З Свянцяншчыны. Віленскай губерні. Богу дзякаваць, Вера Хрыстусовая ўсё глыбей, мацней і разумней усочываецца ў наш народ беларускі, не бачучы на тыя адпадкі, якія спраўляюць нам шырыцелі бязбожнасці. Аднак ня ўсюды так ёсць. Дужа многа ёсць у нас людзей цёмных «даўнейшых», што мяшаюць яшчэ рэлігію з забабонамі, вераць усялікім старым дурноцтвам, думаючы, што не працівяцца Веры ў Бога. Тымчасам гэта пахнець паганствам <…>. А ёсць-жа ў нас поўна розных чараў, замоваў, каторыя маюць памагаць ад хваробы, дзякуючы толькі пустой брэдні шаптуна, або яго смешнай малітве. Захварэе дзіця, — матка нясе яго да такога махляра, каторы змерыць дзіцянё ніткай, возьме заплату і скажа: «Будзе здаровае». <…> Шаптунства, замовы, варажба, чараўніцтва — путаюцца па цёмных галовах. Каб гэта цемра чымхутчэй кончылася, трэба пільна старацца ня прымешваць да забабонаў ніякіх мадлітваў, бо між мадлітвай і забабонамі німа нічога супольнага — як між агнём і вадой — а з другой стараны, дзе гэта смяхота забабонаў знайдзіцца, трэба або зусім яе касаваць, або змяніць на гульню, забаву, каб ні знаку там не было таго няразумнага спадзеўку.

**28 жніўня 1914 года.**

Конклаў. Помню я, што як быў малы, сяляне мне расказвалі, як гэта выбіраюць новага Папежа, і казалі, што ўсе кардыналы збяруцца ў касцёл св. Пётры ў Рыме і там моляцца, і датуль, покуль не станецца цуд, пакуль Дух святы з'явіцца пад відам галуба і сядзе на плячо катораму з кардыналаў. Той тады і лічыцца выбраным праз Духа святога на Папежа. Думаю, што і цяпер ні адзін з братоў сялян не ведае праўды аб тым, як адбываецца Конклаў або збор для выбару Папежа <…>. Як памрэ Папеж, усе кардыналы павінны явіцца на 11-ты дзень па яго смерці ў Рым і там збіраюцца ў капліцы Сікстынскай (пры базіліцы св. Пётры), у каторай каля бочных сцен устрояны бываюць троны для ўсіх кардыналаў. Часць палацу, дзе ўстройваецца Конклаў замыкаецца і нават замуроўваецца. Нават вокны замуроўваюцца і толькі ў вярху пакідаецца крыха не замураванай дзеля святла. <…> Дзеля падавання кардыналам яды робіцца 8 акенцаў, пры каторых пры кожным ставіцца на варту пралат. Каб быць выбраным, дык трэба, каб на таго было пададзена 2 трэці ўсіх галасоў. Вось калі пакажэцца,

што ніхто не адзяржаў патрэбнага ліку, галасаванне паўтараецца па абедзе, і так штодзень па два разы, а картачкі тыя спальваюцца ў сумысля зробляным комінку, с каторага дым выходзіць на двор так, што людзі, каторых вельмі шмат збіраецца ў гэты час на плацы Ватыканскім, увідзіўшчы дымок, ведаюць, што Папежа яшчэ не выбралі. Калі-ж хто с кардыналаў дастане патрэбны лік галасоў, тады кардынал дзекан і з двума іншымі кардыналамі падыходзіць да выбранага і пытаецца, ці прымае выбар…

Папеж Бенедыкт XV. За трэцім галасаваннем у чацвер 21 жніўня Конклаў выбраў на Папежа кардынала Якуба дэла К'еза, каторы прыбраў сабе імя Бенедыкт XV. <…> Дык няхай жыве і шчасліва кіруе касцёлам святым Бенедыкт XV. Ніхай згінуць пад яго панаваннем усе недаверствы і адшчапенствы, ды па ўсім свеце настане адзін Пастыр і адно стада, няхай увесь свет зразумее, што як адзін ёсць на небе Бог, так адна можа быць на свеце праўдзівая вера, каторая проста вядзе людзей да збаўлення».



№ 17-18 BIEŁARUS 3

## Wialikadusznaść.

*Wialikadusznaść jość cnota, katoraja czaławieku bahatamu zahadawaje dzialicca swaim bahaćciem с biadnicjszymi, pamahajuczy im u kožnaj ich patrebie.*

Wialikadusznym nazywaim takoha czaławieka, katory jak tolki ŭbaczyć, szto chtokoleczy patrabuje jakoj pomaczy, a jon hetuju pomacz mohby wykazać, dyk i robić heta, nia pytajuczy nawat, ci za swaju łasku budzie mieć jakuju adpłatu, ci nie. Može być wialikadusznym i biedny czaławiek, katory swajej majetnaściaj pamahczy nia može bližniamu, ale katory maje szczyruju wolu pamahać usiakamu ŭ patrebie i kali tolki czym može—pamahaje.

Wialikadusznym jość i toj, chto wybaczaje bližnim zroblanyja imi kryŭdy, chto darowuje winawajcam daŭhi, katorych tyja wypłacić nia mohuć. I ŭ kožnym razie cnota wialikadusznaści jość pieknaja i miłaja, ale najpiekniejszaj zdajecca jana jość tady, kali ludzi bahatyja dajuć hroszy na szkułki, szpitali i prytułki dla biednych dziaciej, abo kali nikatorych wywuczajuć swaim kosztam na ludziej wuczonych.

Hetkaja wialikadusznaść dastupna tolki ludziam bahatym, ale nia mienaz, a skarej bolsz jaszcze wialikadusznym jość toj biedny sielanin, katory litujuczysia nad siratoj pamiorszaho susieda prymaje jaje da siabie i dzielicca z jej aposznim kuskom chleba.

Chto wiedaje, skolki na świecie jość biednych, biazprytulnych sirot, starcaŭ, kalekaŭ, skolki bywaje asob, katoryja žadajuć wuczycca, kab stacca bolsz karysnymi hramadzianstwu, ale swaich hroszaj na heta ni majuć, toj dobra zrazumieje, jak wielmi patrebnaja i karysnaja wialikadusznaść na świecie.

Jaszcze jaśniejszaj pakažycca heta cnota, kali ŭzhlanim na jaje praciŭnicu *skupaść*. „Chto skup, to nia hłup" kaže nasza prykazka, ale heta praŭdziwa tolki tady, kali idzie recz ab raskidliwaści, kaliž maim sprawu z praŭdziwaj skupaściaj, to treba wiedać, szto nima reczy brydczejszaj ad jaje. I ci można znajści czaławieka bolsz niszczaśliwaho,

«Белыя плямы» цэнзараў на палосах газеты.

**18 верасня 1914 года.**

«Пакажыце мне хоць аднаго вялікага чалавека, каторы бы мог сказаць: «Усё спазнаў, усё ведаю, усё умею», — звяртаецца да чытачоў у матэрыяле «Мае думкі» Казімір Сваяк. — Німа такога. І дзеля таго вялікія вынаходцы, вялікія філозафы, астраномы, дабрачынцы прызнавалі, што многа яшчэ да пазнання, да навукі, да паправы. Ніводзін з іх не быў высокага здання аб сабе. Толькі тыя, што ўзапраўду не сталі на высокасці духовай, думалі іначэй. Прагледзьця жыццё людзей святых. Яны часта прызнавалі сябе за горшых з найгоршых. А Хрыстус? Ён памі-ма сваей найвялікшай годнасці Бога-Чалавека, умыў ногі сваім вучням пры Апошняй Вячэры, каб паказаць, што тыя людзі, каторыя на гэтым свеце прызнаюць сябе за паследніх, будуць на другім — першымі. І хоць сам быў Безгрэшны і Найсвяцейшы, не цураўся ногі мыць грэшнікам. «Каб тое, што я вам учыніў — і вы рабілі бліжнім сваім». Ці можна сказаць, што пакора паніжае годнасць людзкую? Ніколі. Падвышае на вышыню роўную анёлам, да каторай здатны толькі чалавек, што верыць у дзівы ласкі Божай на зямлі і дзівы дараў Боскіх у небе. «Бо хто паніжаецца, падвышаны будзе».

*Тарас Шчыры*

[1] Первая всеобщая перепись населения Российской Империи 1897 г. Распределение населения по родному языку и уездам 50 губерний Европейской России. Виленская губерния // Демоскоп Weekly. — http://demoscope.ru/weekly/ssp/rus_lan_97_uezd.php?reg=87

[2] Moroz, M. Krynica. Ideologia i przywódcy białoruskiego katolicyzmu. — Białystok: Białoruskie Towarzystwo Historyczne, 2001. – S. 53.

[3] Станкевіч, А. З Богам да Беларусі: Збор твораў. — Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. – С. 484.




# Марыя Канапніцкая пра Тадэвуша Касцюшку па-беларуску

*Maria Konopnicka o Tadeuszu Kościuszce i Insurekcji wierszem / pod red. Marka Leszka Krześniaka. Warszawa: Polska Fundacja Kościuszkowska, 2014. — 204 s.*

Летась у Варшаве пабачыла свет не зусім звычайнае выданне — «*Maria Konopnicka o Tadeuszu Kościuszce i Insurekcji wierszem*» (вершы Марыі Канапніцкай пра Тадэвуша Касцюшку і паўстанне). Яго нязвыкласць — перадусім у двайным перакладзе — на рускую і беларускую мовы, выкананым берасцейкамі Марынай і Ганнай Панішавымі. Ініцыятарам праекту і яго рэдактарам выступіў старшыня Касцюшкаўскага фонду Марак Лешак Кшэсняк.

Усяго ў кнізе сабрана 42 вершы вядомай польскай пісьменніцы, размешчаных паводле храналогіі разгортвання падзеяў. Фактычна гэта перавыданне, бо яшчэ ў далёкім 1904 г. творы выходзілі ў зборніку пад назваю «Гістарычны спеўнік», прычым аўтарка тады схавалася за псеўданімам *Ян Сава*.

Новая кніга адметная лаканічнай, але змястоўнай аналітыкай вершаў аўтарства Лёнгіны Ордан, якую можна часткова прымяніць і да перакладаў, пададзеных побач з кожным пераклумачаным творам (праўда, іх нельга назваць пераствараннем, бо гэта рамесніцкі падрадкоўны пераказ інфармацыі без версіфікатарскіх інтэнцый і кангеніалізацыі паэтыкі).

У якасці паказальнага прыкладу прывядзём не самыя горшыя ў сэнсе перакладу строфы з верша «Рэзь Прагі» (с. 177–179):

*

*Zaszło słońce w krwawe morze —*
*Błysnął bagnet, błysły noże,*
*Suworowa pałasz nagi —*
*Błysnął hasłem na rzeź Pragi!*

*

*Село вмиг солнце в море кровавое,*
*Штыки и ножи заблестели,*
*Суворовым поднята острая сабля,*
*На Прагу отправились звери!*

*

*Сонца ў мора з крыві села,*
*Зброя рускіх зазвінела,*
*Суворава палаш узняўся,*
*Рэзаць Прагу ён сабраўся!*

Таму не будзем засяроджвацца на эстэтычных вартасцях перакладаў.

Між тым, даробак Панішавых можа стаць добрым падмуркам для сапраўдных мастацкіх пераствараннеяў, бо знаходзяцца творы, якія, несумненна, былі б па-свойму цікавымі для беларускага і расійскага дыскурсаў — як з гледзішча мастацкага, так і гістарычнай рэцэпцыі падзеяў, якія для кожнага народа (для беларускага таксама!) прынцыпова розняцца. Так, той самы вобраз галоўнага героя

інсурэкцыі Тадэвуша Касцюшкі для польскага народа выступае на ўзроўні сакралізацыі, без нейкіх лішніх канатацый нацыянальнага апостала. Беларускае мастацтва, у тым ліку паэзія, не схільнае абсалютызаваць такі вобраз Касцюшкі і вызнае яго як патрыёта-ліцвіна — інакш кажучы, протабеларуса (пацвярджэннем таму — вершы Д. Бічэль, В. Жуковіча, А. Белага, В. Шніпа і інш.[1]), хоць і з некаторымі агаворкамі.

Кардынальна супрацьлеглую ролю Касцюшка сыграў для расійскай гісторыі, што знайшло сваё адлюстраванне і ў літаратуры. Возьмем для прыкладу творчасць Аляксандра Пушкіна, які не пакінуў па-за ўвагай фігуру Тадэвуша Касцюшкі як знакавую для свайго часу. Знамянальна, што ў вершы «Клеветникам России» (1931) пііт спачатку гаворыць пра «волнения Литвы» (а не Польшчы), называючы падзеі *«спором славян между собою»* (гэтым самым расійскі класік выяўляе ўспрыманне ліцвінаў не як сучасных нам літоўцаў, а значыць — як беларусаў)[2]. А яшчэ раней, звяртаючыся, як можна разумець, да аднаго з патэнцыяльных такіх «клеветников» — графа Густава Алізара (польскага паэта і грамадскага дзеяча) А. Пушкін спрабуе нівеляваць непрыемныя для Расіі палітычныя перыпетыі, бо, маўляў, *«глас поэзии чудесной // сердца враждебные дружит»*. Пры гэтым ён апелюе да таго факту, што барацьба праходзіла з пераменным поспехам:

*И вы, бывало, пировали*
*Кремля [позор и] плен,*
*И мы о камни падших стен*
*Младенцев Праги избивали,*
*Когда в кровавый прах топтали*
*Красу Костюшкиных знамен.*

(«Графу Олизару», 1924)[3].

Як бачым, для расійскага паэта, які *inter alea* нібыта *«милость к падшим призывал»*, маніякальна-брутальныя забойствы немаўлятаў — даволі трывіяльная з'ява, якая не павінна па яркасці пераўзысці *«глас поэзии»*, *«улыбку муз»*, *«сладкие звуки вдохновенья»*. Такім чынам, А. Пушкін фактычна прызнае жорсткасць з расійскага боку і называе яе час — шляхам спасылкі на паўстанне пад кіраўніцтвам Касцюшкі, штандары якога тапталіся *«в кровавый прах»*. Сапраўды, як сказаў яшчэ адзін расійскі літаратар, С. Даўлатаў, «его (А. Пушкіна. — А. Т.) литература выше нравственности»[4].

Пры параўнанні выяўляецца розніца ў рэцэпцыі і разуменні гістарычнай постаці Касцюшкі і падзей з яго ўдзелам: нават англійскія паэты (Джордж Байран, Сэмюэл Тэйлар Колрыдж, Джэймс Генры Лі Хант, Уолтэр Сэвадж Лэндар) узвышана адносіліся да героя (а ён жа ваяваў супраць Вялікабрытаніі! пазбаўляў яе зямель, дзе яна сцвердзілася); у той жа час расійскі творца бачыў нармальным жорсткае падаўленне збройнага чыну, якім адстойвалася яшчэ не заваяваная суседзямі-агрэсарамі дзяржава.

Але вернемся да згаданага выдання. Распачынаецца яно вершамі пра зараджэнне настрояў супраціву — «Песня надзеі», «Трэцяга мая». Далей ідзе фактычна вершаваная гісторыя другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай, расказаная, натуральна, праз прызму польскага патрыятызму. Многія назвы — характарыстычныя: «Пад Дубенкай» (пра першую значную перамогу Касцюшкі над расійскім агрэсарам 18 ліпеня 1792 г.), «Таргавіца» (пра здрадніцкі акт Таргавіцкай канфедэрацыі супраць прагрэсіўных рэформаў), урэшце «Другі падзел» і г. д. Асноўная маса твораў прысвечана непасрэдна паўстанню 1794 г. — яны складваюцца ў своеасаблівы эпас, наяўнасць якога зрабіла б гонар любой нацыянальнай літаратуры і любому народу. Заключныя вершы — пра паражэнчае завяршэнне збройнага чыну — маюць надзвычай высокую ступень экспрэсіі, прасякнутую шчымлівым болем: «Маскоўская паводка», «Страшныя дні», «Рэзь Прагі» і інш.

У сучасным выданні кожны верш суправаджаецца гістарычнаю даведкаю, таму кнігу лёгка чытаць нават не пасвечаным у падзеі, а надзвычай багатая ілюстраванасць сучаснымі графічнымі малюнкамі Гражыны Кастаўскай і Пятра Шалкоўскага здольная яшчэ і дапамагчы ў фарміраванні ўяўлення вобразаў, якіх можа бракаваць у перакладах.

Напрыканцы дадамо, што гэта — не адзінае выданне, якім Польшча ўганаравала памяць пра героя двух кантынентаў і свайго абаронцы да леташняга 220-га юбілею інсурэкцыі. Толькі згаданы на пачатку рэдактар Л.М. Кшэсняк расстараўся на дзве кнігі, прычым яшчэ адну напісаў сам, стварыўшы цэлую паэму пра трагічную для палякаў бітву пад Мацеёвіцамі — «*Dokąd tak śpieszysz, Panie Generale*» (Варшава, 2013).

Мусім толькі павучыцца такому патрыятызму...

*Анатоль Трафімчык*

[1] Гл.: Трафімчык А. Тадэвуш Касцюшка ў беларускім мастацкім слове // Роднае слова, 2004, № 10. С. 88-92; Трафімчык А. «Краіны гэтае герой...»: Касцюшка ў паэзіі Берасцейшчыны // Маладосць, 2011, №8. С. 117-119; Трафімчык А. Баранавіцкія паэты пра Касцюшку //Рэха Берасцейшчыны [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://reha.of.by/index.php?newsid=21. Дата доступу: 13.01.2012; Трафімчык А. «Ценям Касцюшкі»: гісторыя аднаго верша Дануты Бічэль-Загнетавай // Новы час, 2012, 21 снеж. С. 12.

[2] Пушкин А.С. Полное собрание сочинений. В 17 т. Т. 3, кн. 1 / Художник С. Богачев. М.: Воскресенье, 1995. С. 269.

[3] Пушкин А.С. Полное собрание сочинений. В 17 т. Т. 2, кн. 1 / Художник С. Богачев. М.: Воскресенье, 1994. С. 297.

[4] Довлатов С. Заповедник: Повесть. СПб: Азбука, Азбука-Аттикус, 2011. С. 65.

Надзея Усава

# ВАНЬКОВІЧ – ПАРТРЭТЫСТ

*Да 215-й гадавіны з дня нараджэння мастака і 15-й гадавіны музея «Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва першай паловы XIX ст.»*

Імя Валенція Ваньковіча (1800–1842) стала больш вядомым шырокаму колу мінчанаў у 2000 годзе. Тады ў гонар 200-гадовага юбілею мастака ў драўляным доме па вул. Інтэрнацыянальнай, 33-а (былой Валоскай), што належаў кузену мастака Эдварду Ваньковічу, быў адкрыты філіял Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь — музей сям'і Ваньковічаў[1]. Музей, створаны як рэканструкцыя тыповай шляхецкай мінскай гарадской сядзібы найперш закліканы паказваць культуру пачатку XIX стагоддзя — убранне пакояў і вельмі цікавую калекцыю сядзібных партрэтаў Беларусі, напісаных мясцовымі і прыезджымі майстрамі, аднак творчасць знакамітага мастака-рамантыка Валенція Ваньковіча займае ў ім асаблівае месца. На жаль, яна прадстаўлена копіямі і фатаграфіямі з карцінаў, бо ўся маёмасць Ваньковічаў у Мінску, маёнтках у Калюжыцах і Смілавічах была вывезена гаспадарамі ў Варшаву ў 1918 годзе.



В. Ваньковіч. Аўтапартрэт.
Да 1840 года.

У Беларусі мастак доўгі час быў забыты. Даследаванні аб гэтым жывапісцы з'явіліся праз стагоддзе пасля яго смерці, з сярэдзіны XX стагоддзя, спачатку ў Польшчы, Літве, Расіі, затым і ў Беларусі, але вялікая манаграфія пра яго — яшчэ справа будучыні[2].

Ваньковіч, які належаў да старадаўняга шляхецкага роду, атрымаў у спадчыну зямельную ўласнасць, што давала яму пастаянны даход і становішча ў грамадстве, і заняткі жывапісам не былі для яго адзінай крыніцай існавання. Жывапіс быў сардэчнай цягай, жыццёвым прызваннем, уласцівасцю яго тонкай душэўнай арганізацыі, схільнай да летуценнасці і рэлігійнага містыцызму. «У нас, на жаль, не разумеюць чыста мастацкія памкненні; мастак, як правіла, лічыцца свайго роду рамеснікам, а калі хтосьці, валодаючы сродкамі, прысвячае сябе мастацтву, то лічыцца анамальнай, унікальнай, нават экзальтаванай асобай», — пісала мастачка Зоф'я Шыманоўская ў сваіх успамінах[3]. Прыкладна гэтак жа ставіліся і да надзвычайнага жадання шляхціца Валенція стаць прафесійным мастаком, але яго бацька, адвакат Мельхіёр Ваньковіч, усё ж пагадзіўся паслаць сына пасля заканчэння Полацкага езуіцкага калегіума ў Віленскі ўніверсітэт, дзе была адкрыта кафедра жывапісу. Валенцій чатыры гады ўдасканальваў сваё майстэрства ў Пецярбургу ў Акадэміі мастацтваў, дзе атрымаў залаты медаль і права на пенсіянерства за мяжой, якім не змог скарыстацца з-за адсутнасці грошай у Віленскага ўніверсітэта. Ён вярнуўся дадому, дзе

---

**Надзея УСАВА** — мастацтвазнаўца, загадчык аддзела навукова-асветніцкай работы ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Нарадзілася ў Гомелі ў 1958 годзе. Скончыла Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Ленінградзе па спецыяльнасці «мастацтвазнаўства» (1986 г.). У 1993 г. скончыла аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Акадэміі навук Беларусі. Лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва ў намінацыі «Музейная справа» за экспазіцыі ў новым корпусе НММ РБ (2007). Аўтар канцэпцый і тэматыка-экспазіцыйных планаў экспазіцыі «Прастора Хаіма Суціна» ў г.п. Смілавічы, некалькіх экспазіцый у замкавым комплексе «Мір» (2010), член навукова-творчай групы па стварэнні экспазіцый у Нясвіжскім замку (2011—2012). Аўтар звыш 250-ці артыкулаў па мастацтве Беларусі.

пражыў да 1839 года, калі, захапіўшыся філасофіяй месіянства Анджэя Тавяньскага і жадаючы даведацца пра мастацтва Еўропы, выехаў за мяжу, дзе і памёр ва ўзросце 42-х гадоў на руках у свайго сябра Адама Міцкевіча...

Ванькові да гэтага часу ўспрымаецца як мастак адной карціны. Гаворка, вядома, ідзе пра яго «Партрэт Адама Міцкевіча на скале Аю-Даг», пасля якога ён «прачнуўся знакамітым», бо сапраўды стварыў, па прызнанні сучаснікаў, лепшы рамантычны вобраз вялікага паэта.

І сам мастак адчуваў сябе партрэтыстам. Менавіта за створаныя ім партрэты Акадэмія мастацтваў вылучыла яго на званне акадэміка і прапанавала пісаць сямейны партрэт на гэтае званне, але ён так і не атрымаў яго, хоць сямейны партрэт з жонкай Анэляй і дзецьмі быў напісаны двойчы — як «Святое сямейства» і «Майстэрня мастака».

Валенцій Ваньковіч, як і яго настаўнік Ян Рустэм, любіў партрэты і з замілаваннем пісаў сваё бліжэйшае асяроддзе. «Шмат хто звяртаўся да яго з просьбай зрабіць партрэт. Ваньковіч быў заможным, акрамя таго, меў добрую падтрымку ад універсітэта ... Ён шукаў натуру, рады быў з яе пісаць, і партрэты ад яго атрымлівалі амаль дарма», — пісаў мастак Вінцэнт Смакоўскі[4]. Вядомыя яго партрэты маці і бацькі, братоў, сястры Станіславы Харноўскай, жонкі, дзяцей, некалькі аўтапартрэтаў, партрэтаў Адама Міцкевіча, легендарны партрэт Пушкіна, беларуска-літоўскіх шляхціцаў — Ліпіньскага, Пуслоўскага, параў Пясецкіх і Тавяньскіх, Юльяна Корсака, Станіслава Хамінскага, Антонія Радзівіла, Ваўжынца Ржавуцкага і яго жонкі, партрэт Александрыны Манюшкі («Дама за пасьянсам»), Генрыха Ржавуцкага, Аляксандра і Канстанцыі Сулістроўскіх, Віктара



Сядзіба Ваньковічаў. Фота 1979 г.

і Марцыяна Орды, Эвеліны Ганской-Бальзак, Марыі Шымаоўскай і яе дачок, Антона Гарэцкага і інш. Пісаў Ваньковіч таксама афіцыйных і гістарычных асобаў — мінскага губернатара графа С. Строганава (з натуры), французскага імператара Напалеона (сімвалічны).

Дарэчы, ёсць у Ваньковіча вельмі цікавы вобраз Хрыста — ён называецца «Ecce Homo» (каля 1842 г., захоўваецца ў Варшаве).

Яго партрэты шматстайныя і дзеляцца на некалькі тыпаў: пераважаюць сямейныя (шмат з якіх парныя), ёсць нешматлікія парадныя з сімвалічнымі фігурамі, даволі рэдкія — так званыя сармацкія, выкананыя ў традыцыях старога сядзібнага партрэта XVIII стагоддзя, і інтымныя — мініяцюрныя.

Парадны партрэт у творчасці Ваньковіча прадстаўлены партрэтам знакамітай піяністкі Марыі Шыманоўскай. Партрэт знаходзіўся ў калекцыі сям'і піяністкі, затым у выдаўца «Віленскага альбома» Я.К. Вільчынскага (які прапаноўваў яго ў 1848 г. Польскай бібліятэцы за 25 дукатаў) і ў рэшце рэшт паступіў у Музей Адама Міцкевіча, адкрыты ў 1903 годзе ў Польскай бібліятэцы ў Парыжы. У 2015 годзе мінскім мастаком Віктарам Альшэўскім музею Ваньковічаў была падараваная зробленая з натуры ў Парыжы (пры падтрымцы «Прыёрбанка») копія з гэтага партрэта.

Прыгажуню Марыю Шыманоўскую мастакі любілі пісаць: акрамя старэйшай дачкі мастачкі Зафіі, яе малявалі французскі мастак Н. Жак, польскія — А. Какуляр, Р. Жукоўскі, беларускія —Е. Аляшкевіч і В. Ваньковіч.

Сярод гэтага шэрагу партрэт работы Ваньковіча — самы эфектны. Ён напісаны ў Пецярбургу ў тым жа ўдалым для Ваньковіча 1828 годзе, што і «Міцкевіч на скале Аю-Даг», калі мастак быў акрылены стыпендыяльнай пенсіянерскай паездкай за мяжу. У 1828 годзе Марыя Шыманоўская, «першая фартэпіяністка іх Імператарскіх Вялікасцяў», жыла ў Пецярбургу і вяла музычны салон (яе вучаніцай была старэйшая дачка імператара Мікалая І Вольга). Салон Шыманоўскай наведвалі многія польскія і рускія арыстакраты і людзі мастацтва: князь П. Вяземскі, М. Глінка, В. Жукоўскі, А. Пушкін, М. К. Агінскі, А. Міцкевіч і іншыя. Ваньковіч з жонкай сябравалі з Шыманоўскімі, суседнічалі дачамі ў Паргалаве і часта сустракаліся вечарамі.

З'яўленне гэтага партрэта было невыпадковым — Ваньковіч быў зачараваны абаяннем



А. Какуляр.
Партрэт Марыі Шыманоўскай.

адценняў і валераў. Хто мог падумаць, што ўсяго праз 3 гады, у 1831 годзе, гэтая прыгажуня памрэ падчас эпідэміі халеры ў Пецярбургу ва ўзросце 41 года? Што праз 3 гады пасля яе смерці Адам Міцкевіч ажэніцца з яе малодшаю дачкою Цалінай, якой ён пісаў у дзявочы альбом жартаўлівыя вершы-мадрыгалы...

Валенцій Ваньковіч пісаў і мініяцюрныя партрэты, пераважна членаў сваёй сям'і — сястры Станіславы Харноўскай і бацькі Мельхіёра Ваньковіча[5].

Нядаўна са збораў Дзяржаўнага Эрмітажа быў апублікаваны мініяцюрны (яго велічыня — 6,5х5 см) партрэт невядомай маладой жанчыны ў цёмна-чырвонай сукенцы, датаваны тым жа 1828 годам, што і партрэты Адама Міцкевіча і Марыі Шыманоўскай. На выгляд, мадэлі 16–17 гадоў. Яна напісана акварэллю ў васьмікутніку на гладкім шэрым фоне. Дзяўчына апранутая ў сціплую цёмную сукенку з «іспанскім» карункавым каўнерам, але прычасаная па модзе «а ля шынуа» паводле кітайскага стылю.

Імя мадэлі застаецца невядомым, але можна выказаць здагадку, што Ваньковіч маляваў маладую жанчыну са свайго кола: сваю юную «архімілую» жонку Анэль «рафаэлеўскай прыгажосці», якая прыехала да яго ў Пецярбург у 1828 годзе пасля нараджэння першынца Адама, або малодшую дачку Марыі Шыманоўскай Цаліну. Партрэт выкананы найтонкім пункцірам (пуантэлью) — маленькімі кропкамі ці кароткімі рыскамі. Ваньковіч-мініяцюрыст не імкнуўся да глыбокага раскрыцця характару мадэлі, ён бачыў сваю задачу ў іншым — дакладна перадаць прыгажосць аксаміту і карункаў, падкрэсліць хараство дзявоцтва: пяшчотны румянец шчок, бляск вачэй, пругкасць кудзерак. Гэтая мініяцюра — вытанчаны шэдэўр па вытанчаным каларыце і па майстэрстве валодання тэхнікай жывапісу па косці.

У мінскі перыяд творчасці Ваньковіч аддаў даніну і традыцыйнаму сармацкаму партрэту, які быў неад'емнай часткай шляхецкіх партрэтных галерэяў. Да такога тыпу партрэта належыць «Партрэт Аляксандры Манюшкі



В. Ваньковіч.
Партрэт Марыі Шыманоўскай. 1828 г.
Музей Адама Міцкевіча ў Парыжы.

і талентам Марыі Шыманоўскай. Ён узяў за аснову кампазіцыю варшаўскага партрэтыста Аляксандра Какуляра, які адлюстраваў Шыманоўскую ў модным ўсходнім цюрбане за фартэпіяна. Ваньковіч трохі відазмяніў кампазіцыю, надаўшы ёй лёгкі ўсхваляваны рух, захоўваючы зялёную драпіроўку і інтэр'ер у духу італьянскага палаццо. Ваньковіч — праўдзівы рамантык — умела перакладае партрэт рэальнай жанчыны ў алегорыю, дапаўняючы кампазіцыю фігуркай Амура, які падае ёй кнігу з нотамі. Піяністка тут — «чароўная багіня музыкі», «царыца гукаў», як называлі яе Гётэ і Міцкевіч. Адна рука Шыманоўскай ляжыць на клавішах інструмента, нібы падбіраючы музыку, другой, задумаўшыся, яна прымае ноты. Мастак адлюстроўвае мадэль ва ўладзе натхнення, якое дадзена ёй вышэйшымі сіламі (што нехарактэрна для параднага партрэта). Ваньковіча часта папракалі за цёмны, «непрыемны», змрочны каларыт, але гэты партрэт вельмі эфектны па жывапісе: мастак выкарыстаў толькі адкрытыя яркія колеры без



В. Ваньковіч.
Партрэт Аляксандры Манюшкі
з Ржавуцкіх. 1829 г. Прыватны збор.
ЗША.

з Ржавуцкіх» з прыватнага збору ў ЗША. Аляксандра Ржавуцкая была жонкаю Аляксандра Манюшкі (1801—1836) са Смілавічаў, рана памерлага вучонага-гуманіста, які валодаў некалькімі старажытнымі мовамі, і да таго ж, як і сябар Ваньковіча Чэслаў Манюшка, быў мастаком-аматарам. Іх дачка Паўліна выйдзе замуж за Лявона Ваньковіча, прынёсшы ў пасаг Ваньковічам Смілавічы — багаты квітнеючы маёнтак. Такія партрэты ў творчасці рамантыка Ваньковіча сведчаць пра глыбокае ўкараненне сармацкіх традыцый і нават пра сармацкае адраджэнне, уласцівае 1830-м гадам. Рамантызацыя сармацкіх традыцый праявілася не толькі ў архаічнасці адзення, але і ў адсутнасці ідэалізацыі мадэлі, падкрэсленым партрэтным падабенстве і нават гратэскавасці вобразаў.



В. Ваньковіч.
Партрэт маладой жанчыны
ў цёмна-чырвонай сукенцы. 1828 г.

Адкрыццём у партрэтнай творчасці Ваньковіча стаў партрэт паэта Тамаша Зана, прапанаваны ў 2014 годзе для куплі ў беларускія зборы прыватным калекцыянерам з Пецярбурга. Партрэт пад назваю «Мужчынскі партрэт з кнігай» трапіў у Рускі музей на экспертызу як праца рускага мастака Аляксандра Варнека, але пры раскрыцці ніжняй часткі палатна на цёмным фоне выявіўся подпіс Валенція Ваньковіча. Імя мадэлі, па вядомых партрэтах Я. Рустэма і Р. Жукоўскага, вызначыў пецярбургскі навуковец з Пушкінскага дома, доктар філалагічных навук і кандыдат мастацтвазнаўства Вадзім Старк[6]. Дапамог у яго атрыбуцыі мундзір Горнай тэхнічнай школы з характэрнымі гузікамі...

Валенцій Ваньковіч пісаў і Тамаша Зана — сябра па Віленскім універсітэце, яшчэ падчас вучобы ў Вільні. Зан як актыўны член таварыства філарэтаў быў у 1824 годзе асуджаны царскім урадам на ссылку ў Арэнбург, дзе правёў 13 гадоў. Паэт, літаратуразнаўца, кандыдат філасофіі, доктар матэматыкі ў 21 год, ён і там вёў навуковыя даследаванні: сабраў калекцыю мінералаў, удзельнічаў як асістэнт-метэаролаг у даследаваннях акадэміка А.Гумбальдта, ездзіў у экспедыцыі па Кіргізіі і Урале. У 1837 годзе Тамаш Зан вярнуўся з ссылкі і атрымаў працу бібліятэкара ў Горнай тэхнічнай школе ў Пецярбургу. Менавіта падчас працы ў Горнай школе В. Ваньковіч напісаў партрэт свайго сябра. Тамаш Зан намаляваны за сталом, з раскрытай кнігай. Святлом вылучаныя яго твар і рукі...

У 1841 годзе Тамаш Зан вярнуўся на радзіму, у Вільню, дзе працаваў у Корпусе горных інжынераў. У апошнія гады займаўся сельскай гаспадаркай у набытым для яго сябрамі ў складчыну маёнтку Кахачын у Сенненскім павеце (на Віцебшчыне), працягваў літаратурную дзейнасць, вывучаў фальклор.

Набыццё такога ўзроўню партрэта ў карпаратыўную калекцыю «Белгазпрамбанка» стала знакавай падзеяй для мастацтва Беларусі. Цяпер гэты адзіны ў нас арыгінальны партрэт экспануецца ў Доме Ваньковічаў.

Чатыры тыповыя для Ваньковіча партрэты — парадны, камерны, мініяцюрны і сармацкі — падкрэсліваюць разнастайныя грані таленту Ваньковіча-партрэтыста. За дваццаць з невялікім гадоў творчага жыцця ён напісаў каля паўсотні партрэтаў, частка з якіх вядомая па згадваннях ў літаратурных крыніцах і ўспамінах сучаснікаў, а захавалася іх каля 30-40 у зборах музеяў і прыватных калекцыях. Творы Ваньковіча разышліся не толькі па розных краінах, але і па кантынентах, і сабраць ды каталагізаваць іх разам можна толькі на выставе (рэальнай ці віртуальнай) або ў манаграфічным альбоме. Калі такое здарыцца, атрымаецца найцікавейшы групавы партрэт беларуска-літоўска-польскай шляхты — пакалення перыяду лістападаўскага паўстання 1830 года.

1 Аўтар канцэпцыі — намеснік дырэктара на навуковай рабоце, заслужаны дзеяч мастацваў І.М.Паньшына ( 1939—2010).
2 Валенцій Ваньковіч. З серыі «Славутыя мастакі з Беларусі». Аўтар тэксту і складальнік — Н.В.Сычова. — Мінск, «Беларусь». 2012. Белорусскій родовод. Ваньковичи. Составители Н. А. Голубева, Н. М. Усова, Л. В. Языкович. — Мінск. Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі. 2012.
3 Pamiętnik Zofii Szymanowskiej. Biblioteka Narodowa w Warszawie (Rkp. Nr 25) http://wolnelektury.pl/katalog/lektura/brazownicy.html
4 Свирида И.И. Художник Валентий Ванькович — значение в контексте европейской и русской культуры // Белорусский родовод. Ваньковичи. Составители Н. А. Голубева, Н. М. Усова, Л. В. Языкович. — Мінск. Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі. 2012.— С. 191
5 Захоўваюцца ў прыватнай калекцыі ў Лондане.
6 «Белгазпрамбанк» набыў «Партрэт Тамаша Зана» пэндзля Валенція Ваньковіча http://belgazprombank.by/about/press_centr/novosti_banka/2013/belgazprombank_priobrel_portre/

# CONTENTS

We start the new issue of the quarterly magazine "Our Faith" with the article "Time of Mercy", which contains the text of Pope Francis' homily with announcement of extraordinary Jubilee dedicated to Divine Mercy (p. 2-3).

We present some articles dedicated to the history of the Salesian Society and to St. John Bosco (prepared by Y. Shedzko): essays "Da Mihi Animas Caetera Tolle", "Teacher of Youth - Saint John Bosco», «Activity of the Society of St. Francis de Sales in Belarus» (p. 4-13).

A. Wooden offers the readers the article «Agent of Jesus Christ» about the participation of the Orthodox priest V. Baravoy in the Second Vatican Council (the article is dedicated to the 50th anniversary of the end of the work of Vatican II) (p. 14-19).

We print the article "It Is Cold in Our House" by the famous theologian and poet fr. *Wacław Oszajca SJ* translated from Polish by Y. Shedzko. The author discusses the complex problems of the modern Church (p. 20-23).

From the article «Ways to the Word» by fr. S. Surynovich, a doctoral candidate in biblical theology, you will learn about translations of the Bible into the Belarusian language (p. 24-31).

Article "The Birds of Čiurlionis" by L. Kaminskaya dedicated to the memory of a unique Lithuanian Catholic composer and artist M.-K. Čiurlionis (p. 32-35).

Musicologist S. Nemagay dedicated her article "Called by the Name of the Disciple from Emmaus" to the 250th anniversary of M. K. Oginski (p. 36-41).

In the column «Poetry» we place some verses by M. Duksa and prominent Belarusian folklorist, Doctor of Philology, A. Lis (p. 42-45).

M. Skobla in the essay «To Protect One's Hives...» writes about the interesting book by Z. Veras «As Far as the Hand Holding the Pen» which contains the memories and letters of the famous writer (p. 46-49).

Poetess D. Bichel in the essay «Vasil Bykau and Aliaxey Karpyuk» recalls her meetings with the prominent Belarusian writers (p. 50-53).

In the column «Prose» we publish some notes by U. Siuchykau «From the «Stories by Uladzia»» (p. 54-56).

Historian A. Shpunt dedicated his article «Go ye therefore, and teach all nations...» to the memory of a forgotten church leader fr. M. S. Ryla SJ (p. 57-61).

T. Shchyry in his article «A Pioneer of the Catholic Press» writes about the interesting history of the first Belarusian-language Catholic newspaper "Belarus" on the occasion of its 100th anniversary (p. 62-65).

A. Trafimchyk in his article «Maria Konopnicka of Tadeusz Kosciuszko in Belarusian» talks about the book of poems by M. Konopnicka, published in Warsaw in 2014 (p. 66-67).

We publish the article «Vankovich, a Portraitist» by N. Usava dedicated to the 215th anniversary of the birth of the artist V. Vankovich (p. 68-71).

# RESÜMEE

Die neue Nummer der Vierteljahreszeitschrift „Unser Glaube" beginnt mit dem Artikel „Die Zeit der Barmherzigkeit", der den Text der Homilie von Papst Franziskus anlässlich der Verkündigung des Außerordentlichen Heiligen Jahres „Jubiläum der Barmherzigkeit" in der Katholischen Kirche enthält (S. 2-3).

Der Geschichte der Kongregation der Salesianer und dem heiligen Johannes von Gott sind die Materialien, die von J. Schedsjko vorbereitet wurden, gewidmet: Skizzen „Da mihi animas caetea tolle", „Der Lehrer der Jugendlichen – der heilige Johannes von Gott", „Die Tätigkeit der Gemeinschaft des heiligen Franz von Sales in Belarus" (S. 4-13).

A. Wuden bietet den Leserinnen und Lesern den Artikel „Ein Agent von Jesus Christus" über die Teilnahme des orthodoxen Priesters Pater W. Barawoj am II. Vatikanischen Konzil (anlässlich des 50. Jahrestages der Eröffnung des II. Vatikanischen Konzil) (S. 14-19).

Der Artikel „In unserem Haus ist es kalt" des bekannten Theologen und Poeten Wacław Oszajca SJ ist in der belarussischen Übersetzung aus dem Polnischen von J. Schedsjko veröffentlicht. In diesem Artikel reflektiert die Autorin über komplizierte Probleme der modernen Katholischen Kirche (S. 20-23).

Über die Übersetzungen der Bibel ins Belarussische berichtet der Doktorand der biblischen Theologie Priester S. Surynowitsch im Artikel „Wege zum Wort" (S. 24-31).

Dem Andenken an den einzigartigen litauischen Komponisten und Maler, Katholiken M. K. Čiurlionis ist der Artikel von L. Kaminskaja „Die Vögel von Čiurlionis" gewidmet (S. 32-35).

Anlässlich des 250. Jahrestages von M. K. Oginski wurde der Artikel der Musikwissenschaftlerin S. Nemagaj „Nach dem Namen des Schülers aus Emmaus genannt" vorbereitet (S. 36-41).

Die Rubrik „Poesie" enthält Gedichte von M. Duksa und A. Lisa, dem bekannten belarussischen Volkskundler, Doktor der philologischen Wissenschaften (S. 42-45).

In der Skizze „Die eigenen Bienenhäuser beschützen" schreibt M. Skobla interessant über das Buch von S. Weras „Solange die Hand die Feder hält", das die Erinnerungen und Briefe der berühmten Schriftstellerin enthält (S. 46-49).

Die Poetin D. Bitschel erinnert sich im Essay „Wassil Bykau und Aljaksej Karpjuk" an ihre Treffen mit hervorragenden belarussischen Schriftstellern (S. 50-53).

In der Rubrik „Prosa" sind die Aufzeichnungen von U. Siutschykau «Aus der Reihe „Ulads Geschichten"» veröffentlicht (S. 54-56).

Dem Andenken an den in Vergessenheit geratenen Kirchenschaffenden Pater M.S. Ryla SJ ist der Artikel des Geschichtswissenschaftlers A. Spunt „So gehet hin und lehret alle Völker " gewidmet (S. 57-61).

T. Schtschyry schreibt im Artikel „Der Pionier des katholischen Drucks" anlässlich des 100. Jubiläums der ersten belarussischsprachigen katholischen Zeitung „Belarus" über ihre interessante Geschichte (S. 62-65).

Im Artikel von A. Trafimtschyk „Maria Konopnicka über Tadeusz Kościuszko auf Belarussisch" erzählt über den Gedichtband von M. Konopnicka, der 2014 in Warschau veröffentlicht wurde (S. 66-67).

Anlässlich des 215.Geburtstages des Malers W. Wanjkowitsch ist der Artikel von N. Usawa „Wanjkowitsch als Porträtmaler" (S. 68-71).

# PODSUMOWANIE

Nowy numer kwartalnika „Nasza wiara" rozpoczyna się materiałem „Czas miłosierdzia", w którym został zamieszczony tekst homilii, wygłoszonej przez papieża Franciszka z okazji ogłoszenia w Kościele Jubileuszu Nadzwyczajnego Roku Miłosierdzia (s. 2-3).

Historii kongregacji salezjanów i postaci św. Jana Bosko poświęcone są materiały przygotowane przez J. Szedźko: eseje „Da mihi animas caetera tolle", Nauczyciel młodzieży – święty Jan Bosko" oraz „Działalność Towarzystwa świętego Franciszka Salezego na Białorusi" (s. 4-13).

A. Wooden proponuje czytelnikom artykuł „Agent Jezusa Chrystusa" o udziale w II Soborze Watykańskim prawosławnego kapłana ojca W. Barawoga (w 50-rocznicę zakończenia prac II Soboru Watykańskiego) (s. 14-19).

W przekładzie z języka polskiego J. Szedźko drukujemy artykuł znanego teologa i poety Wacława Oszajcy SJ „Zimno w naszym domu", w którym autor rozważa o złożonych problemach współczesnego Kościoła (s. 20-23).

O przekładzie Biblii na język białoruski opowiada w artykule „Drogi do Słowa" doktorant teologii biblijnej ks. S. Surynowicz (s. 24-31).

Pamięci wyjątkowego litewskiego kompozytora i artysty, katolika M.K Čiurlionisa poświęcony jest materiał Ł. Kamińskiej „Ptaki Čiurlionisa" (s. 32-35).

Z okazji 250. rocznicy urodzin M.K. Ogińskiego przygotowany został artykuł muzykoznawcy S. Niemagaj „Imieniem ucznia z Emaus nazwany" (s. 36-41).

W rubryce „Poezja" zamieszczone zostały wiersze M. Duksy i znanego białoruskiego folklorysty, doktora nauk filologicznych A. Lisa (s. 42-45).

M. Skobła w eseju „Bronić swoje ule…" pisze ciekawie o książce Z. Wieras „Dopóki ręka pióro trzyma", w której są przedstawione wspomnienia i listy sławnej pisarki (s. 46-49).

Poetka D. Biczel w eseju „Wasyl Bykow i Aleksiej Karpiuk" wspomina o swoim spotkaniu z wielkimi białoruskimi pisarzami (s. 50-53).

W rubryce „Proza" drukujemy notatki U. Siwczykawa (s. 54-56).

Pamięci zapomnianego kościelnego działacza o. M.S. Ryłło SJ poświęcony został artykuł historyka A. Szpunta „Idźcie więc i nauczajcie wszystkie narody…" (s. 57-61).

T. Szczyry w artykule „Pionier katolickiego druku", z okazji 100-lecia pierwszej białoruskojęzycznej katolickiej gazety „Bełarus", pisze o jej ciekawej historii (s. 62-65).

W artykule „Maria Konopnicka o Tadeuszu Kościuszce po białorusku" A. Trafimczyk opowiada o książce wierszy M. Konopnickiej, która wyszła w Warszawie w 2014 roku (s. 66-67).

Z okazji 215. rocznicy urodzin artysty W. Wańkowicza publikujemy artykuł N. Usawaj „Wańkowicz portrecista" (s. 68-71).

# SOMMARIO

Il nuovo numero della rivista trimestrale "Naša vera" inizia con blocco intitolato "Il tempo della Misericordia" che comprende il testo della bolla pontificia pronunciata da papa Francesco in occasione dell'indizione da parte della Chiesa Cattolica dell'Anno del Giubileo Straordianario della Misericordia (p. 2-3).

I saggi «Da mihi animas caetera tolle», "L'insegnante dei giovani Giovanni Bosco", "L'attività della Comunità di San Francesco di Sales in Bielorussia" preparati da J. Šedzko sono dedicati alla storia della Congregazione dei Salesiani e alla personalità del San Giovanni Bosco (p. 4-13).

A. Wooden sottopone all'attenzione dei lettori l'articolo "L'agente di Gesù Cristo" sulla partecipazione del sacerdote ortodosso padre V. Baravy al Concilio Vaticano II (in occasione del 50° anniversario della fine del Concilio Vaticano II) (p. 14-19).

Si pubblica l'articolo "Nella nostra casa fa freddo" del famoso teologo e poeta Vazlau Aszajzy SJ (tradotto dal polacco da J. Šedzko) nel quale l'autore riflette sui problemi della Chiesa contemporanea (p. 20-23).

Il Dottorando in Teologia biblica, prete S. Surynovič racconta delle traduzioni della Bibbia in lingua bielorussa nell'articolo "Le strade verso la Parola" (p. 24-31).

L'articolo di L. Kaminskaja "Gli uccelli di Čiurlionis" è dedicato alla memoria del straordinario compositore e pittore lituano, cattolico M. K. Čiurlionis (p. 32-35).

Per il 250° anniversario dalla nascita di M. K. Oginski è stato preparato l'articolo del critico musicale S. Nemagaj "Nominato con il nome del discepolo di Emmaus" (p. 36-41).

Nella rubrica *Poesia* sono collocate le opere di M. Duksa e del famoso folclorista bielorusso, Dottore di ricerca in Lettere A. Lis (p. 42-45).

M. Skobla nel saggio "Proteggere i propri alveari…" racconta del libro di Z. Veras "Finchè la mano tiene una penna…", una raccolta di memorie e di lettere della famosa scrittrice (p. 46-49).

La poetessa D. Bičel nel saggio "Vasil Bykau e Aliaksej Karpiuk" ricorda dei suoi incontri con eccellenti scrittori bielorissi (p. 50-53).

Nella rubrica *Narrativa* sono pubblicati gli appunti di U. Siučykau "Dalla raccolta "Le storie di Uladz" (p. 54-56).

Alla memoria dell'operatore ecclesiastico dimenticato, padre M. S. Ryla SJ è dedicato l'articolo dello storico A. Špunt "Allora andate e insegnate a tutti i popoli…" (p. 57-61).

T. Ščyry nell'articolo "Il pioniere della stampa cattolica" uscito in occasione del 100° anniversario del primo giornale cattolico in lingua bielorussa scrive della storia interessante dell'edizione (p. 62-65).

Nell'articolo "Marya Konopnicka su Tadeusz Kosciuszko in lingua bielorussa" A. Trafimczyk racconta del libro di poesie di M. Konopnicka uscito in Varsavia nel 2014 (p. 66-67).

In occasione del 215° anniversario dalla nascita del pittore V. Vankovič si pubblica l'articolo di N. Usava "Vankovič, ritrattista" (p. 68-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — фрагмент абраза святога Францішка Сальскага.

*Часопіс «**НАША ВЕРА**», № 4 (74)/2015.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 22.12.2015 г. Фармат 60х84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак № 8072.*
*Надрукавана ў ООО «Юстмаж» Ліцэнзія № 02330/250 ад 27.03.2014.*
*Вул. Каліноўскага, д. 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.*

# ПТУШКІ ЧУРЛЁНІСА



«Рай». 1909 г.



«Казка Замка». 1909 г.



«Казка каралёў». 1909 г.



«Стварэнне свету». 1905 г.



«Саната вясны. Андантэ». 1907 г.



«Ахвярапрынашэнне». 1909 г.

# ВАНЬКОВІЧ – ПАРТРЭТЫСТ



Адам Міцкевіч на скале Аю-Даг. 1828 г.
Нацыянальны музей у Варшаве.



Партрэт Войцеха Пуслоўскага. 1830 г.
Літоўскі мастацкі музей. Вільнюс.



Партрэт Тамаша Зана. 1837–1839 гг.
Карпарытыўны збор «Белгазпрамбанка», Мінск.